Зачыніўшы дзверы, яна сказала: — У другой палавіне дома санстанцыя кватаравала, а цяпер Антаніна Лук'янаўна жыве.

— А дзе ж цяпер супрацоўнікі санстанцыі?

— Дзе хто, яны ўжо не гаспадары.

— А хто?

Цётка Аня са здзіўленнем глянула на яго і паківала галавой.

Пальчэўскі думаў цяпер, як налета, закончыўшы інстытут, прыедзе і ўвойдзе сюды Зося, з якой ён запісаўся ўсяго месяц назад... Цяпер Зося паехала са сваімі аднакурснікамі — будучымі настаўнікамі — у калгас на ўборку ўраджаю.

— Мне можна ісці? — спытала нянька, заўважыўшы, што Пальчэўскі задумаўся.

— Так, так... Выбачайце... а што, у галоўнага ўрача была вялікая сям'я?

— Адзін, як палец. Усё казаў, на раёне, маўляў, добрых дзяўчат няма.

— Падумайце, які себялюб, — усміхнуўся Пальчэўскі. — Ён ужо свае рэчы вывез?

— Ды якія там рэчы! Грыша усё на газік забраў: і галоўурача, і рэчы. Выпіць любіў, дык якія ж у яго рэчы... Бальнічнае ўсё стаяла, толькі перад вамі Антаніна Лук'янаўна загадала вынесці...

— Ну, добра,— сказаў Пальчэўскі.— Не буду вас болей затрымліваць. Дзякуй.

Цётка Аня выйшла. Пальчэўскі сеў пасярод пакоя на свой чамадан і раптам адчуў, што вельмі стаміўся.

Калі ў аддзеле кадраў Пальчэўскаму прапанавалі пасаду галоўнага ўрача раёна, дык ён спачатку разгубіўся. У другой палове дня яго запрасілі на прыём да загадчыка. Пальчэўскі зайшоў у кабінет усхваляваны. Загадчык аблздраўаддзела, высокі, яшчэ не стары чалавек, падаў яму руку, прапанаваў папяросы, закурыў сам і, адкінуўшыся на спінку крэсла, стаў разглядваць Пальчэўскага. Каб выйсці з няёмкага становішча, Пальчэўскі распачаў гаворку сам, сказаў, што ніякіх схільнасцей да адміністрацыйнай работы не мае, што рыхтаваўся стаць радавым тэрапеўтам.

— Нічога, нічога. Паспрабуйце свае сілы, не здолееце — вызвалім пры першай магчымасці.

Гэта азначала, што не ведаем, калі вызвалім. Пальчэўскі адчуў нейкую крыўду, але пастараўся ўтаіць свае пачуцці. Загадчык аблздрава падняўся з-за стала, даўшы зразумець, што прыём скончан.

На другі дзень Пальчэўскаму ўручылі загад, паводле якога ён не прызначаўся галоўурачом,— ён будзе выконваць толькі абавязкі галоўурача.

І вось ён тут, адзін, далёка ад сяброў па інтэрнату, аднакурснікаў. Мінулае здавалася цяпер такім дарагім і назаўсёды страчаным, што хацелася заплакаць. Ён яшчэ раз абышоў кватэру,— чыста, пуста, ціха. У кабінеце на падаконніку стаяў тэлефон. Пальчэўскі ўзяўся за трубку, станцыя адказала. Папрасіўшы прабачэння, ён паклаў трубку на рычаг. Захапіўшы ручнік і мыла, пайшоў да рэчкі.

Пасля ён доўга прастаяў у чарзе ў сталовай і, калі вярнуўся, ісці ў бальніцу было позна.

Спаў ён на падлозе, на коўдры, якую прадбачліва купіў перад ад'ездам.

Раніцай Пальчэўскі адразу пайшоў у бальніцу.

Дзяжурная сястра дала ключ ад кабінета галоўурача. Кабінет — вялікі, светлы пакой — Пальчэўскаму спадабаўся. На падлозе, ад дзвярэй да пісьмовага стала — дывановая дарожка, ля сцен — крэслы, дзве канапы ў чахлах, кветкі на тумбачках.



А дзевятай гадзіне ў кабінет увайшла Антаніна Лук'янаўна, следам — супрацоўнікі. На Пальчэўскага ніхто не звяртаў увагі, ён адчуваў сябе лішнім, не ведаў, чым заняцца, і гартаў кнігу, што ляжала на стале.

Антаніна Лук'янаўна размаўляла з падначаленымі строга, тонам, які не дапускаў пярэчання. Пасля яна абвясціла, што пойдзе рабіць абход, а потым пазнаёміць галоўурача з супрацоўнікамі і пакажа бальніцу. Пальчэўскі хацеў пайсці на абход разам з ёй, але ўстрымаўся і, нездаволены сабой, пайшоў уладжваць асабістыя справы: трэба было стаць на ўлік у райкоме партыі, калі будзе час, заглянуць у магазін.

Будынак былога райздрава выходзіў фасадам на галоўную вуліцу пасёлка, насупраць зіхацеў шырокімі вокнамі новенькі раймаг; трошкі наводдаль відаць была сіняя шыльда паштовага аддзялення, туды перш за ўсё і пайшоў Пальчэўскі — даць тэлеграму Зосі.

Вярнуўшыся, ён заняўся дакументацыяй. Папкі з бальнічнымі справамі ўжо чакалі яго ў кабінеце на стале. Зверху ляжаў спіс супрацоўнікаў бальніцы. Замільгалі незнаёмыя прозвішчы людзей, з якімі яму цяпер давядзецца працаваць. У папках разам з загадамі аблздраўаддзела і рашэннямі райвыканкома ляжалі справаздачы фельчарска-акушэрскіх пунктаў і лекарскіх участкаў.

Прыйшла Антаніна Лук'янаўна.

— Хадземце, пакажу бальніцу. Паперамі потым зоймецеся: у іх сам чорт не разбярэцца. Будасаў соваў іх куды папала, абы толькі ў папкі, а мне займацца паперамі таксама часу не было, адна — і дома, і ў бальніцы — хоць разарвіся!

Раённая бальніца была размешчана ў трох карпусах. За імі былі відаць гаспадарчыя пабудовы: кухня, бухгалтэрыя, гараж на дзве машыны. Там жа быў і стары будынак, у якім цяпер павінны былі размяшчацца рэнтгенкабінет і фізіякабінет, але ні той, ні другі апаратуры не мелі, не было і ўрачоў. У пустым будынку займалі адзін пакой супрацоўнікі санэпідаддзялення. Антаніна Лук'янаўна папярэдзіла Пальчэўскага, што санітарны ўрач, яна ж і ўрач-эпідэміёлаг, за дзень да прыезду Пальчэўскага пайшла ў дэкрэтны адпачынак. У санаддзяленні засталіся два яе памочнікі.

Калі Пальчэўскі і Антаніна Лук'янаўна адчынілі дзверы аддзялення, памочнік эпідэміёлага, маладзенькая дзяўчына, забіўшыся ў куток за грубку, вішчала немым голасам. Пасярод пакоя стаяў цыбаты хлопец, у руцэ ў яго была зялёная жаба. За гідрапультам смяялася рыжая дэзінфектарка.

— Вось вам, калі ласка, дысцыпліна,— сказала Антаніна Лук'янаўна.— Гэта санстанцыя ўсё жыццё рабіла, што хацела, толькі не прышчэпкі.

Пальчэўскаму карцела сказаць, што прышчэпкамі павінна была займацца бальніца, але ён змоўчаў. Дэзінфектар і абодва памочнікі стаялі збянтэжаныя. Першая апамяталася і ўцякла рыжая дзяўчына. Пальчэўскі ўбачыў у акно, як яна з гідрапультам за плячамі ледзь не подбегам пашыбавала да бальнічнай брамы. Фельчарка кінулася да акна і, расчыніўшы фортку, крыкнула:

— Валя, ты адрасы ўзяла?

Дэзінфектар, не азіраючыся, памахала паперкай. Хлопец, засунуўшы жабу ў кішэню, стаў скардзіцца Пальчэўскаму, што ў сталовай многа мух. Паблізу ад сталовай развалены свінушнік, і старшыня райспажыўсаюза не згаджаецца пераносіць яго на іншае месца, прыйшлося скласці

пратакол аб санітарным парушэнні, і ён, санітарны фельчар, просіць галоўнага ўрача аштрафаваць гэтага старшыню.

Дзень для Пальчэўскага мінуў хутка, непрыкметна. У яго запісной кніжцы з'явілася першая, пакуль што адзіная паметка: транспарт для дэзінфектара. Пад вечар Пальчэўскі папрасіў прынесці гісторыі хвароб. Праглядаючы іх, ён убачыў, што ўсё тое новае, што ён чуў і засвоіў у інстытуце, тут мала вядома, і толькі адны антыбіётыкі ў пашане, іх ужываюць скрозь. Ён доўга абдумваў: як сказаць Антаніне Лук'янаўне, каб не пакрыўдзіць яе і другіх урачоў, якія былі старэйшыя за яго.

Назаўтра рахункавод прынесла падпісваць грашовыя дакументы. У кабінеце было шмат супрацоўнікаў. Пальчэўскі, хутчэй робячы выгляд, што ўсё ўважліва прачытвае, не спяшаючыся падпісваў дакументы і прыкладаў пячатку. Калі прынеслі зацвярджаць меню, ён пацікавіўся каларыйнасцю ежы. Каларыйнасць аказалася дастатковай, але кармілі хворых даволі аднастайна. Каша гатавалася штодзень, мяняўся толькі час падачы. Суп з мясам, суп з бульбай чаргаваліся праз дзень. Зусім не было гародніны.

— Што ж у вас з вітамінамі гэтак кепска?

— Гародніна ў калгасах позна спее, тут цяпліцы не ў модзе. А сёлета і вясна была халодная,— адказала Антаніна Лук'янаўна.

— А ці нельга сваю невялікую цяплічку...

— Цяпліцу?..— здзівілася Антаніна Лук'янаўна.— Вы паглядзіце, якая ў нас амбулаторыя, потым пра цяпліцу кажыце. Каторы год збіраюцца будаваць новую амбулаторыю і ўсё ні з месца.

Амбулаторыя месцілася ў старым доме з пахіленым дахам. Раней у гэтым доме, мусіць, былі невялікія пакоі, якія цяпер называліся кабінетамі. Дзверы кабінетаў зачыняліся няшчыльна, і хворыя, чакаючы ў калідоры чаргі на прыём, не толькі чулі, але і бачылі ўсё, што рабілася там.

— Дрэнна, вельмі дрэнна,— ківаў галавой Пальчэўскі.— Паслухайце, а чаму б нам не прыстасаваць пад амбулаторыю былы будынак райздрава? Гэта ж ён у чатыры, нават у пяць разоў большы. Будынак амаль новы, мае ўваход з цэнтральнай вуліцы.

— Ну, у вас, ведаеце, планы проста напалеонаўскія. То вам цяпліцу давай, то будынак райздрава пад амбулаторыю,— са злосцю сказала Антаніна Лук'янаўна.— А мы з вамі дзе будзем жыць, цікава ведаць?

— Ды дзе-небудзь. Няўжо кватэры не знойдзем?

— Пакуль амбулаторыя размяшчаецца ў гэтай развaліне, нам рана ці позна пабудуюць новую, а перавядуць у добры будынак — дык ні кватэры, ні амбулаторыі не ўбачыце. Цяпер сродкаў няма, і яшчэ гадоў дзесяць не будзе.

— Але ж у такім будынку працаваць...

— Нічога, прывыкнеце. Гэта вам цяпер пасля гарадскіх паліклінік так страшна здаецца.

Праз месяц галоўны урач раёна Пальчэўскі пачаў адчуваць цьмяную трывогу, нездаволенасць. Неяк усё не наладжваліся адносіны з супрацоўнікамі, знаёмствы былі вымушаныя, афіцыйныя, хоць ён даўно ведаў усіх у твар, размаўляў з усімі проста.

Аднойчы, зайшоўшы ў хірургічнае аддзяленне, Пальчэўскі яшчэ ў сенцах пачуў, як Антаніна Лук'янаўна лаяла дзяжурную сястру. Тая нясмела пярэчыла, але так ціха, што Пальчэўскі не ўсё чуў.

— Мала што, галоўурач распарадзіўся. Ён у нас чалавек часовы. Рабі, як кажуць,— злавала Антаніна Лук'янаўна.



Пальчэўскаму стала сорамна. Бясшумна сышоўшы з ганка, ён пакрочыў дадому. Яму ўспомнілася, што супрацоўнікі звярталіся да яго толькі ў крайнім выпадку, калі трэба было прыкласці пячатку або штонебудзь падпісаць, што ўсімі справамі ў бальніцы кіравала Антаніна Лук'янаўна, а ён... «Не, адміністрацыйная работа не па мне»,— думаў Пальчэўскі.

На стале Пальчэўскага заўсёды чакала пошта. Ён чытаў і стосікам складваў запоўненыя бланкі справаздач з лекарскіх участкаў і фельчарскіх пунктаў. У адным з лістоў фельчарка Будзько паведамляла пра выпадкі бруцэлёзу. Трэба было тэрмінова прыняць захады. Але якія?

Прыйшла Антаніна Лук'янаўна. Пальчэўскі паказаў ёй паведамленне.

— Шмат фельчары ў бруцэлёзе разумеюць! Тым больш, пяць выпадкаў. Грып, можа, — раўнадушна сказала яна.

— Але выехаць на абследаванне ўсё ж трэба,— адказаў Пальчэўскі.

— Ну і едзьце, калі хочаце. Урач санэпідаддзялення, самі ведаеце, у дэкрэтным адпачынку. А мы ўжо наездзіліся.

Пальчэўскі выклікаў загадчыцу лабараторыі і прапанаваў рыхтаваць аднаго з лабарантаў з ім у камандзіроўку.

З райцэнтра выехалі пасля абеду. Дарога ішла борам. Дыхаючы лясным паветрам, Пальчэўскі адчуваў, як лягчэе на душы. Борам ехалі доўга. Нарэшце, лес парадзеў, і машына вырвалася на поле. Заходзіла сонца, ледзь ружавеючы далёка над лесам.

Медпункт, куды яны накіраваліся, быў далёка, і прыехалі позна. Грыша пабег па фельчарку. Яна хутка прыйшла — немаладая, хворая на дыхавіцу. Адчыніла медпункт, уключыла электрычнае святло.

У медпункце — парадак, чысціня. Спадабалася Пальчэўскаму і сама фельчарка, жанчына з добрым тварам. Яна сказала, што ў дыягназе бруцэлёзу памылкі не магло быць, за гэта гаворыць і тое, што захварэлі толькі пастухі, якія даглядалі авечак, купленых нядаўна ў другім раёне.

— Як жа старшыня асмеліўся купіць авечак без даведкі ветэрынара? — запытаўся Пальчэўскі.

— Авечкі пародзістыя, а старшыня даўно марыў абнавіць калгасную чараду. Вось і «абнавіў». У ветлабараторыю я таксама паведаміла пра бруцэлёз,— дакладвала Будзько.

Фельчарка запрасіла на вячэру. Спаць Грыша падахвоціўся на вышках, разам з ім пайшоў і Пальчэўскі. Забраліся на вышкі па драбінах. Пахаладнела. У шчыліны даху праглядвала густа-сіняе неба. Пах свежага сена злёгку кружыў галаву. Спаць не хацелася. Але Грыша адразу захроп, і не было з кім гаварыць.

Раніцаю Пальчэўскі пайшоў у праўленне калгаса. Там ужо быў ветэрынарны ўрач. Ён адразу ж пачаў даводзіць Пальчэўскаму, што бруцэлёзу ў іхнім раёне няма, і ў тым раёне, дзе куплены авечкі,— таксама.

Але кроў, узятая на бруцэлёз, паказала, што авечкі — хворыя. Пастухі таксама захварэлі, і Пальчэўскі накіраваў іх у раённую бальніцу. Пасля пачалі абследаваць людзей, рабілі прышчэпкі ў тры рукі: лабарант, фельчар і Пальчэўскі.

Увечары і Пальчэўскі, і ветэрынарны ўрач — абодва прысутнічалі на пасяджэнні праўлення. Аналізы паказалі, што калгасны статак, часткова ўжо абследаваны, не паспеў яшчэ заразіцца, і на праўленні было вырашана ўсіх закупленых авечак знішчыць.

Закончыўшы справы, Пальчэўскі рашыў яшчэ паехаць на іншыя медпункты, пазнаёміцца з урачамі ўчастковых бальніц. Адправіўшы лабаранта з калгаснай машынай, Пальчэўскі з Грышам паехалі далей.

Каля месяца ездзіў Пальчэўскі па раёне. Вярнуўшыся ў бальніцу,

перш-наперш абышоў карпусы, пагутарыў з хворымі. І, хоць не зрабіў ніводнае заўвагі, супрацоўнікі раптам адчулі, што ў бальніцу вярнуўся гаспадар. У ардынатарскай паявіўся графік выездаў спецыялістаў райбальніцы на ўчасткі. На планёрках, апрача медработнікаў, пачалі прысутнічаць загадчык гаспадаркі, кухар і нават свінарка. Планёркі праходзілі жыва, выказваліся ўсе, субардынацыі ніякай не прытрымліваліся, і гэта больш за ўсё трывожыла Антаніну Лук'янаўну.

Неўзабаве хворыя і супрацоўнікі заўважылі, што ля бальніцы амаль не чуваць шуму. Машыны з мяккім шыпеннем імчаліся міма і толькі аднекуль здалёку даносіліся іх сігналы. Пальчэўскі дамогся, каб паставілі знак, які забараняў сігналіць паблізу бальніцы. Гэта ўсіх здзівіла. Раней на такую дробязь ніхто не звяртаў увагі.

Пальчэўскі і сам адчуў, што з паездкі па раёне ён вярнуўся зусім іншы. Работы аказалася столькі, што не было часу сумаваць. Запісная кніжка распухла ад запісаў — усё не цярпела адкладу. Аб'ездзіўшы медпункты і ўчасткі, пабачыўшы дрэнныя і добрыя, ён зразумеў сваю адказнасць перад акушэркамі і фельчарамі, якія не мелі ніякай спецыялізаванай дапамогі, зразумеў неяк адразу, што ён жа галоўурач, з яго і спагоняць! Што зрабіў ён, Пальчэўскі, за гэтыя месяцы работы? Паранейшаму не працавалі рэнтгенкабінет і фізіятэрапія, амбулаторыя месцілася ў старым будынку. З дакументаў Пальчэўскі ведаў, што сродкі на будаўніцтва амбулаторыі калісьці адпускаліся, аднак своечасова не былі выдаткаваны і пазней зняты. Антаніна Лук'янаўна ніякага тлумачэння наконт гэтага даць не магла, яна быццам бы ніколі і не чула пра гэта.

Пакуль тое ды сёе, Пальчэўскі канчаткова вырашыў пераабсталяваць былы райздраўаддзел пад амбулаторыю. Сам Пальчэўскі з кватэрай як-небудзь уладзіцца; пакуль што можа пажыць на прыватнай, а калі прыедзе Зося — будзе відаць. У Антаніны Лук'янаўны, як ён даведаўся, недалёка ад бальніцы быў уласны дом, які яна, атрымаўшы кватэру, збіралася прадаць. А пакуль што ў доме жылі мужавы бацькі.

Антаніне Лук'янаўне намеры Пальчэўскага здаліся наіўнымі, а сам ён па-дзіцячаму непаслядоўны ў думках і ўчынках. Прапанову яго вызваліць кватэру яна не прыняла сур'ёзна, але калі ён стаў настойваць, і яна зразумела, што ён не жартуе, спалохалася і вырашыла дзейнічаць.

У хуткім часе Пальчэўскага выклікалі на пасяджэнне выканкома, дзе паміж іншымі справамі разглядалася і скарга ўрача Осіпавай на несправядлівае высяленне яе з кватэры.

Скарга Антаніны Лук'янаўны ўзлавала Пальчэўскага. Муж Антаніны Лук'янаўны, загадчык аднаго з аддзелаў у райкоме, сам дэпутат, прысутнічаў тут жа і дыпламатычна не выказаўся ні за, ні супраць. У райвыканкоме ў яго было шмат сяброў, якія не хацелі ўскладняць таварыскія адносіны. Думкі падзяліліся. Але ў Пальчэўскага выявілася больш прыхільнікаў. Сакратар райкома партыі, які выступіў апошні, таксама падтрымаў Пальчэўскага. Было вынесена рашэнне: перавесці амбулаторыю ў будынак, які раней займаў раённы аддзел аховы здароўя.

* * *

Новы год Пальчэўскі сустракаў адзінока, нявесела. Ад Зосі — ні пісьма, ні прывітальнай тэлеграмы. Адносіны з Антанінай Лук'янаўнай пасля высялення з кватэры пагоршыліся.

У пачатку студзеня Пальчэўскі запытаў аблздраўаддзел пра пуцёўкі





на спецыялізацыю. Сярод іншых урачоў, якія мелі патрэбу ў павышэнні кваліфікацыі, Пальчэўскі назваў і хірурга Осіпаву. Даведаўшыся пра гэта, Антаніна Лук'янаўна была абурылася.

— Як вы пасмелі гэта зрабіць, не параіўшыся са мной? — крычала яна.

— Ды я ж ведаю, Антаніна Лук'янаўна, што вы аперыруеце толькі апендыцыт і грыжу.

— Ну, ведаеце, грыжы бываюць розныя і апендыцыты ўсякія.

— Гэта класіфікацыя нам вядома, але ж «вострым жывот» не абмяжоўваецца толькі грыжай і апендыцытам, і я меркаваў, што вам будзе карысна асвоіць яшчэ тры-чатыры поласцевыя аперацыі. Вы ж, па сутнасці, пасля заканчэння інстытута...

— Вы добра ведаеце,— перабіла яго, заплакаўшы, Антаніна Лук'янаўна,— што свякруха цяпер не жыве са мной і мне няма на каго пакінуць ні дзяцей, ні гаспадаркі.

— Я чуў, што вы пасварыліся. Але ж у вас ужо дарослыя дзеці,— збянтэжыўшыся ад яе слёз, нясмела запярэчыў Пальчэўскі.

— Дарослыя! — абурана сказала Антаніна Лук'янаўна.— Чатырнаццаць і шаснаццаць год, дык гэта, па-вашаму, дарослыя? Скажыце дзякуй, што я ад акушэрскіх аперацый не адмаўляюся! — грукнуўшы дзвярамі, Антаніна Лук'янаўна выйшла.

Апошняя заўвага Осіпавай вельмі здзівіла Пальчэўскага. Ён лічыў, што калі чалавек хворы і жыццё яго ў небяспецы, дык абавязак урача — зрабіць усё дзеля ўратавання жыцця чалавека.

Пасада ж урача-акушэра, сапраўды, ужо некалькі гадоў толькі лічылася ў штатах бальніцы, ды ўсё яшчэ была не занята: не хапала кадраў.

У гэты дзень Пальчэўскі ішоў дамоў засмучаны. У варотах бальніцы яму сустрэўся хлопчык-паштальён з пісьмом ад Зосі. Пальчэўскі тут жа, на вуліцы, разарваў канверт, прачытаў пісьмо. Але нічога не зразумеў. Зноў прачытаў. Зося пісала, што абое яны дапусцілі вялікую памылку, запісаўшыся ў загсе, што яна зусім не падрыхтавана да таго жыцця ў раёне, якое вядзе ён, шкадавала, што ў свой час не паслухалася бацькоў. У канцы пісьма Зося прыпісала, што выдаткі на развод можна раздзяліць пароўну.

Пальчэўскі з хвіліну стаяў, як аглушаны. Потым пацІху выйшаў на вуліцу, падаўся на ўскраіну пасёлка і хадзіў там аж да ночы.

Лежачы ў пасцелі, доўга не мог сагрэцца, а сагрэўшыся, усё роўна доўга не мог заснуць: думкі аб Зосі не пакідалі яго. Ён вырашыў узяць адпачынак, паехаць у горад і перагаварыць з ёй. Пісьмо здалося яму Зосіным капрызам. Яна заўсёды была крыху капрызная.

Але раніцай ён вырашыў нікуды не ехаць і на пісьмы не адказваць. У бальніцы заўважылі, што галоўурач чамусьці змяніўся і як бы пасуравеў. Ён не жартаваў, як раней, многа працаваў, часта выязджаў на фельчарскія пункты, сам кансультаваў хворых. Лена Костычава, спаткаўшы аднойчы змрочнага Пальчэўскага ля ўваходу ў амбулаторыю, залілася яркай чырванню:

— Вы на Антаніну Лук'янаўну не звяртайце ўвагі. Яна заўсёды ўсім незадаволеная. Не трэба перажываць,— апошнія словы Лена прашаптала і кінулася бегчы ў бухгалтэрыю.

Пальчэўскі ўсміхнуўся. «Трэба ўзяць сябе ў рукі».

Лена знікла за дзвярамі бухгалтэрыі, а Пальчэўскі стаяў і ўспамінаў: ці бачыў ён калі Лену, каб яна ішла спакойнай хадою. Не, усё бягом, усё спяшаецца. Руплівая,— падумаў ён.



* * *

У пачатку красавіка Грыша зноў паехаў на станцыю сустракаць галоўнага ўрача. На гэты раз прыехаў сярэдніх год чалавек — высокі, паўнаваты, з вялікай галавой і сівымі валасамі.

Новы галоўурач Скуратовіч быў накіраваны з суседняга раёна, бальніца яго лічылася ў вобласці ўзорнай. Скуратовіч падрыхтаваў добрых урачоў і замяніць яго там было каму. Пальчэўскага ж пераводзілі ўрачом-тэрапеўтам у прыгарадную бальніцу. Ён ужо не хацеў пакідаць калектыў, але загад ёсць загад.

Агледзеўшы бальніцу, Скуратовіч усім застаўся задаволены. І не мог зразумець, чаму здымаюць з пасады галоўурача, чаму загадчык аблздраўаддзела прыспешваў яго з ад'ездам. Не ведаў Скуратовіч, што загадчыка аблздраўаддзела падганялі дакладныя Осіпавай: Пальчэўскі па маладосці зусім не знаёмы з арганізацыяй аховы здароўя, у бальніцы беспарадак, дысцыпліна супрацоўнікаў катастрафічна падае.

Пасцель Скуратовічу паслалі ў кабінеце галоўурача ў бальніцы. Антаніна Лук'янаўна скардзілася, што ў кватэру галоўурача перавялі амбулаторыю. Ледзь толькі зачыніліся за Антанінай Лук'янаўнай дзверы, пачуўся тэлефонны званок. Урача Скуратовіча запрашаў да сябе першы сакратар райкома.

Назаўтра, калі Пальчэўскі прыйшоў падпісваць акт перадачы і прынёс пячатку, Скуратовіч паляпаў яго па плячы і сказаў:

— Не спяшайся, брат. Баюся, што гэту паперу мне не давядзецца падпісваць.

— Чаму? — здзівіўся Пальчэўскі.

— Ды бачыш, райком і райвыканком не хочуць цябе адпускаць з раёна. Будуць з аблздраўаддзелам размаўляць. Думаю, пакінуць цябе галоўным. Ды і супрацоўнікі за цябе гарой. Ну, не чырваней, не чырваней, заслужыў.

Пальчэўскі ўпершыню за многа дзён радасна ўсміхнуўся.



## Родныя прасторы



**Над ракой Арэсай.** Фота В. Бараноўскага.

Адзначана граматай на ўсесаюзнай выстаўцы «Сямігодка ў дзеянні. Год 1962».

*Раскаваў балота з пут,*
*З дрыгвы непраходнай*
*Гераічны вольны люд*
*Працаю свабоднай.*

*Янка Купала.*

# СЛОВА ПРА КУПАЛУ




**Вязынка. 1962 год.** Фота **А. Дзітлава.**

**Уладзімір ЮРЭВІЧ**

# ПЕРШАЯ З ВЯРШЫНЬ

Рускія мелі Пушкіна, англічане — Шэкспіра, украінцы — Шаўчэнку, палякі — Міцкевіча... У беларусаў жа доўгі час не было такіх тытанаў чалавечай мыслі, выказнікаў запаветных дум і светлых спадзяванняў народа, сапраўды народных песняроў.

Толькі на золку XX стагоддзя на заходняй ускраіне былой Расійскай імперыі заззяў шматколернай вясёлкай каштоўны самародак, — вялікі нацыянальны талент, які смела абвяшчае права роднага беларускага народа мець сваю паэзію:

Кожны край мае тых, што апяваюць,
Чым ёсць для народа ўпадак і хвала,
А беларусы нікога ж не маюць,
Няхай жа хоць будзе Янка Купала.

Свет ведае не многа паэтаў, якія былі б так да самазабыцця звязаны з народам, як быў звязан, нават зліты ў адно з ім, Янка Купала. «Першай

з вяршынь беларускага Эльбруса паэзіі» назваў Купалу яго і наш сучаснік украінец Паўло Тычына. Другой вяршыняй яе з'яўляецца Якуб Колас. Але яны былі не проста найвышэйшымі вяршынямі, а заснавальнікамі сучаснай беларускай літаратуры, якая дасягнула свайго нечуванага росквіту ў нашы дні. Творчасць Купалы і Коласа — магутны падмурак усяго наступнага духоўнага жыцця беларускага народа.

Купала і Колас — аднагодкі. Сёлета адзначаецца 80-годдзе з дня іх нараджэння, адзначаецца шырока, святочна, урачыста, бо кожны з іх зрабіў свой прыкметны ўклад у культурнае жыццё не толькі беларускага, але і ўсіх народаў краіны Саветаў. Кожны з іх сваёй натхнёнай, якую не вымераеш і ні з чым не параўнаеш, працай папоўніў неацэнным багаццем скарбніцу агульначалавечай культуры.

* * *

Маленства не песціла Янку Купалу. Ён нарадзіўся ў беднай сялянскай хаце, якая і сёння, як мемарыяльны музей, стаіць у вёсцы Вязынка, што за паўсотні кіламетраў ад беларускай сталіцы. У гэтай калысцы восемдзесят год назад, у ноч пад Купалле (ці не гэта акалічнасць падказала пазней і літаратурнае імя паэту!) упершыню загучэў голас чалавека, якому наканавана было стаць палымяным буравеснікам духоўных імкненняў свайго народа, змагаром за высокія ідэі сацыяльнага і нацыянальнага разняволення.

Прыслухаешся да пералівістага звону быстрацечнай ручаіны, што прадзіраецца тут жа, ля самай хаты, праз зараснікі лазняку, або да шматгалосага шуму адвечнага бору, які разлёгся вакол па ўзгорках і долах, ці да натужнага вуркатання трактара, што даносіцца сюды з саўгаснага поля, як вястун новай явы вясковага жыцця, — і міжволі прыгадваеш хвалюючыя радкі купалавай паэзіі, якая, па словах Якуба Коласа, «квітнеючы і чароўны сад, дзе сабраны водар беларускай зямлі».

Бацька паэта Дамінік Луцэвіч не меў сталага кутка і вымушан быў або арандаваць зямлю ў пана, або наймацца да яго чалятнікам. Характарам Луцэвіч быў непакорлівы, падладжвацца да гаспадара не ўмеў і таму вандраваў па дарогах Міншчыны ад маёнтка да маёнтка, не асядаючы нідзе надоўга.

Рана зведаў Янка суровае, няўладжанае і можа быць па-свойму рамантычнае жыццё беззямельнага селяніна. Яшчэ ў юначыя гады адпакутаваў Янка Купала ўсе жахі бяспраўнага чалавека, навучыўшыся з маладых год бачыць далёка, у кожным разе далей той легендарнай «кветкі шчасця», якая, калі верыць паданню, расцвітала аднойчы ў год і заставалася нязбытнай марай для працаўніка сахі і касы.

Не ведаючы ні школ, ні навукі, вучыў Янка Купала вялікую азбуку жыцця на чужым палетку і праходзіў «свае ўніверсітэты» на панскіх броварах. Кнігі, якія пачаў чытаць ён рана і якім, па яго ўласнаму прызнанню, «аддаўся ўсёй душой і сэрцам», абудзілі ў Купалы творчую фантазію і падказалі ўзяцца за пяро, каб апець шматпакутны шлях працоўнага люду, уславіць свабодалюбівы дух беларусаў.

Цяжка дакладна вызначыць, калі нараджаецца паэт. Звычайна першае публічна сказанае слова мастака лічаць днём яго другога нараджэння. Для Купалы такім днём было 15 мая 1905 года, калі руская газета «Северо-Западный край», што выдавалася ў Мінску, надрукавала на беларускай мове яго верш «Мужык». У ім прагучэў голас мільёнаў заняволеных сацыяльным і нацыянальным прыгнётам беларусаў, што хацелі «людзьмі звацца»:

Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.

Купала прыйшоў у беларускую літаратуру тады, калі канчалася народнае цярпенне і рэвалюцыйны пратэст працоўнага люду, як навальнічная хмара, збіраўся над Расіяй. І да Купалы народныя беларускія песні, вершы яго папярэднікаў узнаўлялі праўдзівы малюнак беспрасветнага гора абрабаваных, галодных, босых, цёмных сялян. Але Купала ўзняўся вышэй, ён адкрыта загаварыў з людзьмі працы на зразумелай ім мове пра надыходзячае пераўтварэнне чалавецтва, пра будучае панаванне праўды.

Высакароднымі гуманістычнымі ідэямі повен кожны верш яго першых, выдадзеных не на роднай зямлі, але на роднай мове, кніг «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця». Калі перачытваеш гэтыя кнігі паэзіі, дык часам здаецца, што іх старонкі гатовы запалымнець ад гарачай любві да Беларусі, да свайго шматпакутнага, абяздоленага народа.

Купала з юначых год чуў, як уздыхалі згорбленыя ад цяжкай працы і неадольнай галечы беззямельныя сяляне, бачыў удовіны слёзы і ўмеў загарацца на паноў, што раскідалі наседжаныя сямейныя гнёзды, тым гневам, які папеліць усё. У вушах паэта заўсёды гучала музыка родных прастораў — шолах травы і звон касы, пошум дубровы і рэха сякеры, спевы птушак і плач пастуховай жалейкі, скрыгатанне кайданоў і суровы пошчак грымотаў. Верны сваёй спагадлівай, чулай душы паэта, Купала з трапяткім хваляваннем уславіў сціплую беларускую прыроду, стварыўшы ўзоры цудоўнай лірыкі, поўнай палымянай любві да роднага краю.

Мора пачуццяў паэта, здаецца не мае берагоў. Яго душа ўзрушана магутнай унутранай сілай, якая, нібы сама прырода, нараджае мноства поўных драматызму паэтычных момантаў, натхнёных вобразаў людзей з народа. Спачатку гэта загнаны і прыгнечаны мужык-пралетарый, які толькі шкадуе аб сваёй горкай долі, пазней — змагар за светлую праўду, за агульнае шчасце, які выпрастаў плечы і паверыў у сілу грамады. Гэтыя вобразы, падказаныя народным светапоглядам, сведчаць пра глыбокую народнасць усёй творчасці Янкі Купалы.

Іменна гэтая якасць у творах Купалы прымусіла вялікага рускага пісьменніка Горкага звярнуць увагу на «маладую літаратуру беларусаў — самага прыгнечанага народа ў Расіі», які на пытанне свайго песняра

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?

горда адказваў:

— Беларусы.

Горкі першы па-сапраўднаму ацаніў самабытнасць талентаў Купалы



**І. Раманоўскі. «А хто там ідзе?»** Аўталітаграфія.

і Коласа, заўважыў сапраўды народную аснову і магутную рэвалюцыйную сілу іх песень.

У пакутах заняволенага народа, у яго светлых спадзяваннях на вызваленне ад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску набыла Купалава паэзія пафас чалавекалюбства і рэвалюцыйнага дэмакратызму. І ў гэтым першнаперш блізкасць Янкі Купалы, як мастака, да Горкага, да перадавых, прагрэсіўна настроеных мастакоў дарэвалюцыйнай Расіі. Наіўна, як гэта робяць некаторыя даследчыкі, шукаць уплыў Горкага на творчасць Купалы ў супадзенні, сугучнасці асобных вобразаў (бура), малюнкаў (мора), матываў (гонар чалавека працы). Ён, уплыў гэты, глыбей — у гуманістычным пафасе і рэвалюцыйнай накіраванасці магістральных твораў, якія вызначаюць творчае аблічча паэта.

Народныя легенды, паданні, песні, выслоўі,назіранні з'яў прыроды і само жыццё народа — вось тыя невычэрпныя крыніцы, што жывілі манументальныя творы паэта. Паводле матываў народных паданняў і песень напісаў Купала свае рамантычныя паэмы «Курган», «Нікому», «Бандароўна», «Сон на кургане», «Магіла льва». У іх чуецца ўжо не скарга, а працяглы стогн гордага, свабодалюбнага народа, абуджанага ад пад'ярэмнага сну, каб ісці на штурм старога свету, гучыць гнеўны крык маладой Беларусі, гатовай скінуць з сябе ковы царскага сваволу.

Вусная творчасць беларусаў была той магутнай паэтычнай стыхіяй, не беручы пад увагу якую, цяжка зразумець творчы стыль Купалы, своеасаблівасць купалавай школы. Сутнасць яго стылю, груба кажучы, не ў імкненні пераймаць складзеную народам песню, а ў дамаганні выяўлення душы народнай, узвышанай і ўзбагачанай усімі дасягненнямі сучаснай Купалу паэтычнай культуры. Як яшчэ мала зроблена нашай крытыкай і літаратуразнаўствам у галіне даследавання асаблівасцей Купалавага стылю!

Янка Купала ашчаджаў класічныя традыцыі вялікай паэзіі і ў першую чаргу рускай грамадзянскай паэзіі XIX стагоддзя. Ён з прагнасцю чытаў і перачытваў неўміручыя творы Някрасава, Кальцова, Лермантава, Пушкіна і бачыў у іх сапраўдны ідэал служэння музай народу. Увабраныя з узораў крытычнага рэалізму ў рускай літаратуры суровая праўда жыцця і магутная выкрывальная сіла, памножаныя на яркі, самабытны талент Купалы, памагалі яму акідваць прынцыповым позіркам мастака ўсю гісторыю роднай Беларусі і яе сучаснае народнае жыццё.

Яшчэ ў дарэвалюцыйныя гады Купала паказаў чалавецтву прыклад сапраўды рэвалюцыйнай творчасці. Вось чаму просты беларускі люд даверыў яму права выказаць сваю запаветную мару пра волю. Слова-заклік Купалы — гэта сцяг барацьбы з царызмам за маладую Беларусь, што вызвалялася з нявολі. Яно клікала змагацца за лепшую будучыню, сцвярджаючы непахісную веру ў перамогу праўды.

Шмат выхадзіў Купала дарог па роднаму краю ў пошуках спачатку зямлі, а пазней, калі гаспадаранне на чужым палетку абрыдла, у пошуках працы. Тры гады марнеў ён чорнарабочым на бровары, а потым паехаў у Вільню, дзе выдавалася беларуская газета «Наша ніва». Спачатку як супрацоўнік, а потым і як рэдактар, Купала скарыстаў старонкі гэтай газеты, каб рашуча спыніць спробы буржуазных нацыяналістаў адвесці беларускі народ з дарогі сапраўднай рэвалюцыйнай барацьбы.

Янка Купала становіцца палымяным трыбунам народа. Як і кожны самабытны, яркага таленту мастак, ён быў непаўторны ў адчуванні подыху часу. Непаўторнасць купалавай творчасці перш за ўсё ў высокай грамадзянскасці яго лірыкі, у гістарызме эпасу, у арганічнай сувязі паэзіі з народнай песнятворчасцю, у спалучэнні песеннай мелодыі з размоўнымі інтанацыямі яго вершаў. Сваё мужнае грамадзянскае слова Купала пасылаў у народ:

Дружна йдзі, бедны люд, і з зары да
зары
Працуй, біся, не гніся пад лямкай
цяжкой,
І за праўду сваю, дачакаўшы пары,
З касой вострай сваёй дружна,
смела пастой!

Купала бачыў адно прызванне пісьменніка — быць выказнікам інтарэсаў, песняром запаветных дум і прарокам адвечных надзей працоўнага люду. Перад ім увачавідкі паўставаў будучы дзень беларускай літаратуры, і ён верыў у хуткі надыход яго.

«Застаецца нам, — пісаў паэт у «Нашай ніве», — толькі адна вера ў тое, што не за гарамі ўжо той час, калі абудзіцца наш беларускі народ, як адзін, да новага светлага жыцця, а яго паэты-пракоі настрояць струны сваіх думак на іншы лад: будуць пець пра вялікае багацце і хараство сваёй бацькаўшчыны і пра вялікія радасці яе верных сыноў».

Вобраз маладой Беларусі, абуджанай першай рускай рэвалюцыяй, увасоблен Купалам не толькі ў лірычных вершах і паэмах, але і ў яго драматычных творах — «Паўлінцы» і «Раскіданым гняздзе». Гнеўны рэвалюцыйны пратэст, смелы заклік да штурму самадзяржаўя, імкненне



**На радзіме Купалы.** Фота **А. Дзітлава.**

народа да свядомай барацьбы за свяшчэнныя правы чалавека складаюць асноўны пафас гэтых выдатных п'ес, якія з'яўляюцца не толькі яркай старонкай беларускай драматургіі, але і пачаткам прафесіянальнага нацыянальнага тэатра.

Год за годам у няспынным росце, у паслядоўным развіцці мужнеў і гартаваўся талент Янкі Купалы, які сваім яркім словам у суровыя ночы царскага ліхалецця асвятляў шлях роднаму народу да свабоды і шчасця. Магутныя залпы «Аўроры», што скаланулі грудзі зямной планеты, засталі паэта ў арміі. Ён захапляўся вольнай песняй вызваленага народа, якая больш «плоту, путаў эні знае ад сталецця да сталецця».

Лёс Беларусі склаўся так, што першая радасць рэвалюцыі хутка ацемрылася часовай акупацыяй маладой рэспублікі чужаземнымі захопнікамі. І калі ў тыя гады цяжкіх выпрабаванняў з'явіліся былі некаторыя сум-

ненні Купалы ў правільнасці выбранага беларускім народам шляху, яны зніклі гэтак жа хутка, як і ўзніклі. У творах, навеяных першымі гадамі савецкага ладу, Янка Купала выявіў тую ж, што і ў дарэвалюцыйнай сваёй творчасці, улюбёнасць у родную прыроду, у роднае слова, тую ж незвычайную свежасць погляду і імкненне адгукацца на ўсё новае, тое ж дасканалае веданне жыцця беларуса, яго звычак, традыцый, быту, якія дазвалялі яму заўсёды знаходзіць самую простую дарогу да запаветных таямніц душы чытача і быць з ім заўсёды шчырым. Гэтая шчырасць грунтавалася на адданасці паэта ідэям камунізма, якая ўмацоўвалася з кожным новым крокам савецкага народа па шляху сацыялістычнага будаўніцтва.

Янка Купала на поўныя грудзі дыхае водарам новага жыцця і пяе ўрачыстую славу мірнай будоўлі, моцнай садружнасці народаў, што аб'ядналіся пад чырвоным сцягам рэвалюцыі. Пачуццём савецкай нацыянальнай гордасці поўніцца яго паэма «Безназоўнае», сучаснай рэвалюцыйнай радасцю дыхае палымяны заклік да моладзі — верш «Арлянятам», якім Купала вітаў стварэнне літаратурнага аб'яднання «Маладняк», дзе згуртаваліся разбуджаныя і натхнёныя Кастрычнікам маладыя творчыя таленты.

Гэй, узвейце сваім крыллем.
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасцю хаўтурнай!.. —

звяртаўся Купала да моладзі, і гэты скіраваны ў будучыню роднай Беларусі заклік А. Луначарскі слушна назваў гімнам рэвалюцыі.

У творах Купалы, напісаных у 20-я—30-я гады, кідаецца на вочы на дзіва канкрэтная вобразнасць, амаль фізічнае адчуванне глебы, на якой яна ўзнікла. Гэтай якасцю, што сведчыла пра сталасць таленту, і прываблівають перш за ўсё вершы «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...», «Новая восень», «Песня будаўніцтву», якімі паэт вітаў нараджэнне калгаснага ладу, гул гіганцкіх новабудоўляў першых пяцігодак, узнікненне на руінах старога ладу новых людскіх адносін.

Прыліў другой маладосці клікаў паэта ў новую дарогу па краіне Саветаў. І Купала едзе на будоўлі, у калгасы і саўгасы, наведвае чырвонаармейскія часці, каб адчуць усю глыбіню вялікіх перамен у жыцці народа. «Заўсёды наперад! Ніколі назад!» — гэты дэвіз сацыялістычнай эпохі становіцца нормай творчага жыцця Янкі Купалы, якога краіна ў дзень дваццацігоддзя яго літаратурнай дзейнасці ўшанавала пачэсным званнем народнага паэта Беларусі.

Купала шмат рабіў і сваім прыкладам высакароднага служэння музаю народу, і штодзённымі клопатамі пра літаратурную змену, для развіцця беларускай савецкай літаратуры, для росту культуры роднай мовы. У вершы «Трэба нам песень» Купала разгарнуў цэлую праграму плённай дзейнасці пісьменніка:

Трэба нам песень шчырых і чулых,
Што праўду дзён нашых ад полюсаў
несл́і б
І славу вякоў, пакаленняў мінулых
Сваёй перамогай геройскай устрэслі.

Як сугучны гэтыя словы аб услаўленні «праўды дзён нашых» сённяшнім задачам, што ставяць партыя і народ перад літаратурай і мастацтвам!

Доўга назіраў Купала, будучы на Палессі, як рукамі свабоднага чалавека перайначвалася ўсё жыццё, як пад дружным націскам калектыўнай працы, што была асветлена яснай мэтай, адступала векавечная багна, даючы месца ўрадлівасці. Вынікам гэтага працяглага назірання рэчаіснасці з'явілася паэма «Над ракой Арэсай», у якой адлюстраваны сапраўдныя малюнкі новага жыцця, услаўлен масавы гераізм будаўнікоў сацыялізма. І хоць у ёй даюць сябе адчуваць некаторая зададзенасць характараў, схематычнасць будовы, але насычанасць паэмы жывымі малюнкамі жыцця робіць яе адной з важнейшых вех, якімі абазначан





**Янка Купала і Якуб Колас з пісьменнікамі і кампазітарамі ў студыі Усесаюзнага радыё перад выступленнем. 1933 год.**

З фондаў музея Янкі Купалы.

творчы шлях Янкі Купалы. Самабытны майстар, ён не баіцца скарыстаць самыя даступныя формы верша і ўмее так узбагаціць іх народную аснову, што твор напаўняецца незвычайнай інтанацыйнай разнастайнасцю, пачынае гучаць з натуральнасцю гутарковай мовы.

З кожным новым крокам краіны Саветаў і роднай Беларусі па шляху сацыялізма Купала імкнецца заглыбіцца ў самую сутнасць эпохі, адчуць кожны штуршок яе неспакойнага сэрца. Жывучы адным жыццём з народам (Купалу выбіраюць акадэмікам Беларускай акадэміі навук, дэпутатам народнага парламента рэспублікі, ён — актыўны дзеяч шматлікіх грамадскіх арганізацый), мастак і расце разам з ім. Публіцыстычным вершам адгукаецца паэт на самыя значныя ў жыцці краіны падзеі: славіць паходы Чырвонай Арміі на ворага-правакатара, захапляецца чалюскінскай эпапеяй, узрушан да глыбіні душы ўз'яднаннем беларускага народа ў адзінай савецкай дзяржаве, пускаецца ў роздум пра новае жыццё вёскі.

Недалёка ад Оршы на высокім беразе Дняпра, у Ляўках, пабудаваў паэт дачу, каб быць заўсёды ў самай гушчы народнага жыцця. Яго, як жаданага госця, прымаюць у сябе калгаснікі, памалу гутарку вядуць пра «зімы, вёсны, пра добры ўраджай і працадні». І хоць гасцям часам не ставала адвагі прасіць, каб паэт склаў песню пра калгас, ён шчырым сэрцам адгукнуўся на гасціннасць працаўнікоў зямлі і стварыў цудоўны «Ляўкоўскі цыкл» вершаў («Я — калгасніца», «Лён», «Песня трактарыстkі», «На нашым полі», «Вечарынка», «Госці»), што сталі побач з лепшымі ўзорамі савецкай песеннай лірыкі.

Вершы Купалы пра новую вёску поўны хараства шырокіх калгасных палёў і празрыстасці нябеснага блакіту. Высокімі ідэаламі інтэрнацыянальнага абавязку прасякнуты вершы пра дружбу і яднанне вялікай сям'і народаў — Савецкага Саюза, пра слаўную партыю камуністаў. Усе яны, сабраныя ў кнізе «Ад сэрца», былі адзначаны дзяржаўнай прэміяй. Моцна ўзрушыўся Янка Купала, калі атрымаў гэтую высокую ўзнагароду. Ён меўся адказаць на яе новымі вялікімі творчымі здзяйсненнямі.

Ды ўсё разбурыла вайна. Неспадзяваныя грымоты ваеннай буры засталі Купалу ў Каўнасе, дзе ён апыніўся, вяртаючыся з Рыгі, з І-га з'езда савецкіх пісьменнікаў Латвіі. Не давялося Купалу зайсці ў родны дом — Мінск быў ужо ў полымі пажараў. Жонка паэта Уладзіслава Францаўна Луцэвіч так расказвала пра развітанне Купалы з бацькоўскім

краем: «Праязджалі мы адно прыгожае месца ўжо ля Смаленшчыны. Каля дарогі раскінулася сенажаць, трава была высокая, многа кветак, недалёка быў лес. Купала захацеў спыніцца тут. Стомлены, ён выйшаў з машыны, лёг на траву і доўга, доўга глядзеў у далячынь; на вачах яго былі слёзы. Гэта было яго апошняе развітанне з роднай Беларуссю».

У кароткія ад бяссоння ночы, поўныя трывогі за шматпакутны беларускі народ, што трапіў пад ярмо гітлераўскіх акупантаў, Купала сніў чырвоныя ад крыві рэкі, галодных дзяцей, якія паміралі на папялішчах раскіданага ворагам гнязда, звар'яцелыя вочы зняслаўленых матак, ашчаціненыя сталлю партызанскіх вінтовак лясы. Незгасальнай нянавісцю і пякучай пагардай да ворага загаралася сэрца народнага паэта. І ён выступаў на старонках цэнтральных і франтавых газет, па маскоўскаму радыё з заклікам да свайго народа-волата:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны.
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

Купала верыў у магутнае яднанне беларускага народа з усёй Савецкай Радзімай, з ленінскай партыяй, якая заклікала ўзняцца на ворага непрыступнай партызанскай сцяной. Полымя вялікай усенароднай вайны, што разгарэлася ў пушчах, гарадах і вёсках Беларусі, цешыла паэта і давала ўпэўненасць, што «зноў будзем шчасце мець і волю ў сваіх адноўленых прысадах».

Не дачакаўся Купала гэтай радаснай часіны. За тыдзень да шасцідзесяцігоддзя, адзначыць якое ён прыехаў з далёкай Татарыі ў Маскву, 28 чэрвеня 1942 года кіпучае жыццё паэта абарвала заўчасная смерць. Над дамавінай Купалы на чорным шоўку срэбрам адліваліся яго шчырыя, поўныя глыбокага смутку па роднай зямлі словы: «Мне сняцца сны аб Беларусі».

Шчаслівая і радасна жыве сёння Беларусь у дружным сузор'і савецкіх рэспублік, штурмуючы адну вяршыню за другой на пераможным шляху ў зззяючую будучыню камунізма. І ўсхваляванае, шчырае слова Купалы струменіць невычэрпнымі крыніцамі на гэтым слаўным шляху, напаўняючы сэрцы працавітых падарожнікаў бадзёрасцю і неадольнай сілай.

Створаны Янкам Купалам паэтычны свет, прасякнуты гуманізмам і жыццесцвярджальным пафасам, набыў шмат сяброў за межамі Беларусі. Мужная, па-народнаму мудрая паэзія Купалы знаходзіць ва ўсім свеце ўсё новых і новых шанавальнікаў, бо галоўным героем яе з'яўляецца чалавек, які ўзняўся ад гібення ў цемры да нечуваных вышынь творчасці. Купала нібы бачыў сённяшні дзень, калі пісаў:

Жывём у сонечнай краіне
І будзем жыць у добры час,
Дзе праўда ясная не гіне,
Дзе праўдзе служыць кожны з нас...

Настойлівы заклік Купалы да чалавечнасці, да праўды прыносіць і сёння людзям добрую радасць для працы і творчасці. І дарэмна нікчэмныя групкі адшчапенцаў, што прытуліліся ў некаторых краінах імперыялізму, спрабуюць фальсіфікаваць спадчыну Янкі Купалы, прыстасаваць яе да сваіх гнюсных і правакацыйных нацыяналістычных мэт. Гэтыя спробы няплённыя. Купала быў і застаецца ў першых шэрагах змагароў за свабоду і шчасце працоўных, за мір і братэрства народаў.

Спалучаючы ў сваім характары талент мастака з запалам барацьбіта, Купала гэтак жа арганічна спалучаў і ў творчасці шырыню гістарычнага кругагляду з вострым адчуваннем сучаснасці. Янка Купала здолеў ахапіць сваім пільным вокам усю гісторыю роднай краіны і заглыбіцца ў самыя таямніцы сучаснага яму народнага жыцця, каб падзяліць з народам усе радасці і нягоды яго, стаць яго звонкай песняй, яго чыстым і непадкупным сумленнем.



Янка Купала, якога А. Луначарскі называў бацькам новай беларускай літаратуры, паказаў перад светам такую моц чалавечага духу, такую паэтычную сілу, такую нястрымную энергію служэння чалавецтву, што нельга не схіліцца ў нізкім зямным паклоне перад сапраўды тытанічным подзвігам паэта і грамадзяніна. Вобразы-тыпы, накшталт свабадалюбнага Гусляра, непакорнай і гордай Бандароўны, стыхійнага бунтара-волата Машэкі, беззямельнага селяніна-змагара Сымона Зябліка, скіраванага ў рэвалюцыю сельскага інтэлігента Якіма Сарокі, як і ўвасоблены ў дзяўчыне, што трымае чарку мёду ў руцэ, вобраз Савецкай Беларусі, якая здабыла сабе дзяржаўнасць, або поўны рэвалюцыйнай радасці парыў моладзі, паказанай у вобразе арлянят, — усё гэта плён вялікага роздуму мастака над лёсам канкрэтных людзей і прыродай пэўных з'яў, над часам, плён глыбокай эмацыянальнай узрушанасці паэта.

* * *

Янка Купала належыць да славутай плеяды тых сыноў чалавецтва, якія прадстаўляюць сабой і светлы вынік мінулага свайго народа, і сучасны нам дзень, і вялікую надзею, творчую, будаўнічую волю грамадства, скіраваную ў будучыню. Прамяністае заўтра сваёй краіны бачыў паэт, калі ўсхвалявана вітаў XVIII з'езд партыі камуністаў:

З Масквы, з Крамля хадою ўдумнай,
Усенароднай, чалавечай,
Праз поле, поплавы, буруны
Ідзе, таварышы, Камуна
На свеце шчасце ўвекавечыць!

Мы сёння сведкі таго, як збываюцца вешчыя купалавы словы. Камунізм крочыць па свеце. Песні Купалы перамагаюць прастору і час.

Мікола **АЎРАМЧЫК**

# ВЯРТАННЕ



а платформе
Беларускага вакзала,
Цягнікоў усіх
Парушыўшы расклад,
Ушаноўваць будзе
Нашага Купалу,
У дарогу выпраўляючы,
Масква.

Не цягнік,
Што урну павязе дамоў,
Коламі застукае,
Як марш зайграе,

А паэтава
Заб'ецца сэрца зноў,
Прадчуваючы сустрэчу
З родным краем.

Час ад часу
Будзе выдыхаці пару
Ды адсопвацца раз-пораз
Паравоз:
Не вазіў яшчэ ён
Гэткага цяжару,
Хоць за век свой
Шмат чаго ён перавёз.

Умясціла
Гэтая малая урна,
Ўсе абпаленыя пушчы і гаі,
Што калісь
Забраў з сабой Купала
хмурны,
Выгнаны вайной
У братнія краі.

Праязджаючы
Паўстанкі і вакзалы,
Паравоз гудком абвесціць
Праз палі
Беларусам,
Што вяртаецца Купала,
Набліжаецца
Да роднае зямлі.

І з усіх куткоў,
Узяўшы кветкі ў рукі,
Выйдуць землякі
Насустрач песняру...
Аж праз доўгіх дваццаць год
Пасля разлукі
У абдымкі яго прыме
Беларусь.

**Заір АЗГУР,**
**народны мастак БССР**

# ВЯЛІКІ ЖЫЦЦЯЛЮБ

Я пра Купалу пісаў, ды хіба можна напісаць усё, што помніш пра чалавека, якога ведаў каля трыццаці год!

Праходзячы ля сквера па вуліцы Янкі Купалы, я заўсёды ўспамінаю Купалаў дом, які стаяў на тым самым месцы, дзе цяпер музей. Перад вачамі ўсё паўстае так, нібы гэта было толькі ўчора. Двары, акружаныя маленькімі яблыневымі садкамі, туліліся да самых берагоў Свіслачы. Гэтая мелкаводная рачулка часам паказвала свой нораў, разліваючыся ў вялікую раку.



Паводкі часта трывожылі Янку Купалу. І мне аднойчы давялося памагаць яму і цёці Уладзі ратаваць ад паводкі бібліятэку. Тады ж я вынес і бюст Купалы маёй работы. *

Цяпер гэтае прырэчнае месца паднялі, бадай, метры на тры, калі не болей, а Свіслач апранулася ў бетонныя берагі. І калі глядзіш на гэтае крыху ўрачыстае харавство, на момант забываеш, што раней тут стаяў невялікі домік, атулены садам. Здаецца, што іменна цяпер у гэтым вялікім і светлым доме жыве і творыць Янка Купала.

Дзверы музея не зачыняюцца. Кожны дзень сюды прыходзіць моладзь — студэнты, школьнікі, заходзяць работнікі культуры і мастацтва. Прыходзяць, нібы ў госці да Купалы. А Купала глядзіць на іх і гаворыць:

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?

У памяці ў мяне паўстаюць мінулыя гады. Вось, як жывая, стаіць цёця Уладзя і ласкава гаворыць: «Ну што ты, Янка, перашкаджаеш мне прыбраць у хаце... Выйшаў бы на вуліцу ды пасядзеў з Азгурам»... І Купала выходзіць з дому, садзіцца на лавачцы побач з Бянігдай Іванаўнай **, з якой я гутарыў.

— Ну, што будзем рабіць, мастачок? — пытаецца ён у мяне.

— Вось пасядзім, паслухаем... Можа, салавей заспявае...

— Салавей? — смяецца Купала. — Ён, браце, адспяваў у сярэдзіне лета. А цяпер ён не спявае, дзяцей гадуе. А вось некаторыя скульптары жыцца неназіраюць і вясновыя песні збіраюцца пад восень спяваць.

Бянігда Іванаўна смяецца, а Янка Купала, хітра прыжмурыўшыся, гаворыць:

— А няблага было б, калі б і ўвосень адчуванне вясны не пакідала



**Янка Купала ў майстэрні З. Азгура.** З фондаў музея Янкі Купалы.

* Гэта быў засушаны ў гліне бюст, які я зрабіў у 1924 годзе.
** Бянігда Іванаўна Луцэвіч — маці Купалы.

чалавека. Ды я думаю, што наш скульптар наогул не пярэчыў бы супраць вясновага настрою круглы год.

Убачыўшы гейнаўскую ўсмешку на вуснах Купалы, я пытаюся:

— Чаму вы так думаеце, Іван Дамінікавіч?

— А хіба я дрэнна думаю?

— Не. Па-мойму, добра.

— Дык чаго ж вы не зразумелі?

— Я ўсё зразумеў, дзядзька Янка.

Купала пачынае распытваць, над чым я цяпер працую. Я расказваю, што сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі таварыш Кулагін даручыў мне зрабіць помнік першаму двойчы Герою Савецкага Саюза лётчыку Грыцаўцу. І вось я ўвесь час думаю, як яго зрабіць.

— Акрылёным, — гаворыць Купала. Памаўчаўшы, дадае: — І натхнёным. Тады гэта будзе сокал нашага часу.

— Здзіўляючая і зайздросная гэта прафесія — лётчык, — натхняючыся, прадаўжае Купала. — Вы ўяўляеце, які неаглядны і неабсяжны гарызонт у лётчыка! І якія ў яго пачуцці! Мне здаецца, што чалавек, які кіруе лятальным апаратам, адчувае сябе зусім інакш, чым пасажыр, які з ім ляціць. Пасажыр трывожыцца: гэта нязвыклая для яго абстаноўка. А лётчык адчувае крыллі самалёта, як свае рукі, ён кіруе гэтымі крыллямі, ён імі валодае. Таму мне думаецца, што ён падобны да птушкі. Толькі ў яго перад птушкамі велізарная перавага, яго адчуванні падобныя да адчуванняў Ікара. Я іншы раз думаю, мастачок (так ён зваў мяне, — **З. А.**), што калі чалавека з трохгадовага ўзросту прывучыць не да веласіпеда і аўтамабіля, а да лятальнага апарата, то ў нашыя гады нам з вамі было б цяжка зразумець такога чалавека, як і яму — нас. Ва ўсякім выпадку была б вялікая розніца ў пачуццях і ў светаадчуванні, таму што гарызонты розныя, ды, магчыма, і хуткасць адыграла б сваю ролю, і імгненная рэакцыя на ўбачанае. Цікава, як бы вы тады ляпілі? Вы не мучылі б яго, як мяне, сто гадоў... Раз паглядзелі б, пайшлі ў майстэрню і адразу вылепілі б. Вось гэта і было б з пазіцыі чалавека, які лятае...

Купала смяецца. Але па яго смеху адчуваю: ён верыць, што так можа быць. І сапраўды, цяпер я іншы раз думаю, што чалавечае вока можа прывыкнуць імгненна фіксіраваць не толькі агульнае ўражанне, але, магчыма, і дэталі, і потым ужо, абдумаўшы, чалавек вырашыць, што з убачанага яму спатрэбіцца, а што — не. Я не ведаю, які будзе будучы мастак, але мне здаецца, што ён будзе мысліць больш глыбока і куды хутчэй афармляць сваю думку, чым гэта робім мы.

У Купалы думкі былі быстракрылыя, сам жа ён быў не шустры. Хадзіў паволі, спакойна, апіраючыся на кіёк.

У той дзень мы загаварыліся. Бянігда Іванаўна, відаць, адчула, што мы галодныя, і сама сабе прагаварыла:

— І Янка, мусіць, галодны. І гэты хлопец. Што яна сабе думае?

Купала, адчуўшы трывогу Бянігды Іванаўны, паглядзеў на мяне, засмяяўся і сказаў:

— Галава ў холадзе, жывот у голадзе, а ногі ў цяпле — век будзеш здаровы.

Абняўшы за плечы, ён павёў мяне ў дом.

Бянігда Іванаўна накрыла стол, вярнулася цёця Уладзя. Мы селі за стол, і, як заўсёды, завязалася ажыўленая гаворка. Але раптам зазвінеў званок. Цёця Уладзя выйшла ў двор, і мы пачулі звонкае срабрыстае шматгалоссе: у госці да Янкі Купалы прыйшлі піянеры.

— Ты, Янačка, не забыў, што запрасіў вось гэтых маленькіх таварышаў? — сказала, уваходзячы, цёця Уладзя.

— Забыў ці не забыў, а ты давай таварышаў сюды, да стала.

За стол села чалавек дваццаць піянераў. Цёця Уладзя прынесла на падносе талеркі з цукеркамі.

— Частуйцеся, не саромейцеся! Частуйцеся, — запрашала яна.

Дзеці глядзелі на Янку Купалу замілавана, як на вельмі блізкага, роднага чалавека. І разам з тым у іх вачах свяцілася цікаўнасць: перад імі ж быў народны паэт Янка Купала! Маленькая дзяўчынка з кірпатым носікам у вяснянках, відаць, самая бойкая, сказала:

— А мы вывучылі напамяць ваш верш «Хлопчык і лётчык»!

Янка Купала хітравата ўсміхнуўся.

— Дык хто ж з вас хлопчык, а хто лётчык?

Дзеці засмяяліся ад збянтэжанасці. Толькі бойкая дзяўчынка і тут не разгубілася:

— А мы яшчэ адзін ваш верш ведаем!

— Прачытай, — папрасіў Купала.

Я да гэтага часу памятаю, як тоненькі, звонкі галасок пявуча выводзіў Купалавы радкі:

Не згадала матуля,
Што стане з Алесяй.

Чым далей, тым гутарка станавілася жвавейшая. Купала на вачах памаладзеў. Шчокі яго паружавелі, у вачах засвяціўся добры гарэзлівы агеньчык. Ён пайшоў у кабінет, прынёс кніжку і пачаў чытаць дзецям вершы. Чытаць Купала быў не вельмі вялікі мастак, але слухалі яго дзеці з вялікай увагай.

Калі Купала сказаў, што і яны павінны паспрабаваць пісаць вершы, дзеці запыталі:

— А пра што?

— Пра Зою, пра Мішу, пра маму і маленькага брацікa, пра кветкі і птушак...

— А мы не ўмеем...

— Я таксама не ўмеў, а потым сеў і пачаў пісаць. Так і вы...

Купала жартаваў, і ў сталовай увесь час звінеў вясёлы дзіцячы смех.

Развітваючыся з дзецьмі, Купала прасіў не забываць яго, заходзіць. Нехта са старэйшых дзяцей сказаў:

— Мы і так вам надакучылі.

— Абавязкова прыходзьце. Вось калі вы не будзеце прыходзіць, мне і сапраўды будзе сумна.

Дзеці пайшлі. Мы селі за стол даабедваць.

У той вечар размова ў нас была вельмі цікавая. Купала гаварыў пра бясконцасць усяго жывога і сцвярджаў, што самы плённы час у жыцці чалавека — гэта юнацтва і сталасць. Самыя бадзёрыя і здаровыя думкі, казаў ён, бываюць у маладыя гады. А вось пасля пяцідзесяці чалавек пачынае аналізаваць, у яго з'яўляюцца сумненні. Гэта — таксама добрая пара.

— Але, мусіць, мастачок, Пушкін праўду казаў, калі гаварыў:

Блажен, кто с молоду был молод.

Купала любіў жыццё і ўсё жывое ў жыцці. Філосаф, які абдымаў сваёй думкай свет, і мілы, добры, сардэчны чалавек, сустракацца і гаварыць з якім было шчасце, — такім ён застаўся назаўсёды ў маёй памяці.

**Рыгор БАРАДУЛІН**

# ЛЕПШАМУ СЫНУ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ


Мелодыя
гэтых слоў
З маленства
ў душу запала.

У галавах
маіх светлых сноў
Стаялі
Купалле,
Купалка,
Купала.

Маці мяне купала,
Спявала
пра ноч
на Івана Купалу:
— Ішла Купалка нявесела,
Краскамі вочкі завесіла.
Стала Купалка бедаваць,
А дзе ж мне ночку начаваць...

Ноч па зямлі ступала,
Купалкі збірала.
Рэха не спала:
— А сягоння ж Купала,
Што ні зробіш — прапала!..
Ноч паліла кастры,
Іскра
ў душу мне запала —
Купала...

* * *

Быў бы шчасны надзвычай
па вясковаму звычаю
Дзядзькам Янкам
назваць Купалу
І наведаць яго
цёплым чэрвеньскім вечарам,
Стаць на ганак,
таполевым снегам запалы.
Пачытаць яму вершы,
як з родным, пагутарыць
(Бацька мой
зваўся Янкам таксама)
І прызнацца,
што сына чакаю хутка,
Папрасіць памагчы
выбраць імя
прыгожае самае.

* * *

Мне зайздросна —
другія —
не я! —
наведалі,
Мне крыўдна —
спазніўся!—
таполя апала.
На ганку музея
мяне сустракае ветліва
Янка Купала.
Я рады
за сына і ўнука свайго



Якая б іх зорка,
якая б планета
іх ні запытала:
— Адкуль вы?
Адкажуць:
— З гордага краю таго,
Дзе нарадзіўся
Янка Купала!

**Павел МАЛЧАНАЎ,**
**народны артыст СССР**

# ЧАЛАВЕК ДОБРАЙ ДУШЫ

Зразумець тое, што я беларус, што мова маіх бацькоў, майго маленства — не мужыцкая, хамская гаворка, якое трэба саромецца і хутчэй пазбаўляцца, памагла мне Кастрычніцкая рэвалюцыя. Працуючы народным настаўнікам, я запісваў беларускія песні, народныя абрады. Тады ж упершыню пазнаёміўся са зборнікам беларускіх песень у апрацоўцы Тэраўскага і доўгі час не расставаўся з ім.

У 1922 годзе я пачаў займацца ў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве. Да нас, студыйцаў, часта прыходзілі на сустрэчы кіраўнікі партыі і ўрада Беларусі, дзеячы беларускай культуры, пісьменнікі, артысты. Бывалі ў нас, у студыі, старшыня прэзідыума ЦВК БССР Чарвякоў, дэпутаты польскага сейма беларусы Рак-Міхайлоўскі, Валошын, Мятла. Часта наведваліся ў студыю маўклівыя, але прыхільныя Янка Купала і Якуб Колас, гаваркі і вясёлы Змітрок Бядуля, «свой хлопец» Міхась Чарот, паважны і ціхманы Цішка Гартны, вясёлая і жвавая Канстанцыя Буйла і іншыя. Мы паказвалі гасцям урок пластыкі, рэпетыцыю новага спектакля або гатовы спектакль, падрыхтаваны нашым кіраўніком Валянцінам Сяргеевічам Смышляевым. Пасля гэтага нашы госці дабрэлі.

— Справа добрая, патрэбная. Малайцы хлопцы! — падбадзёрвалі яны нас.

Потым, калі з маскоўскай студыі ўтварыўся Другі Беларускі драматычны тэатр, які пачаў працаваць у Віцебску (1926 год), нашы сувязі з пісьменнікамі ўмацаваліся, а з некаторымі ў мяне завязалася дружба. Тут у першую чаргу трэба назваць таленавітага празаіка, высакароднага і чыстага душою Міхася Зарэцкага. З ім мяне пазнаёміла Любоў Іванаўна Мазалеўская — яна ведала яго па сумеснай службе ў Чырвонай Арміі ў 1920—1922 гадах.

Добрыя сяброўскія пачуцці былі ў мяне да Андрэя Александровіча, Алеся Дудара, Анатоля Вольнага.

Да паэтаў старэйшага пакалення, асабліва да Янкі Купалы і Якуба Коласа, я заўсёды ставіўся з асабліва глыбокаю пачцівасцю і павагай. Мазалеўскую і мяне яны ведалі яшчэ па маскоўскай студыі. Пры сустрэчы Купала заўсёды, бывала, скажа некалькі ласкавых слоў, пажартуе, а Уладзіслава Францаўна, якую ўсе мы, акцёры, звалі цёцяй Уладзяй, заўсёды дадавала:

— Дык вы ж заходзьце, калі ласка, да нас!
Мы стараліся заходзіць, але гэта было рэдка, а мой пераезд у 1930 годзе на ленінградскую кінафабрыку надоўга адарваў мяне ад Беларусі.

На беларускую сцэну я вярнуўся ў 1936 годзе. Вось як гэта было. Вясной 1936 года адміністрацыя Другога Беларускага драматычнага тэатра прапанавала мне паставіць спектакль з нацыянальных п'ес. Я выбраў «Паўлінку» і «Прымакі» Янкі Купалы, але, пабаяўшыся, што гэтага будзе мала, дабавіў яшчэ «Пінскую шляхту» Дуніна-Марцінкевіча. Праўда, як потым выявілася, яна была лішняя і сама сабою адпала.

Працуючы над «Паўлінкай», мне хацелася як мага паўней выявіць думкі і пачуцці Купалы. Блізкае знаёмства з аўтарам і захапленне яго талентам вызначылі мае беражлівыя адносіны да ўсяго, што выходзіла з-пад яго пяра. Гэтая акалічнасць часткова звязала мяне, як пастаноўшчыка, перашкодзіла мне глянуць на п'есу вачамі самастойнага мастака. І таму, нягледзячы на стараннасць, мая «Паўлінка» ўсё ж не стала падзеяй на беларускай сцэне.

Аднак вернемся да пачатку работы над спектаклем.

Мне падабаецца першая сцэна. Цёплы асенні надвячорак. Паўлінка вышывае і спявае журботную песню «Ой, ляцелі гусі». Маналог яе я аздобіў песняй, якую спявала некалі мая маці: словы і мелодыя гэтай песні адпавядаюць настрою тужлівага чакання.

А ў бару, бару ягадкі бяру,
Сама не знаю, каму.
А ці брацейку, а ці свацейку,
Ці міломў дружку.

Чаму ж не прыйшоў, ды не прыехаў,
Як я табе казала?
Ці дома не быў, ці каня не меў,
Ці мамка не пушчала?

І дома я быў, і коніка меў,
І мамка выпраўляла.
Ё ў мяне сястра, годы правяла —
Тая не пушчала.

Далей Паўлінка з захапленнем гаворыць пра свайго Якіма, які ён харошы, як ён хоча дабра людзям.

Сустрэча Якіма з Паўлінкай. Жадаючы зрабіць больш выразнымі палітычныя сімпатыі Якіма, я прымусіў яго чытаць «Песню пра Буравесніка» М. Горкага. Якім з асцярогаю дастае з-за пазухі кніжачку і чытае Паўлінцы ўрывак з «Песні». Паўлінка слухае, шырока расплюшчыўшы вочы, а потым бярэ ў Якіма кніжку і хавае яе.

Гэтая ўстаўка ішла на карысць вобраза Якіма і рабіла яшчэ больш абгрунтаваным праследаванне Якіма ганарыстым шляхціцам Сцяпанам Крыніцкім.

У другім акце было багата песень і танцаў. Мы некалькі скарацілі сцэну гульні ў «дурня». Мяне не задавальняў канец п'есы. Мне заўсёды здавалася, што п'еса нібы абрываецца. Нездарма я чуў, што яшчэ пры жыцці Купалы нехта рабіў спробу напісаць трэці акт. Але нічога добрага з гэтай спробы не выйшла.

Я наважыўся падзяліцца з Іванам Дамінікавічам сваімі думкамі наконт фіналу «Паўлінкі» і адначасова пагаварыць аб «Прымаках» — мне здавалася, што і ў гэтым вадэвілі-жарце неабходна змяніць канец. Другі Дзяржаўны драматычны тэатр знаходзіўся тады на гастролях у Бабруйску. Я паехаў у Мінск, каб сустрэцца з Купалам.

Дом Купалы. Я прабыў тут цэлы вечар у незабыўнай утульнай сталовай, у якой за многа год перабывала многа людзей з Масквы і Ленінграда, Украіны і Грузіі. І кожны з іх назаўсёды захаваў у сваім сэрцы памяць аб цудоўных гаспадарах і іх надзвычайнай гасціннасці.

Многа разоў я меў шчасце сустракацца з Іванам Дамінікавічам і ў творчай, і ў звычайнай, бытавой, абстаноўцы. І ўсюды з ім было прыемна, проста і лёгка гаварыць.

Янка Купала адразу згадзіўся на маю ўстаўку з «Песні пра Буравесніка» і лічыў гэта добрай знаходкай. З таго часу ўсюды сцэна Паўлінкі з Якімам ідзе з гэтай устаўкай. Устаўка з «Песні пра Буравесніка» ўнесена ў новыя выданні «Паўлінкі». І некаторыя літаратуразнаўцы пыталіся ў мяне, ці не з ведама Купалы гэта зроблена?

Я мушу запэўніць, што пры жыцці Купалы гэтых уставак у п'есе не было, Купала даў згоду на ўвядзенне іх у спектакль, а не ў п'есу. У п'есу ж яны, відаць, трапілі значна пазней, калі стаў вельмі папулярны спектакль «Паўлінка» ў пастаноўцы тэатра імя Янкі Купалы.

Янка Купала, — у прыклад будзь сказана некаторым сучасным драматургам, — не мог у 1936 годзе «выпраўляць» тое, што было напісана ў 1912 годзе, бо яно ўжо належала гісторыі.

Калі я выказаў думку, што і п'еса «Раскіданае гняздо» мае патрэбу ў некаторай пераробцы, бо яна не сцэнічная, статычная і мнагаслоўная, Купала спакойна і ўпэўнена сказаў:

— Вось пабачыце, прыйдзе час, і «Раскіданае гняздо» будзе з вялікім поспехам ісці на беларускай сцэне. Без ніякіх змен...

Яго прадбачанне часткова спраўдзілася: п'еса «Раскіданае гняздо» з поспехам ішла ў тэатры імя Якуба Коласа ў 1955 годзе ў час Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве.

Такім чынам, з пераробкай фіналу «Паўлінкі» ў мяне нічога не атрымалася. Купала не згадзіўся мяняць яго.

— Так было напісана, так няхай і застаецца...

Што ж датычыць «Прымакоў», то ён згадзіўся на некаторыя скарачэнні і пераробку. Але тут у гаворку ўступіла Уладзіслава Францаўна. Яна прапанавала зусім адмовіцца ад пастаноўкі «Прымакоў», каб часам гэта не зрабіла дрэннай паслугі Купалу.



**Павел Малчанаў і Янка Купала.**
З фондаў музея Янкі Купалы.

— Ведаеце, Янка пісаў «Прымакі», калі быў малады, ну, любіў пажартаваць. А цяпер, можа, будзе няёмка... Не, ён смешны, вясёлы, гэты жарт, але, можа, лепей не трэба...

А Купала ўсміхаўся ў вусы:

— Нічога, няхай хлопцы іграюць!..

Аднойчы ў разгар работы над спектаклем у Бабруйск прыехалі на машынах Янка Купала, Уладзіслава Францаўна і Пятрусь Броўка. І адразу — да нас. Паглядзелі рэпетыцыю і, відаць, былі задаволены, таму што Купала пажадаў сфатаграфавацца з калектывам тэатра. Вось з таго часу і засталося фота, што цяпер выстаўлена ў музеі: Янка Купала і побач з ім хлопец у касаваротцы. Хлопец той — гэта я.

У канцы чэрвеня ў Бабруйску адбылася прэм'ера. Прыехалі Янка Купала і Уладзіслава Францаўна.

«Паўлінка» прайшла з сярэднім поспехам. Фінал не задаволіў гледачоў. Ён як бы абрываўся на паўслове. Ды і выканаўцы некаторых роляў былі пасрэдныя. Затое Паўлінка — Раіса Кашэльнікава — спадабалася ўсім: прыгожы голас, свавольная, вясёлая. Потым, перайшоўшы ў тэатр імя Янкі Купалы, Раіса Кашэльнікава доўга была сталым выканаўцай ролі Паўлінкі ў пастаноўцы Л. Літвінава.

Бліскуча сыграла Агату Л. Мазалеўская. І адкуль яна толькі выкапала такую жанчыну — дзівакаватую, смешную, тып глыбока народны.

«Прымакі», за якіх так трывожылася цёця Уладзя, прайшлі з вялікім поспехам. У гэтым простым народным жарце было многа смеху, вясёласці, і ў той жа час — ніякай непрыстойнасці, хоць усе, здавалася б, рызыкоўныя сітуацыі засталіся непарушнымі.

Мы ўсе былі рады. Купала ад душы смяяўся, а цёця Уладзя, забыўшы ўсе свае трывогі, радавалася больш за ўсіх.

У «Прымаках» былі заняты акцёры: Я. Глебаўская, Т. Бандарчык, А. Буданава, Я. Буракоў і аўтар гэтых радкоў у ролі Максіма Кутаса.

Працуючы над пастаноўкай купалаўскіх п'ес, я яшчэ больш здружыўся з сям'ёй Купалы. Калі пасля Бабруйска мы прыехалі на гастролі ў Мінск, цёця Уладзя прапанавала нам пакой у сваёй кватэры. Мы з задавальненнем пасяліліся ў доме Купалы і пражылі там каля месяца.

На былой Кастрычніцкай вуліцы стаяў стары драўляны дом з невялікім садам. У садзе было многа кветак, якія вельмі любіла цёця Уладзя. Маёй сямігадовай дачушцы Валі там быў рай. Старэнькая маці Івана Дамінікавіча, якая заўсёды сядзела ў цянёчку і «крышыла крышаны», была рада маёй дачушцы і звала яе: «Мая разрыўка». «А дзе ж гэта мая разрыўка?..» А цёця Уладзя дражнілася з малою: «Ваўка — шалёная палка!..» Ваўцы гэта спадабалася, і яна напісала алоўкам на сцяне ў пакоі, сумежным са спальняй Купалы: «Ваўка — шалёная палка». Гэты надпіс не сціралі, і ён быў да самай вайны.

Да Купалы часта прыходзілі Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Кандрат Крапіва, Андрэй Александровіч. Звярталіся за парадай і падтрымкай маладыя паэты. І для ўсіх у яго знаходзілася шчырае, цёплае слова, заўсёды накрыты стол.

Аднойчы пры мне Купалу прынеслі бандэроль з Вільнюса. Гэта былі вершы тады яшчэ маладога паэта з Заходняй Беларусі Максіма Танка. Вершы былі гарачыя, таленавітыя, адчувалася яркая індывідуальнасць паэта. Купала радаваўся ад душы:

— Нашага палку прыбывае!

Свае вершы Купала рэдка чытаў уголас, таму што чытаць не вельмі ўмеў, і сам ведаў пра гэта. Але слухаць, як чытаюць другія, любіў. Мне не раз даводзілася чытаць яму ўголас. Памятаю, неяк аднойчы, незадоўга да вайны, Купала выйшаў са свайго пакоя, трымаючы ў руках лісток з новым вершам. Пачаў быў чытаць нам верш уголас, але тут жа змоўк і падаў лісток мне:

— Наце чытайце вы.

Я спачатку прабег верш вачамі, а потым з пачуццём прачытаў уголас. Купала расчуліўся, вочы яго заблішчэлі; ён наліў мне і сабе па чарцы, мы чокнуліся, і ён расцалаваў мяне. Як акцёра, ён, відаць, цаніў мяне, але з мае «беларускасці», з майго вымаўлення любіў пакепліваць.

* * *

Апошні раз я бачыў Купалу ў 1940 годзе, калі наш тэатр прыехаў на гастролі ў Мінск.

Вайна застала мяне ў Петразаводску. Жонка была ў Мінску, адсюль яна збіралася паехаць на возера Нарач: яе запрасілі ўдзельнічаць у здымках фільма «Бура над Нараччу». Дачка з бабуляй засталіся ў Віцебску.

Калі пачалася вайна, а з ёю — увесь жах і паніка, Купала праявіў надзвычайную клапатлівасць. Ён правёў жонку на вакзал, памог ёй усім, чым толькі мог, і толькі з яго дапамогай ёй удалося 24 чэрвеня вырвацца з Мінска.

Наша дружба з сям'ёю Купалы падтрымлівалася многія гады і спынілася толькі са смерцю Уладзіславы Францаўны. Цяпер мы ўжо самі пастарэлі, многае з мінулага забылася, многае не варта таго, каб яго памятаць, але памяць пра чалавека добрага сэрца, высокай культуры і вялікай сціпласці, памяць пра вялікага паэта беларускага народа Янку Купалу застанецца ў маім сэрцы да канца дзён маіх, як самая светлая, самая яркая паласа жыцця.



**Генадзь БУРАЎКІН**

# Я ВЕДАЮ КУПАЛУ ЖЫВОГА



Я не бачыў Купалу жывога
І з дзяцінства зайздросціў,
калі
Сустракаў тых,
каго дарога
Поплеч з ім правяла па зямлі.

Я зайздрошчу іх лёсу зямному,
Прагна рады іх словам любым.
Мне ніколі не будзе замнога
Успамінаў сяброўскіх аб ім.

Я лаўлю, я збіраю ўспаміны —
І
дзіўлюся,
як спраўджаным снам:
Ды такога ж —
ветлага, мілага —
Я Купалу ведаю сам.

Мне ў цікаўную памяць запала
(І не помню, парою якой)
Задуменная постаць Купалы
З сукаватым дарожным кійком.

Я не знаю, адкуль —
толькі помню
Разам з песняй пра даўні курган
Яго погляд глыбокі, спакойны,
Дзе схаваны і смех, і туга.

Знаю ўсе яго думы, трывогі,
Чую родны купалаўскі спеў...
Не,
я ведаў Купалу жывога,
Хоць сустрэцца з ім і не паспеў...

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

# ПАКУЛЬ ГЭТА СЭРЦА Б'ЕЦЦА...

Заўсёды цяжка гаварыць аб тым, што любіш. І асабліва цяжка сказаць слова любві, калі гэтая любоў ужо не мае мяжы...

Я памятаю час, калі мне ўпершыню трапіла ў рукі кніга Купалы. Магчыма, зарана, бо гэта была «дарослая» кніга, а я быў яшчэ зусім малы. На «дарослыя» кнігі была накладзена забарона, і чытаць іх даводзілася ўпотай. Таму я чакаў, калі ўсе ў доме заснуць, і ў адной сарочцы забіраўся ў ціхі куток. «Забароненыя плады» былі там. І яшчэ там было старое пацёртае крэсла, а на падлозе, на мяккай аўсянай саломе, ляжалі яблыкі. Можна было набраць з шафаў або з кніжнай гары ў кутку хоць дзесяць кніг і чытаць, пакуль між яблынь за акном не ўстане перадранішні туман. Я асабліва любіў вершы. Чаравала самая іх музыка, нават тады, калі сэнс не даходзіў. Гэта здавалася дзівам, большага за якое не было на зямлі.

Я забіраўся ў крэсла, нацягваў сарочку на голыя ногі, і час знікаў. Толькі парыпванне маснічын, — яны рыпелі самі, — адрывала часам ад радкоў, і тады можна было прыўзняць галаву і глядзець, як далёка-далёка ў цёмным садзе трапеча адбітак маёй свечкі. Часам здавалася, што гэта бліпічыць ліхтарык у маленькага хохліка, які стаіўся там, між дрэў, і здалёк глядзіць у акно. Трэба было б папрасіць у яго, каб даў мне доўгі век, больш такіх вось начэй у маўклівым доме, больш гэтага ап'янення і яшчэ, — ну, што яму варта! — каб я сам мог, хоць дрэнна, хоць не так, як у гэтых кнігах, стварыць такое дзіва.

Відаць, не выпрасіў.

А радкі адзываліся ў душы і жахам, і холадам, і гарачай дрыготай, як тады, калі працягнеш рукі да агню і цеплыня льецца ад далоняў у цела.

І вось мне трапіла ў рукі кніга ў папяровай вокладцы. Я разгарнуў яе і ўбачыў:

На Купалле там птушка садзіцца, пяе,
У Піліпаўку воўк нема вые,
Сонца днём распускае там косы свае,
Ноччу зоры глядзяць залатыя.

Гэта было, як ноч, як агеньчык у цёмным садзе і як водар яблыкаў на аўсянай саломе. І так гэта засталося на ўсё жыццё.

Я чытаў тады ўсю ноч і нарэшце дайшоў да таго стану, калі ўжо нічога, ані паловы слова не разумееш, але ўрачыстая, мерна-гучная хада радкоў прымушае валасы дыбарам стаяць на галаве.

Гэта было проста і добра. Гэта была тая самая пявучая родная мова, на якой гаварыла мая нянька, — так пяшчотна, — і мой бацька, — так грубавата. Я шмат чытаў для свайго ўзросту, гэта былі радкі, накшталт радкоў нямецкага паэта Мюлера:

Светлый мир здесь погребен когда-то,
И встают обломки, как цветы,
Золотыми искрами заката
Отражаясь в зеркале мечты.

І раптам:

Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,
Ці запеў салавей, ці загагала гусь, —
Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,
Сваю матку-зямлю — Беларусь.

Гэта было дзіва. Восьмы — а для мяне першы — цуд свету. А потым былі «Магіла льва», «Бандароўна», — і змяніўся свет. Назаўжды.

Я не ўяўляю сабе жыцця без яго. Каб не было той ночы і той кнігі — я ніколі не пісаў бы так, як пішу. Ды і ці пісаў бы наогул?

Шмат радкоў напісаў я аб ім. Менш надрукаваў. Бо словы слабыя, бо словы, часам, нічога не могуць сказаць.

А беларусы ж нікога не маюць...

Мы маем шмат каго: і Багушэвіча з яго ўтрапёнай нянавісцю, і Багдановіча з яго ўтрапёнай пяшчотай. І ўсё адно Купала застанецца першай нашай любоўю, нашымі вачыма, нашым сумленнем, нашым вечна жывым сэрцам.

Мне давялося бачыць яго толькі аднойчы. Мне тады было, напэўна, год сем. На вуліцах Оршы грымела музыкай нейкае свята. Брат паказаў мне яго, і я здзівіўся: мне здавалася, што ён павінен быць нават фізічна дужэйшы, на дзве галавы вышэйшы за ўсіх іншых людзей. І дзіўна было, што ён жыве ў Ляўках, зусім недалёка, цераз Дняпро.

З таго часу мінула шмат год. Вайна забрала дом. Вайна забрала брата. Вайна, што б там ні казалі, забрала і Купалу. Толькі аднойчы бачыў я яго, але я ведаю, наколькі бяднейшым было б маё жыццё, каб не гэтая іскра ўспаміну з далёкіх дзіцячых год.

Пасля вайны я пабываў у Ляўках. Попел. Галавешкі. Знявечаныя адхоны над Дняпром, якія любіў Купала і якія, дзякуючы гэтаму, прымусілі мяне яшчэ больш, часам амаль нясцерпна любіць маю сціплую прыдняпроўскую зямлю...



Помнік Янку Купалу ў Радашковічах.
Фота А. Дзітлава.

Купалы ўжо не было. І на месцы яго дома быў попел.

Я не разумеў тады, што некаторыя легенды — гэта само жыццё, і не ведаў, што ў легендзе пра Фенікса больш праўды, чым нават у жыцці.

Зразумеў потым, калі ўдвох з сябрам адправіўся пешшу ў Вязынку і ўбачыў простую сялянскую хату, якая стала нашай Мекай. Там я зразумеў: ён жывы.

Нам дорага ўсё ў ім: і ўзлёты генія, і простыя чалавечыя памылкі, і шлях, цяжкі і слаўны, як у кожнага вялікага паэта. І нельга ўзяць

з нашых дум яго рамантызм, і яго святую праўду, і яго веру. Бо ён верыў у казку нашай радзімы.

І ён вельмі верыў у свой народ. Толькі гэта і дало яму сілу ствараць тое, што ён стварыў, даць нямому народу, якім усе пагарджалі, песню, слова і мову.

Больш за ўсё хацелася б мне напісаць паэму аб ім. Не ведаю, ці хопіць сціплых слоў, бо гэта — галоўнае, бо аб гэтым нельга сказаць абы-як. Таму што, напэўна, будуць большыя за яго, — інакш не варта было б жыць паэзіі. Але не будзе людзей, якія больш зрабілі б для маёй мовы, для маёй песні, для маёй Радзімы, нарэшце.

Калі б мяне, маленькага чалавека, спыталі: «Як ты хочаш ушанаваць яго памяць? Кажы — і мы выканаем усе, да апошняга, твае пажаданні, як быццам ты Аладзін і чароўная лямпа ў тваіх руках, а табе прыслугваюць усе добрыя джыны зямлі». Калі б мяне так спыталі, — я адказаў бы: «Зрабіце гэта не для яго, бо лепшы помнік яму — нашы сэрцы і яго песні, што жывуць у іх.

Зрабіце гэта не для яго, бо яго славу не ўзвялічаць помнікі. Зрабіце гэта для сябе, каб нас не вінавацілі ў няўдзячнасці, у дрэннай памяці, у адсутнасці той вялікай павагі да лепшага свайго паэта, без якой не жывы кожны народ».

Беларуская зямля чакае праху Купалы, беларускі народ чакае вечнага агню, які будзе гарэць над яго магілай. А ля яе ў вечнай ганаровай варце стануць усе—і суровы Машэка ў ваўчынай скуры, і Бандароўна— наша непакора-зямля, і Паўлінка — маладое хараство гэтай зямлі, і гнеўны Сымон Зяблік з сякерай ў руцэ, і сляпы лірнік з павадыромхлопчыкам, які глядзіць на свет нясцерпна-чыстымі вачыма будучага вялікага таленту, і крылатая Алеся — гордасць і светлая будучыня зямлі Купалы.

Шмат чаго яшчэ будзе. Быць бязмернаму шчасцю і яснаму сонцу. Быць і небу і хмаркам. Быць, магчыма, і навале. Але мы вытрымаем, бо мы няспынныя, як яго сэрца. І мы будзем жыць, пакуль гэта сэрца б'ецца ў нашых грудзях.

Пакуль гэта сэрца б'ецца...

**Анатоль СЕРБАНТОВІЧ**

## КУПАЛАЎСКІЯ ТОМІКІ



На паліцах пад замком не томяцца —
Ў рукзаку, кішэні і кабіне
Цёплыя купалаўскія томікі
Ў вечным падарожжы па краіне.

Тут радком гарачым і пякучым
Сэрцы чалавечыя напоўняць.



Сцебануць папругай адстаючых,
Будучыню светлую напомняць.

Там расправяць арлянятам крылы,
А каму шчэ дапамога трэба —
Сілы ўліюць у жылы,
Каб ўзляталі ад зямлі у неба.

А зімой, калі ў дарозе гора
Ў снежную марозную завею,
Маладых нявопытных шафёраў
Ноччу неспакойнаю сагрэюць.

На паліцах пад замком не томяцца—
Ў рукзаку, кішэні і кабіне
Цёплыя купалаўскія томікі
Ў вечным падарожжы па краіне.

**Сцяпан КУХАРАЎ**

# НА ДНЯПРОЎСКАЙ КРУЧЫ...

### 1

Ляўкі, Аршаншчына.

Нам гэтыя два словы ўрэзаліся ў памяць яшчэ са школьных год. Чытаючы вершы Янкі Купалы ў школьных хрэстаматыях, мы ў думках уяўлялі гэтыя мясціны. Нібы бачылі Дняпро з яго кручамі і маляўнічымі берагамі, і сосны, якія варушаць думкі шумам і цішаю, разлівы ільноў на ляўкоўскіх палетках, сады ў квецені, захапляліся песнямі, якія хвалявалі сэрца паэта...

У Ляўкі Янка Купала першы раз трапіў у пачатку 1935 года, калі быў у творчай камандзіроўцы на Аршаншчыне. У Ляўках быў перадавы калгас «Х з'езд Саветаў». Ляўкоўцы мелі свой сад, агарод, жывёлагадоўчыя фермы. Вакол вёскі — пагоркавыя, але ўрадлівыя палі, на ўзрэччы — заліўныя лугі... Янку Купале спадабаліся ляўкоўцы — працавітыя і гасцінныя людзі, прыйшліся да душы маляўнічыя мясціны гэтага надрэчнага краю.

Паблізу Ляўкоў, на высокім лясным беразе Дняпра, Янка Купала збудаваў домік-дачу, якая стала яго ўлюбёным куточкам, калыскай творчага натхнення. Ляўкі ў жыцці Я. Купалы — тое, што Болдзіна для А. Пушкіна, Таруса — для К. Паўстоўскага, Вёшанская — для М. Шолахава...

Шэсць летаў пражыў у Ляўках народных паэт. Тут напісаў ён свае цудоўныя вершы пра радасць і шчасце калгаснага жыцця, тут ён, як ніколі дагэтуль, адчуў блізкасць да людзей працы, якіх любіў з усёй шчырасцю сваёй душы.

На Купалавай дачы ў Ляўках былі ў тыя гады многія вядомыя пісьменнікі і паэты. Гасцявалі тут Якуб Колас, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Андрэй Александровіч, Аркадзь Куляшоў, Міхась Клімковіч...



**Дача ў Ляўках.**

З фондаў музея Янкі Купалы.

Домік у сасонніку, на дняпроўскай кручы, быў гасцінна адчынены для ўсіх добрых людзей. У паэта перабылі ў гасцях амаль што ўсе ляўкоўцы. Гасцявалі ў яго леснікі і настаўнікі, пастухі і даяркі, садоўнікі і плытагоны... Да Купалавых ішлі людзі, як сусед ідзе да суседа. І Купала быў жаданым чалавекам у кожнай хаце ў Ляўках.

Кажуць, што кожную раніцу, як толькі з-за ляўкоўскага саду пырснуць першыя сонечныя промні, дзядзька Купала са сваёй кавенькай паказваўся на сцяжынцы, якая бегла з пагорка ў Ляўкі, на калгасны двор...

Расказваюць, як Купала, абапёршыся на драбіну воза, у задуме курыў, услухоўваючыся ў гаворку мужчын і жанчын, што збіраліся на нарад каля кузні, як Купала вёў гутарку з садоўнікамі Міхаілам Старавойтавым і Феліксам Жывалісам, як Купала з Уладзіславай Францаўнай гасцяваў у дзіцячым садзе, як падараваў Міхаілу Старавойтаву грушу-бэру, і тая груша сёлета так цвіла, аж усё было белае на гародзе, як Купала быў сярод касцоў, нават сам намянташыў касу і прайшоў добры пракос...

Янка Купала часта прыходзіў на калгасныя сходы, на вечарынкі моладзі, гутарыў з камсамольцамі і піянерамі. Да яго парад і заўваг прыслухоўваліся і тагачасны старшыня Арсень Белкін, і брыгадзіры Міхаіл Кандрацьеў ды Андрэй Вайцахоўскі, да яго за дапамогай ішлі і звеннявыя, і радавыя калгаснікі. Паэта цікавілі і хвалявалі ўсе дробязі вясковага жыцця.

— Яму ўсё наша было цікавае, — успамінае стары калгаснік Сямён Іванавіч Яфрэмаў. — І як мы коней кормім, і як дрэўца ў садзе абразаем, і якія ўгнаенні лепей класці пад лён... Ён пра ўсё дапытваўся і ўсім цікавіўся. Здавалася, для чаго яму ўсё гэта вясковае, усё гэта хлебаробства? Яму, чалавеку, які мае такія веды і такую навуку...

Сямён Іванавіч хітра жмурыць сінія жвавыя вочкі, сухарлявым кулачком абхоплівае сваю сівенькую бародку-клінок і гаворыць, цёпла ўсміхнуўшыся:

— А я аднойчы ў яго і пытаю: «А нашто вы, дзядзька Янка (мы ў Ляўках усе яго гэтак называлі), пра ўсё дапытваецеся? Гэта ж надта ўсё простае такое, вясковае...» А ён тады мяне гэтак паляпаў па плячы і сур'ёзна так сказаў: «Дарэмна, братка Яфрэмаў, так думаеш. Усё гэта вельмі цікава. Гэта, братка мой, — і ёсць жыццё». Вунь як сказаў наш дзядзька Янка! І цяпер памятаю добра, як ён тады мяне па плячы паляпаў і гэтак цёплымі, заклапочанымі вачмі глядзеў на мяне...

А калгасніца Кацярына Міхайлава, якая ў тыя гады працавала ў дзіцячых яслях, расказвае:

— А як жа, памятаю! Добра памятаю, як Янка Купала заходзіў у яслі. І часта з жонкаю, з Уладзіславай Францаўнай. Дзецям цукеркі прыносілі. Падарункі давалі. Бібліятэчку адзін год, помню, прынеслі. Часта вазіў дзяцей на сваёй машыне. Насядзе поўна дзяцей і па ліпавай алеі катаюцца. Тая алея вунь і цяпер бачна, ліпы добра раскучаравіліся. Улетку як дача ўсё роўна!

Кацярына задумліва глядзіць на каржакаватую, расахатую ліпу з буслянкай на верхавіне (ля яе часта стаяў на ранішніх нарадах Янка Купала) і з радаснай усмешкай на маладжавым твары гаворыць:

— І яшчэ памятаю, як Янка Купала ў нас на гулянцы быў. Вунь пад той ліпай. Іх было тады дзве. Але адну снарадам у вайну рашчапіла, і яна



загінула. Пад ліпамі мы святкавалі ўручэнне акта на вечнае карыстанне зямлёю. І Янка Купала быў. І вершы свае чытаў. Разам з калгаснікамі фатаграфаваўся. І здымак быў, здаецца, у Шчабляцова Андрэя. Але ён некуды з вёскі выехаў. Шмат было ў ляўкоўцаў здымкаў з Янкам Купалам. І ў нас былі здымкі, і ў Чаркесавай Дусі, яна тады таксама ў яслях працавала, а яе бацька за конюха быў. І Янка Купала з ім не раз здымаўся. У вайну мы ўцякалі з Ляўкоў, бо тут былі баі, і ўсё згубілася...

З кім ні загаворыш у Ляўках, усе памятаюць, усе цёпла, з шчырай радасцю ўспамінаюць Янку Купалу. Людзі пажылыя і цяпер ужо сталыя вяскоўцы, якія тады вучыліся ў школе, былі піянерамі, — усе носяць у сэрцы воблік чалавека, што жыў з імі і падараваў ім часцінку самога сябе.

Сямёна Максімавіча Баразнова, якому сёлета спаўняецца восемдзесят восем год, і ў той час называлі ўжо дзедам. Ён працаваў тады на калгасным гародзе. Бываючы ў садзе, Янка Купала часта любіў пагутарыць з пажылым гароднікам, запрашаў да сябе на кансультацыі, бо і ў Купалы ўжо меўся садок і невялічкі гародчык.

— Любіў мяне Янка, — шчыра ўсміхаецца дзядуля. Яго пасечаны маршчынамі твар ружавее, асвятляецца радасцю. — Любіў мяне, бо я добра рабіў. І яму, калі што трэба памагаў. Бывала, як зойдзем да яго, а ён ужо і крычыць: «Уладзя, сыраквашы нясі!» І ўсміхаецца. А якая там сырakваша — гэта так, для прыклёпу. Вось быў чалавек: са старым, як стары, а з малым, як малы. І не сказаць, каб які такі як мы, — ён жа вялікі вучоны быў. Галава якая! А простага чалавека любіў!..

І ў госці ляўкоўцы хадзілі да Янкі Купалы.

— Было такое, — прыгадвае Андрэй Лаўрэнавіч Вайцахоўскі. — Неяк, справіўшы дажынкі, надумаліся мы да Янкі завітаць. Сабралася нас чалавек з дзесятак, актыў калгасны: старшыня Арсень Белкін, брыгадзіры, гэта значыць, я і Кандрацьеў, конюх Андрэй Шчабляцоў, даяркі, садоўнікі. Прынеслі з сабою сноп, абвіты кветкамі, яблыкаў, мёду... Ну, і пагасцявалі ж мы тады, помню, аж да рання прагаварылі... А Янка Купала і верш нам потым чытаў... Здаецца, на сходзе, у нашым клубе...

Канешне, толькі цёплая сустрэча, шчырая размова з людзьмі, зацікаўленасць іх клопатамі маглі нарадзіць такія радкі з цудоўнага верша «Госці»:

— Загаціць, — кажуць далей, —
трэба рэчку,
Каб возера было, каб быў і млын,
Каб і ў хляве каровам і авечкам
Сама вада пайшла ўгару з нізін.

Многія вершы з Ляўкоўскага цыклу навеяны канкрэтнымі падзеямі, сустрэчамі з добрымі суседзямі і шчырымі сябрамі — калгаснікамі навакольных вёсак Ляўкі, Зубава, Смётанка, з моладдзю Копыся, з воінамі, якія жылі непадалёк. Пабываў Я. Купала на дажынках і з'явіўся



**Якуб Колас і Янка Купала. Цхалтуба. 1939 год.**

З фондаў музея Янкі Купалы.

верш «Вечарынка у калгасе», прайшоўся па вёсцы, паглядзеў, як сустрэлі ляўкоўцы свайго земляка-воіна, які вярнуўся дадому са службы,— і напісаны новы верш «Як у госці сын прыехаў», павандраваў паэт па ўзбярэжжы Дняпра з сябрамі-пісьменнікамі, якія прыехалі да яго з Мінска,— і зноў у свет пайшоў новы верш «Старыя акопы».

Ляўкоўцы сцвярджаюць, што іх маляўнічая прырода, іх справы былі крыніцай натхнення для паэта.

— Аднойчы, — успамінае калгаснік Андрэй Антонаў, — мы аралі ў полі пад жыта. Бачым, ідзе па дарозе Янка Купала. Спыніўся ля аратых. Пачаставаў усіх папяросамі. І доўга гутарыў з намі. На развітанне і кажа нам: «Дзякуй, хлопцы». За што? — пытаем мы. А ён усміхнуўся і адказаў: «За натхненне. Гэта ж, ліха яго, згубілася натхненне. Дык я пагутарыў з вамі і натхненне знайшоў...»

Цяжка цяпер адлучыць, дзе тут праўда, а дзе выдумка. Але важна адно: жывучы ў Ляўках, паэт паказваў прыклад таго, як трэба вывучаць жыццё, пранікаць у жыццёвыя з'явы, увасабляць пражытае і ўбачанае ў мастацкія творы.

## 2

Няма на дняпроўскай кручы купалавага доміка-дачы. Яго ў першыя дні баёў за Копысь спалілі фашысты. Згарэла купалаўская бібліятэка. Знішчаны купалаўскі садок...

Ад тых меднастволых, выносістых сосен, што высіліся тут, як помнік прыроды, — засталіся толькі адзінокія шурпатыя пні-пачвары ды чыстая палянка ў вянку арэшніку, дубкоў, бярозак, рабін, і безліч кустоў лясной чаромхі — калакалушы, а ўнізе праз зеляніну бліщчыць рудой стужкай Дняпро...

Адсюль, з высокай кручы, добра відно ўсё зарэчча: палі, расквечаныя ярыной, і цёмная паласа бору. Мачты высакавольтнай лініі з берага крочаць за раку і хаваюцца на жаўтлявых пагорках. Цёплы ветрык гойсае ў арэшніку, віхрыць жаўтлявыя хвалі Дняпра, — толькі прайшоў спорны цёплы дожджык. Усё іскрыцца, зззяе зялёным бурштынам. І звіняць-дзілінькаюць у бяздоннай высі жаваранкі, спявае-заліваецца ў арэшніку салавейка, галёкаюць-перагукваюцца на лузе хлапчукі-пастушкі... Зусім як у ляўкоўскіх вершах Купалы.

Злева за ракою відны кар'еры, дзе бяруць гліну і гравій цагельнікі. Там увесь дзень грукоча трактар, яго вуркатанне зліваецца з гоманам машын, якія бягуць па дарозе на Копысь. На ляўкоўскіх палях пацішэла. Хутка разальецца мора збажыны.

Трактар увесь час вуркатаў, а то ўраз сціх, напэўна, перапынак на абед. Запанавала такая ціша, што, як прыслухаешся, чуваць, як храпуць на лузе коні... І яшчэ — як плюскоча, крэкча сівы Дняпро.

І во ўжо цішыні няма. Зноў хрыплавата завуркатаў трактар, але ўжо з другога боку — ад Зубава, з цэнтра калгаса: гэта ў ляўкоўскую брыгаду, на падмогу, ідзе магутны «ДТ-54». На трактары хлопец — Сяргей Беларускі, адзін з тых піянераў, якія памятае, як Купала чытаў свае вершы ў Зубаўскай хаце-чытальні. І цяпер хвалююць тыя простыя, мілагучныя словы:

Сыноў бацька сваіх кліча
На нараду ў хату,
А ўрачыста, як бы кліча
На якое свята.

І з павагаю пытае
Кожнага ў асобку,
Кім з іх кожны быці хоча,
Якім жыць заробкам.

Не толькі Сяргей — многія зубаўцы, ляўкоўцы цяпер, нібы той першы сын з купалаўскага верша, землі трактарам варочаюць, каб рунелі-зеляңелі калгасныя палеткі, каб расла ў рост чалавека збажына.



Прайшло шмат часу, як у Ляўках жыў Я. Купала. Але памяць аб ім не згасла, не сцерлася. Жыве і сёння ў Ляўках дзядзька Купала.

Пакуль што няма яму помніка на той палянцы, «на ўзбярэжжы ракі шумнацечнай», адкуль відна, як жартуюць ляўкоўцы, аж палова Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Але лепшым яму помнікам з'яўляецца шчырая народная любоў і прызнанне яго генія.

Помнік Купале ў Ляўках — жывая памяць сэрцаў, якія беражна хаваюць воблік паэта-баяна. У кожнай хаце сустрэнеш кніжкі Купалы. Дзеці-школьнікі дэкламуюць яго вершы са сцэны калгаснага клуба, дзяўчаты спяваюць яго вершы, драмгурткоўцы ставяць купалаўскія п'есы.

Тыя камсамольцы і піянеры, з якімі некалі так цёпла, па-бацькоўску гутарыў і сустракаўся Янка Купала, сёння вырошчваюць багатыя ўраджаі.

Даўно залечаны, загоены раны вайны. У Ляўках зноў адбудаваны новыя, светлыя хаты. Вуліцы з садкамі, з сялібамі працягнуліся далёка ў два канцы. Тут сёння брыгада калгаса імя Карла Маркса. І брыгадзірствуе ў Ляўках меншы сын Сямёна Баразнова, таго самага Сямёна Максімавіча, які быў добра знаёмы з Янкам Купалам. Косця Баразноў — колішні ляўкоўскі піянер, ужо мае сваіх траіх дзяцей, і яго большая, Тамара, таксама, як і ён некалі, уголас дэкламуе купалаўскія радкі:

Зелянее жыта, жыта і пшаніца,
А так буйна, буйна, як даўней ніколі.
Вось дык будзе радасць у ясных
святліцах,
Калі грамадою збяруць дабро з поля.

Косця Баразноў — просты, радавы чалавек. Патомны калгаснік. Прайшоў суровыя шляхі-дарогі вайны. Вярнуўся ў Ляўкі камуністам. Як памятка яго баявых паходаў — у жончыным кубёлку хаваюцца гвардзейскі значок, два мядалі «За адвагу», ордэн Чырвонай Зоркі. Косця сёння з раніцы да позняга вечара носіцца ў брыгадзе, гарачыцца, крычыць, часам і лаецца: хоча, каб не адстаць ад іншых брыгад, стараецца, каб усюды быў парадак. Не заўсёды яму ўсё ўдаецца, бо гаспадарка вялікая, а людзей малавата.

— Але нічога, управімся, — упэўнена заяўляе Косця. — Вунь з Зубава, з цэнтра, аж тры аўтамашыны прыслаў старшыня. Як бачыш, гной вывезлі. Пастараемся, — і крычыць шаферу: — Вязі, братка туды, пад леснічоўку, на кукурузу. Гэта ў мяне адказная культура. Ды яшчэ буракі... Управімся!..

І Косця мігам ускоквае на жарабка і імчыцца ў поле. Вунь ужо за пагоркам мільгае толькі яго шапка-блінок... За гарачнасць, за лысую, як бубен, у сорак год галаву Косцю празвалі «Катоўскім». «Катоўскаму» цяжка: у яго ўсяго пяць класаў (перашкодзіла вайна), але абавязкі брыгадзіра ён выконвае шчыра.

Каб быў жывы Купала, як узрадаваўся б ён, убачыўшы сёння новыя будынкі, электрычнасць і ў Ляўках, і ў Зубаве, і новую школу-адзінаццацігодку яго імя ў Копысі, і багатую бібліятэку ў зубаўскім клубе, дзе ёсць амаль усе яго творы. Як бы ён узрадаваўся, калі б пагутарыў са старшынёй калгаса Уладзімірам Вялічкам (гэта сын таго самага Сцяпана Вялічкі, які часта сустракаўся на леснічоўцы з Купалам), з былой выхавацельніцай ясляў Кацяй Міхайлавай, якая сёння ў Ляўках — першая ільнаводка.

Людзі, якіх шчыра, усім сваім шчодрым сэрцам любіў народны пясняр, працуюць, не пакладаючы рук. Іх калгас набірае добрыя тэмпы. На ўсіх участках ідзе вялікае змаганне за хлеб, за высокія паказчыкі ў жывёлагадоўлі.

Уладзімір Сцяпанавіч — аграном, скончыў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, гады тры папрацаваў на гэтай пасадзе. Нядаўна прыняў гаспадарку. Для яго гэта — нялёгкая ношка. Але малады камуніст не збаяўся, што давядзецца шмат папрацаваць.

— Ляўкоўцы працы не баяцца, — з усмешкай заўважае Уладзімір

Сцяпанавіч.— Я памятаю, які багаты быў у нас некалі калгас. Слава пра яго грымела на Аршаншчыне. Многія вершы, якія напісаў у Ляўках Янка Купала, — гэта малюнкі таго жыцця, якое зачыналі нашы бацькі. Мы павялічым славу нашых бацькоў, дойдзем да светлае мэты...

Уладзімір Сцяпанавіч і сакратар парткома Аляксей Канстанцінавіч Стахно расказваюць пра будні свайго калгаса.

— Па здачы малака дзяржаве, — заўважае сакратар парткома Аляксей Канстанцінавіч, — мы займаем трэцяе месца ў раёне, па здачы мяса — недзе ў сярэдзіне. Але хутка выйдзем угору. Па-новаму арганізавалі адкорм свіней. За гэту справу ўзяліся камсамолкі. Марыя Лугаўцова, Курыльчыкава Ларыса і Ала Хомчанка адкормліваюць каля паўтары тысячы падсвінкаў. Гэта — наш вялікі рэзерв у штурме намечаных рубяжоў на сёлетні год сямігодкі. А колькі яшчэ ёсць такіх рэзерваў, якія патрэбна прывесці ў дзеянне. І мы іх знойдзем, адкрыем. Інакш нельга: кожная гадзіна, кожны дзень — на будаўніцтва нашай светлай будучыні.

Расце, харашэе калгас на ўзбярэжжы Дняпра. Прыгажэюць, набываюць новыя якасці людзі — гаспадары сваёй долі.

Паслухаеш, як плешчуцца срабрыстыя хвалі сівога Дняпра, услухаешся ў гул электрычных правадоў на прырэчных вуліцах, уловіш вухам гоман матораў за аселіцай, і здаецца, што гэта гучыць звонкая песня Купалы.

Жыве Купалава слова. Ходзіць — не змаўкае купалава слава.

Калгас імя Карла Маркса
Аршанскага раёна.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ**

# У ЛЯЎКАХ


зе сосны — дзён яшчэ нядаўніх сведкі?
Акопы... Дрот калючы... Сплюшчаная каска...
Беразнячок на ўзгорышчы сабраўся рэдкі,
Паслухаць хоча спеў вясёлага падпаска.
Дняпро няспынна гоніць уздыбленыя хвалі,
Спяшаецца на поўдзень, неўгамонны.
Стрыжы ў аблокі скрыліся, расталі,
Іх праглынуў блакіт празрысты і бяздонны.

Дзе сосны — дзён яшчэ нядаўніх сведкі?
Вайна сям'ю сталетнюю зламала і скрышыла,
Але ўжо цягнуцца увысь зялёныя падлеткі,
Сасновы маладняк узняўся з новай сілай.



Да папялішча доміка, дзе жыў Купала,
Не зараслі травою дзікай сцежкі.
Любоў народная прыйшла і адшукала
Яры паэтавы, пагоркі і паўмежкі.

Дзе сосны — дзён яшчэ нядаўніх сведкі?
Жыве і не сціхае ў песні шум іх шматгалосы.
З былою пекнатой растуць наўкола кветкі,
І раніцай гараць, іскрацца росы.
А ўвечар, калі зойдзе стомленае сонца
І прыйдзе змрок павольна з-за пагорка,
Здаецца, з доміка, з высокага аконца
Агеньчык свеціцца ў вадзе, як зорка.

**Алесь ЕСАКОЎ**

# СЦЕЖКАМІ ЯНКІ КУПАЛЫ

**І ў Камуне, і ў Соснах, і ва ўсіх навакольных вёсках ёсць многа людзей, якія добра помняць Янку Купалу. З усімі імі мне давялося сустрэцца, пагутарыць, і яны расказалі шмат цікавага. Пра ўсе гэтыя сустрэчы будзе расказана ў кнізе, над якой працуе аўтар і ўрывак з якой падаецца тут.**

Калі едзеш на аўтамашыне, ды яшчэ на «казле», хуткасць якога — за 60 кіламетраў, дык роўнядзь палескага асушанага поля здаецца аднастайнай. Але варта толькі прыпыніцца, як адразу кінецца ў вочы хараство і прастор калгасных палёў. А калі падумаеш, што гэтае хараство створана чалавечымі рукамі, дык адчуваеш, якая гэта важная і патрэбная справа — асушка балот.

На Любаншчыне каналы пачалі капаць у 1927 годзе. І праз тры гады камунарамі ўжо было асушана 200 гектараў балот. «На асушанай зямлі, — расказвае нам намеснік старшыні калгаса імя БВА Змітро Еўдакімавіч Каленчанка, — пасеялі авёс. Вырас ён высокі, а колас пусты. Пачалі ўносіць у глебу калійныя солі, суперфасфат, калчаданавы агарак — па паўтоны ўгнаення на гектар. І збажына пачала расці не толькі высокая, але і ўмалотная.

Меліярацыя — справа працаёмкая. Але на першым часе яна вялася ўручную. Рыдлёўка ў руках — вось і ўся механізацыя. Потым на дапамогу прыйшлі машыны, і праца пайшла спарней.

За час вайны старая меліярацыйная сетка абмялела, разбурылася. Засталіся толькі магістральныя каналы. Давялося чысціць Арэсу машынамі. Цяпер справа пастаўлена на дзяржаўны лад. На балотах працуе сучасная меліярацыйная тэхніка — экскаватары, канавакапальнікі. Вядуцца вялікія дранажныя работы. Балотная вада сцякае ў раку не па вузенькіх канаўках, якія хутка заплы-



Я. Купала, С. Будзённы, А. Чарвякоў у прэзідыуме Рэспубліканскай нарады перадавікоў сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Мінск. 1936 г.

З фондаў музея Янкі Купалы.

ваюць тванню, а па керамічных трубах. Чалавек скарыў спрадвечную палескую багну, прымусіў яе служыць сабе».

Ад Камуны ў кірунку да Нежына мы не бачылі дробных населеных пунктаў, тут усе вёскі па некалькі дзесяткаў двароў, а ёсць і такія, дзе колькасць двароў вызначаецца і трохзначнай лічбай.

Шафёр у нас — як бы за экскурсавода. Ён расказвае, што гэтыя землі асушалі некалі камунары.

Саўгас Любанскі — вялікая гаспадарка. Дырэктарам тут працуе Эмануіл Натанавіч Модзін. Чалавек ён вядомы не толькі на Любаншчыне. Гэта ж пра яго пісаў некалі Янка Купала ў паэме «Над ракою Арэсай».

Дом у Модзіна — добры, пад бляхай, з цагляным падмуркам, пафарбаваным прыгожым ганкам, такімі ж вокнамі. У ім — усё аж блішчыць ад чысціні, хоць у пасёлку ад тарфянога пылу проста няма куды дзецца.

Нас сустрэла жанчына ў гадах. Яна запрасіла прайсці ў светлы пакой, застаўлены вазонамі. Па левы бок — шафа з кнігамі. У ёй — выключна падпісныя выданні: Бальзак, Дзікенс, Цвейг, Чэхаў, Галсуорсі, Фурманаў, Дзям'ян Бедны, Паўстоўскі і многа, многа іншых кніжак.

Тут жа энцыклапедыі — сельскагаспадарчая і дзіцячая, эканамічная і палітычная літаратура. Бачна, што ў гэтым доме жыве культурная сям'я.

Модзіна дома не было. Вера Мацвееўна, яго жонка, сказала, што ў гэты час яго можна заспець у канторы. Мы і паспяшаліся туды.

Эмануіл Натанавіч Модзін, каржакаваты мужчына сярэдняга росту, са стомленым тварам, ветліва запрасіў нас сесці за стол, бліжэй да яго. На плечы ў Эмануіла Натанавіча было накінута паліто, ён носіць галіфэ, ходзіць у ботах. У туфлях ды чаравіках не паходзіш па такім пяску ды тарфяніках. Ён уважліва слухаў апошнія паведамленні. Мусіць, у яго ўвайшло ў звычай: кожную раніцу слухаць радыё.

Гаворку пачалі здалёк. Мы дзівіліся роўняддзю тарфянікаў, якія бачылі, калі ехалі сюды. Модзін заўважыў, што асушка балот ідзе хутка, але асвойваюцца асушаныя землі марудна. Гэта не толькі ў саўгасе «Любанскі», але і на ўсёй Любаншчыне, ды, бадай, і скрозь па рэспубліцы. Нездарма і акадэмікі заняліся вывучэннем глебы палескіх асушаных балот.

Эмануіл Натанавіч паправіў пяцярнёю свае чорныя з рэдкай сівізною валасы і пільна паглядзеў на нас. Яго позірк гаварыў: «Ну, не цягніце, людзі добрыя, кажыце, што вам трэба». Мы зразумелі яго і сказалі, чаго прыехалі.

— Прыблізна за тыдзень да прыезду Янкі Купалы ў калгас імя БВА, — гаворыць Эмануіл Натанавіч, — мяне выклікалі ў ЦК партыі і сказалі, што да нас у калгас прыедуць беларускія пісьменнікі Янка Купала, Платон Галавач і Уладзімір Хадыка. Чаму яны выбралі іменна наш калгас? А таму, што гэта была ўзорная калектыўная гаспадарка. Можа таварышы напісаць што хочуць.

Модзіну не трэба было доўгіх тлумачэнняў, яму ўсё было зразумела і разам з тым прыемна. Назаўтра ж ён быў у Любані і сустрэў пісьменнікаў. Па дарозе яны добра перазнаёміліся, і ён даведаўся, што Галавач і Хадыка едуць на дзесяць дзён, а Купала застанецца на больш. Купала адразу папрасіў пасяліць яго ў якім ціхім кутку, каб ён мог гутарыць з людзьмі, працаваць і нікому не замінаць. Модзін гасцінна прапанаваў сваю кватэру, але Іван Дамінікавіч падзякаваў і сказаў, што няхай ён лепш возьме да сябе Галавача і Хадыку, дык у хаце заўсёды будзе весела і тлумна — ведама ж, маладыя людзі. А яму, Купалу, папрацаваць трэба.

Госці адпачнулі з дарогі, а ўвечары сабраліся ў Модзіна папіць чаю, пагутарыць, пазнаёміцца з людзьмі. Да Эмануіла Натанавіча любіў заходзіць мясцовы фельчар Захарык, чалавек гаманкі і вельмі цікаўны. Многія настаўнікі, якія прыходзілі да Веры Мацвееўны, упершыню пазнаёміліся тут з Купалам. Вясковай інтэлігенцыі, як і калгаснікам, вельмі было прыемна, што да іх у госці прыехалі пісьменнікі.

Янка Купала не любіў сядзець на месцы. Ён усюды хацеў бываць, усё пабачыць сваімі вачамі. Хоць ён быў і не малады, здаецца, гадоў за пяцьдзесят пераваліла, але энергіі ў яго было багата. Ён пабываў у вёсках Кузьмічы, Нежын, у пасёлку Опень і ў саўгасах «10 год БССР» і «Барыкавым» (цяпер ён завецца «Любанскі»). Гэта ўсё розныя канцы, і, каб аб'ехаць кожную гаспадарку, трэба было скалясіць дзесяткі кіламетраў. Івана Дамінікавіча гэта не палохала, а нават радавала.

Хто-ніхто з мясцовага начальства намякаў Модзіну, каб ён трохі «прыглядаў» за пісьменнікам, «накіроўваў» яго позірк. Але Эмануіл Натанавіч не захацеў умешвацца ў творчыя справы паэта.

Людзі адразу палюбілі Купалу. Яны ішлі да яго, як да старога знаёмага, ахвотна дзяліліся навінамі, расказвалі пра сваё жыццё.

Часта вечарамі збіраліся ў Модзіных на шклянку чаю. Гаворка ішла аб справах Камуны, дзелавая, гаспадарчая, як быццам Купала ўжо жыў тут не адзін год і ўсё добра ведае.

Як выглядала тады Камуна? Гэта быў востраў новага жыцця сярод палескай даўніны. У той час у Камуне ўжо былі пабудаваны школа, клуб, сталовая, яслі. Калгас быў электрыфікаваны і радыёфікаваны. І ў Любані таго яшчэ не было. Гэта была ўзорная гаспадарка з усіх пунктаў гледжання, і людзі імкнуліся добры ўзровень жыцця ў Камуне падтрымліваць увесь час. Купалу ўсё захапляла, і, як сапраўдны паэт, ён натхняўся грандыёзнымі справамі любанскіх камунараў.

Іван Дамінікавіч лічыў патрэбным удзельнічаць ва ўсіх калгасных мерапрыемствах. Асабліва яго цікавілі лепшыя брыгады Камуны. У той час у перадавыя выйшлі паляводы вёскі Ярэмічы. За добрую працу брыгадзе павінны былі на вечары ўручыць чырвоны сцяг. Разам з камунарамі на вечар прыехаў і Янка Купала. Прамоўца ён быў не вялікі і замест прамовы прачытаў свой верш. У васьмі вершаваных радках паэт вітаў пераможцаў у спаборніцтве і дзякаваў ім за добрую і сумленную працу. Да вайны верш гэты захоўваўся ў Модзіна, але потым недзе згубіўся.

Купала любіў калгасныя сходы і тыя, што адбываліся ў Камуне вясной 1933 года, ён бадай што наведваў усе.

Іван Дамінікавіч пражыў у калгасе імя БВА больш за месяц.

Эмануіл Натанавіч неяк у размове папытаўся, што ён паспеў зрабіць у іх і ці спадабалася яму тут. Купала адказаў, што каб можна было, дык пагасцяваў бы і болей. Але няма часу. Важна не разгубіць тыя цікавыя ўражанні, якія здабыты тут. Чарнавыя запісы зроблены, і над імі трэба працаваць.

Але што б ні гаварыў Купала, у Модзіна склалася ўражанне, што паэма была ў асноўным напісана тут, у Камуне. Гэтае меркаванне пацвердзілася тым, што пасля ад'езду Купалы ў газеце пачалі друкавацца адзін раздзел за другім. А паэт, мусіць, так быў натхнёны паездкай на Палессе, што паэма пісалася вельмі хутка.

Жонка Модзіна Вера Мацвееўна працавала настаўніцай. Яна ўспамінае, што Купала часта наведваўся ў школу. Прыйдзе ў настаўніцкую, распытвае ў настаўнікаў пра жыццё, пра школу. Часам пажартуе. Ён асабліва паважаў выкладчыцу літаратуры Марыю Ільінічну Левановіч. Жанчына гэта была разумная, адукаваная, яна не толькі гутарыла, але па некаторых пытаннях, бывала, і спрачалася з Іванам Дамінікавічам. За гэта, мусіць, ён яе і паважаў ды больш за ўсё з ёй і гутарыў.

Звычайна Купала прыходзіў у школу тады, калі ўжо канчаліся заняткі. Ён так быў асвоіўся з усімі настаўнікамі, што да настаўніц звяртаўся па-просту, задушэўна, як даўні знаёмы:

— Пайшлі, дзяўчаткі, у лес...

Ён вельмі любіў прыроду і цэлымі гадзінамі мог хадзіць па лесе, хмызняках, балотах і ніколі не стамляўся. Прырода акрыляла яго. Вочы яго запальваліся радасцю, ён увесь ажываў. Здавалася, ён вось-вось сам возьме рыдлёўку ці касу ды будзе памагаць чысціць канал ці абкошваць берагі, каб не зараслі травой.

Вера Мацвееўна гаворыць, што калгаснікі вельмі любілі Купалу за яго прастату і сардэчнасць. У калгасе ён пражыў больш за месяц, і яго тут усе лічылі сваім.

Неяк кухар Благянкоў даведаўся ад некага з жанчын, што Іван Дамінікавіч любіць бульбяныя аладкі — дранікі. Ён вырашыў дагадзіць госцю і згатаваў іх на абед. Купала са смакам еў аладкі, хваліў кухара і быў надзвычай задаволены. Благянкоў і ўсе на кухні таксам былі рады, што яны так дагадзілі добраму Купалу.

Запомнілася Веры Мацвееўне і апошняя сустрэча камунараўскіх настаўнікаў з Янкам Купалам. Ён развітваўся з імі, як бацька. Са старэйшымі абняўся і пацалаваўся. Малодшым сардэчна падаў руку, зазірнуў у вочы, прывеціў добрым словам, якое надоўга запала ў душу.

**Раман ТАРМОЛА**

# ЗНАЁМСТВА

Ваша песня знаёміла нас —
Сэрцы розныя,
розныя ўзросты.
Вы былі велічным
і простым,
Як песня Ваша якраз.
Помню,
голас Ваш вельмі ўразіў,
Як расказ вялі ўсхваляваны.
Для мяне даражэй стаў адразу
Кут мой родны,
праменны ранак.
Не раз бачыў начамі я
светлыя сны,
Мне Алеся махала крылом самалёта.
А потым —
З Вамі радасць адна,
з Вамі слёзы адны,
Сэрца хлопчыка з Вамі рабіла адны ўзлёты.
Гэта быў не палёт у космас:
На зямлі хапала тады
плям белых...
Косы,
сталёвыя косы
Гартавалі любоў да Радзімы
і смеласць.
Песняй вясну сустракае шпак.
Маё шчасце ад стрэчы з вамі
было больш вялікае.
Вось расказ аб тым,
пазнаёміўся з Вамі як,
Дарагі Іван Дамінікавіч.

# *Гары, камсамольскі аганёк!*

**Арсень ВАНІЦКІ,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

# ЭСТАФЕТА — У НАДЗЕЙНЫХ РУКАХ

З малых і вялікіх штодзённых спраў складваецца гісторыя ленінскага камсамола. Знамянальныя даты і падзеі, нібы вехі, вызначаюць яго пераможнае шэсце да камунізма. І ўсё ж якой бы вялікай ні была наша стваральная праца, ёсць падзеі, якія асвятляюць шляхі на дзесяцігоддзі ўперад.

Рашэнні XXII з'езда КПСС незвычайным зместам узбагацілі сённяшні дзень камсамола нашай краіны. Сабраўшыся сёлетняй вясной на свой вялікі форум, лепшыя сыны і дочкі камсамола выпрацавалі канкрэтную праграму работы моладзі па здзяйсненню велічных планаў будаўніцтва светлай будучыні. Праграма стваральнай працы, прынятая XXII з'ездам КПСС, адводзіць савецкай моладзі вядучае месца ў радах будаўнікоў новага грамадства. Вялікія словы партыі камуністаў: «Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме» — не толькі натхняюць, але і клічуць, абавязваюць.

«Нямала прайшло баявых гадоў, нямала працы, энергіі і таленту ўклалі людзі старэйшага пакалення, нямала яны пралілі поту ў працы і крыві ў змаганнях, каб мець права запісаць такія вялікія словы ў сваю Праграму», — гаварыў на з'ездзе камсамола М. С. Хрушчоў.

Наш народ — працаўнік, змагар — пад ленінскім сцягам, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі пабудаваў гранітны фундамент, на якім паверх за паверхам узнімаць маладым велічны гмах камунізма. Моладзі перададзена эстафета вялікіх спраў людзей старэйшага пакалення. У гэтых справах — крыніца нашага натхнення, той добры прыклад, якому мы будзем следаваць самааддана, з усім камсамольскім запалам.

Будучыня ў надзейных руках, — такая ўпэўненасць выражана ў прывітанні ЦК КПСС XIV з'езду камсамола. Аб гэтым сведчыць кожны дзень жыцця і працы нашай моладзі. Маладыя будаўнікі камунізма — нястомныя ў працы, мужныя ў пераадольванні цяжкасцей, адданыя вялікай справе партыі, справе камунізма.

У працы нараджаецца камунізм. Масавым сярод моладзі стаў сёння рух за максімальны асабісты ўклад у будаўніцтва камунізма. Каля 45 тысяч маладых рабочых рэспублікі летась датэрмінова выканалі свае планы павышэння прадукцыйнасці працы.



Камсамольцы, моладзь — нястомныя барацьбіты за новае жыццё. Узоры новых узаемаадносін паміж людзьмі складваюцца перш за ўсё ў брыгадах, дзе кожны рабочы вучыцца жыць і працаваць па-камуністычнаму. Калектывы камуністычнай працы — ударныя на вытворчасці, узорныя ў быту — паказваюць прыклад, як трэба змагацца за тэхнічны прагрэс, за высокую культуру.

На Гродзеншчыне добра ведаюць звяно камуністычнай працы з калгаса «Новае жыццё» Карэліцкага раёна. Члены звяна прымяняюць новую агратэхніку вырошчвання льну, яны любяць і шануюць зямлю, на якой працуюць. Таму не дзіва, што тут атрымліваюць па 8 цэнтнераў ільновалакна з гектара. Не толькі звеннявая Тамара Лейка — усе дзевяць дзяўчат звяна маюць закончаную сярэднюю адукацыю, займаюцца ва ўніверсітэце перадавога вопыту. Яны — прапагандысты, запявалы новага. Іх галасы гучаць у вядомым на ўсю рэспубліку калгасным хоры.

Каля 400 тысяч камсамольцаў і моладзі Беларусі ўключыліся ў спаборніцтва за камуністычную працу. Аб сваіх поспехах яны рапартавалі на другім рэспубліканскім злёце ўдарнікаў камуністычнай працы, які адбыўся ў канцы мая ў Мінску.

Сярод моладзі гарачую падтрымку знайшла ініцыятыва маскоўскіх камсамольцаў. Ударныя атрады — «Камсамольскія пражэктары» — актыўна ўключыліся ў работу на Мінскім аўтамабільным заводзе, станкабудаўнічым заводзе імя Кірава і іншых прадпрыемствах рэспублікі. Гэтыя атрады штодзённа адшукваюць усё новыя і новыя дадатковыя рэзервы вытворчасці. Промні камсамольскіх пражэктараў асвятляюць вучобу і побыт моладзі, яны зіхацяць у палацах і клубах, на вуліцах гарадоў і сёл, скрыжоўваюцца і прыпякаюць тых, хто знаходзіцца ў палоне старых перажыткаў і нораваў.

Цудоўнай рысай савецкай моладзі, выхаванай у камуністычным духу, з'яўляецца жаданне выконваць тую працу, якая найбольш неабходна савецкаму грамадству сёння. Каля 90 тысяч юнакоў і дзяўчат Беларусі паехала і з поспехам працуе ў Сібіры і на Далёкім Усходзе, на крайняй Поўначы і на цаліне.

Сотні маладых рабочых адгукнуліся на заклік партыі і пайшлі працаваць у сельскую гаспадарку. Сярод іх Генадзь Макавец з Мінска, Алег і Ніна Герасімавы з Віцебска, камсамольскія работнікі Рыгор Губкін, Леанід Станкевіч, Ала Куляшова і ўсе тыя, хто сустрэў сёлетнюю вясну на калгасных палях. Не дзеля асабістай выгады, а для таго, каб сёння зрабіць для Радзімы больш, чым зроблена ўчора, паехалі яны ў калгасы і саўгасы.

Нашы юнакі і дзяўчаты непрыкметна нараджаюць масавы гераізм. Каб адчуць яго, трэба ўбачыць шчаслівыя ўсмешкі на тварах тых, хто стаіць ля станка, ля чарцёжнай дошкі, ля даільнага апарата. Трэба ведаць сваіх равеснікаў Анатоля Шакунова, Мар'яна Васількевіча, Валянціну Рудак, Тамару Лейка і ўсіх тых, хто ўжо сёння адчувае ў фізічнай працы неабходнасць і духоўную асалоду. Гэта яны будуюць камунізм, а не тыя, каго асуджае грамадскасць, хто «прыпісаны» да рэстаранаў і бульвараў, хто ў гультайстве і разбэшчанасці знаходзіць сваю ўцеху. Пра гэтых падонкаў часу і размова ідзе толькі таму, што яны адрываюць моладзь ад працы, вучобы, здаровага адпачынку і прымушаюць аглядвацца назад тых, хто ўпэўнена крочыць наперад.

Незвычайная першая пасляз'ездаўская вясна гэтага года. Партыйная арганізацыя Беларусі даверыла камсамольскай арганізацыі ўзяць шэфства над вырошчваннем кукурузы і цукровых буракоў на ўсіх плошчах. Гэтае адказнае даручэнне патрабуе мабілізацыі ўсіх сіл і энергіі маладых земляробаў для барацьбы за ўраджай.

Першы этап гэтай барацьбы — падрыхтоўка да вясны і сяўба — даў некаторыя станоўчыя вынікі. Створана больш 7 тысяч камсамольска-маладзёжных звенняў. На палі вывезена 40 мільёнаў тон угнаенняў. Маладыя кукурузаводы і буракаводы вучыліся ў школах перадавога вопыту. Толькі ў знатнага буракавода, дэлегата XXII з'езда КПСС Вольгі Канстанцінаўны Мацюшка вучылася майстэрству 300 звеннявых.

Камсамольскае шэфства — гэта не толькі праца. Гэта — вялікая арганізацыйная работа. Гэта — камсамольскія атрады, створаныя моладдзю Глыбоцкага раёна, гэта — дазоры, якія ўзніклі на Гродзеншчыне, гэта — творчая дапамога працаўнікам сяла, аказаная камсамольцамі Мінска і іншых гарадоў, гэта — камсамольскія рэйды праверкі сяўбы і догляду пасеваў. Аднак не ўсюды так клапатліва і своечасова правялі сяўбу кукурузы, як гэта зрабілі члены маладзёжнага агрэгата Цярэнція Радчанкі ў калгасе імя Леніна Слаўгарадскага раёна, Мікалая Бруханскага ў калгасе «Гвардыя» Берастовіцкага раёна. Не ўсе аддалі столькі ўвагі на пасадцы буракоў, як пастараліся механізатар Уладзімір Асташонак са сваім напарнікам Генадзем Луцэвічам у калгасе імя Леніна Смалявіцкага раёна. Камсамольцам і моладзі патрэбна будзе прыкласці шмат намаганняў і ў час догляду пасеваў, і ў час уборкі ўраджаю, бо слова, дадзенае партыі, трэба стрымаць.

Усё больш моладзі ідзе працаваць у жывёлагадоўлю. За два гады на фермы па камсамольскіх пуцёўках прыйшло больш 40 тысяч камсамольцаў і моладзі. Сёлета на калгасных і саўгасных фермах працуе ў дзевяць разоў больш юнакоў і дзяўчат, чым у 1953 годзе. У сваёй, на першы погляд, самай празаічнай працы яны паказваюць сапраўднае майстэрства.

Чатыры гады назад прыйшла на ферму саўгаса «Гарадзец» Пліскага раёна Валянціна Рудак. Скончыўшы сярэднюю школу, яна працавала ў клубе, загадвала бібліятэкай. На ферме Валянціна спачатку даглядала маладняк, пасля ёй даручылі групу кормных свіней. Адзін год працуе камсамолка на ферме, а ўжо стала свінаркай-тысячніцай. Яна — вядомы ў рэспубліцы майстар сваёй справы. 1 200 свіней адкарміла Валянціна летась, паўтары тысячы абавязалася адкарміць сёлета.

Камуністычная праца такіх цудоўных людзей, як Валянціна Рудак, Аляксандр Даронька з Лоеўскага раёна, Марыя Каваленка з Буда-Кашалёўскага, Вольга Яфімава з Клічаўскага, Аляксандра Хіневіч і Валянціна Талочка з Мінскага, Людміла Глушко з Пружанскага і многіх іншых маладых жывёлаводаў, дазваляе спадзявацца, што сацыялістычныя абавязацельствы рэспубліканскай камсамольскай арганізацыі будуць выкананы паспяхова. Гэтым самым будзе выкананы адзін з галоўных абавязкаў, запісаны ў рэзалюцыі XIV з'езда ВЛКСМ:

«Важнейшая задача моладзі — дапамагчы калгасам і саўгасам у бліжэйшыя гады атрымаць мяса ў забойнай вазе — 75 цэнтнераў на 100 гектараў ворыва і 16 цэнтнераў на 100 гектараў іншых сельскагаспадарчых угоддзяў, значна павялічыць пагалоўе і прадуктыўнасць жывёлы, вырасціць не менш адной свінні на кожныя 1—2 гектары ворыва...»

Цэнтральнае месца ў рабоце XIV з'езда ВЛКСМ занялі пытанні выхавання чалавека камуністычнага грамадства. М. С. Хрушчоў гаварыў, звяртаючыся да дэлегатаў: «Актыўна ўдзельнічаючы ў будаўніцтве камунізма, камсамол заклікан дапамагаць партыі рыхтаваць пакаленне ўсебакова развітых людзей, якія будуць жыць, працаваць і кіраваць грамадскімі справамі пры камунізме, выхоўваць новага чалавека».

Пераважнай большасці нашай моладзі не ўласцівы перажыткі старога свету, яна валодае высокімі маральнымі якасцямі, гатова на самаахвяраванне ў імя вялікай мэты. Творчасць, ініцыятыва даўно сталі жыццёвым дэвізам савецкага маладога чалавека. Усё больш актыўна ажыццяўляе моладзь грамадскія формы кіравання, вядзе барацьбу за высокую культуру, узорны грамадскі парадак. Тысячы юнакоў і дзяўчат авалодваюць грамадскімі прафесіямі ў гуртках і школах, створаных па ўласнай ініцыятыве. Толькі ў Мінску працуе на грамадскіх асновах звыш 300 канструктарскіх бюро. На заводзе аўтаматычных ліній грамадскае канструктарскае бюро, якім кіруе інжынер Юры Граняк, за год спраектавала 14 прыстасаванняў, 45 штампаў, 16 інструментаў.

Але чым больш з'яўляецца ў жыцці людзей парасткаў новага, камуністычнага, тым выразней бачны маладыя людзі, якіх можна характарызаваць словамі: «дармаеды, прыстасаванцы», якія па-спажывецку адносяцца да камунізма, думаюць толькі пра свой уласны дабрабыт. А калі яны ёсць, значыць, не кожнаму чалавеку мы памаглі стаць такім, якім ён павінен быць, значыць, узровень выхаваўчай работы трэба ўзнімаць вышэй. Камсамольскія арганізацыі абавязаны настойліва змагацца за кожнага чалавека, памагчы яму знайсці сваё месца ў жыцці. Праца па камуністычнаму выхаванню моладзі з прымяненнем самых разнастайных метадаў і форм павінна садзейнічаць таму, каб прынцыпы маральнага кодэкса маладога будаўніка камунізма сталі нормай паводзін, звычкай кожнага юнака і дзяўчыны.

Велізарныя змены, што адбыліся за апошнія гады ў нашай краіне, бурнае развіццё навукі і тэхнікі, рост матэрыяльнага агульнаадукацыйнага і культурнага ўзроўню народа станоўча ўплываюць на рост свядомасці маладога пакалення. Цяпер, як ніколі, неабходна шукаць і ўдасканальваць формы і метады палітыка-выхаваўчай работы, каб сваім уплывам ахапіць кожнага маладога чалавека.

Растуць патрабаванні моладзі да тых, хто яе выхоўвае. Павышаецца адказнасць дзеячоў літаратуры і мастацтва, на чыіх творах моладзь вучыцца пазнаваць навакольны свет, глыбока любіць сваю Радзіму, свой народ, змагацца за пабудову камунізма і мір на зямлі. Моладзь чакае ад пісьменнікаў і дзеячоў мастацтва новых высокамастацкіх і высокаідэйных твораў аб сваім сучасніку — маладым будаўніку камунізма. Стварыць вобразы прадстаўнікоў сучаснай, самай перадавой у свеце савецкай моладзі — пачэсная і самая ўдзячная задача пісьменнікаў, дзеячоў мастацтва.

XIV з'езд ВЛКСМ прыняў разгорнутую праграму дзейнасці камсамола на бліжэйшы перыяд. Галоўныя задачы Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі ясна вызначаны ў Прывітанні ЦК КПСС з'езду камсамола і ў прамове М. С. Хрушчова.

Наперадзе шмат вялікіх і нялёгкіх задач, якія патрабуюць зладжанай работы камітэтаў камсамола, камсамольскіх кіраўнікоў і актывістаў, кожнага члена ВЛКСМ. Рашэнне гэтых задач патрабуе таксама паляпшэння арганізацыйнай работы ўсіх звенняў камсамола, далейшага арганізацыйна-палітычнага ўмацавання кожнай пярвічнай камсамольскай арганізацыі.

XXII з'езд вялікай партыі камуністаў натхніў увесь савецкі народ на пабудову самага светлага грамадства на зямлі — камунізма. Моладзь усёй душой успрыняла велічную Праграму КПСС і гатова аддаць свае сілы, энергію і веды для яе паспяховага ажыццяўлення.

**Мікола МАРУШКЕВІЧ**

# ЗАЎСЁДЫ Ў ДАРОЗЕ

## НА НОВАЙ ПАСАДЗЕ

Перагортваю спісаныя старонкі блакнота і ўсё мацней адчуваю, што зусім нялёгка расказаць пра камсорга міжраённага калгасна-саўгаснага ўпраўлення. Не таму, што мне выпаў нейкі надзвычай «цяжкі аб'ект». Не. І Ашмянскае ўпраўленне звычайнае, нічым асаблівым сярод іншых на Гродзеншчыне не вызначаецца. І сам камсорг абкома камсамола пры ўпраўленні — Мечыслаў Гіруць — таксама ніколечкі не загадкавы чалавек. Больш таго, хлопец ён

адкрыты, шчыры, можа быць толькі болей, чым некаторыя яго калегі, улюбёны ў сваю работу.

Цяжкасць у іншым. Міжраённыя ўпраўленні — зусім новая арганізацыя. У яе — новыя функцыі і роля, чым у тых сельскагаспадарчых органаў, што былі дагэтуль. Значыць, у камсоргаў і інструктараў, якія тут працуюць, павінны быць нейкія іншыя абавязкі, адметны ад ранейшага стыль работы.

У райкомах таксама ёсць сакратары, інструктары, цэлая армія актывістаў — і ўсе яны прызнаныя, аўтарытэтныя важакі моладзі. А дзе ж месца камсорга і інструктараў міжраённага ўпраўлення? Паставіць сябе над усімі? Не, гэтак нядоўга стаць камандзірам без войска. Памятаю, як пры сустрэчы Мечыслаў Гіруць, раздумваючы над сваёй новай пасадаю, так і гаварыў:

— Разам з райкомамі трэба агульную справу рабіць, а не проціпастаўляць сябе ім... Памыляюцца тыя, хто імкнецца з першых жа крокаў даваць райкомаўскім таварышам толькі ўказанні. Калі ў цябе больш вопыту больш умення, дык лепей падкажы і вазьміся разам з усім актывам за справу. Гэтага патрабуюць і агульныя інтарэсы, і тыя задачы, якія пастаўлены перад новым звяном камсамольскіх работнікаў. Нездарма ж і называюць нас так — камсорг, камсамольскі арганізатар.

Вельмі падобна было, што Мечыслаў размаўляў сам з сабою, а не з карэспандэнтам. Ён, здавалася, надзвычай прыдзірліва ўзважваў кожнае слова:

— Так, справа новая... Але ж разам з тым і знаёмая, вядомая. Кажуць, што тут цяжэй, адказнасці больш, бо райком мае справу з арганізацыямі аднаго раёна, а камсорг абкома разам з двума інструктарамі павінен ахопліваць сваім уплывам два раёны. Больш адказнасць, новыя цяжкасці...

Але ж усё новае з пэўнай цяжкасцю даецца. Адразу пасля вучобы ў школе служыў Мечыслаў на флоце. Потым, вярнуўшыся на родную Ашмяншчыну, зайшоў у райком партыі: ён быў ужо камуністам. Вось тут і здарылася тое, чаго марак ніяк не чакаў.

Мечыславу прапанавалі працаваць у райкоме партыі — прапагандыстам. Ні вопыту, ні якой-небудзь спецыяльнай падрыхтоўкі. І маладому камуністу прыйшлося авалодваць усімі тонкасцямі прапагандысцкай работы, як кажуць, на хаду. І вядома, не адразу прыйшло ўменне.

Не лягчэй было і тады, калі Мечыслава выбралі сакратаром райкома камсамола. Тут ён адчуў, што мала адных арганізатарскіх навыкаў. Каб плённа працаваць з моладдзю, патрэбны яшчэ і веды. І ён паступіў завочнікам у сельскагаспадарчую акадэмію на аддзяленне эканомікі і арганізацыі калгаснай вытворчасці...

Сёлета ў канцы красавіка Мечыслаў прыступіў да новай работы, стаў камсоргам тэрытарыяльнага ўпраўлення. Прыйшлося рабіць першы крок, знаходзіць сваё месца ў агульным змаганні за новы ўздым сельскай гаспадаркі.

## ТРЫ ДНІ Ў КЛЕВІЦЫ

Пабываць у калгасе імя Крупскай Мечыслаў збіраўся яшчэ будучы сакратаром райкома. Але ўсё ніяк не выпадала. Ці нарада якая-небудзь, ці розныя справаздачы. Тым часам справы ў камсамольскай арганізацыі калгаса ішлі ўсё горш і горш. Сакратар — Станіслаў Яжэвіч — перастаў нават членскія ўзносы збіраць. Ездзілі ў калгас райкомаўскія інструктары — маладыя, малавопытныя хлопцы, — і вярталіся ні з чым.

— Ды гэтага Станіслава толькі ўвечары, калі клуб адмыкае, і сустрэць можна, — разводзілі яны рукамі. — А так недзе прападае цэлымі днямі... Памыліліся, відаць, камсамольцы, калі выбіралі. І райком таксама, калі зацвярджаў.

Спрабаваў сакратар выклікаць Станіслава Яжэвіча ў райком, але той і да тэлефона сам не падыходзіў, і ў Ашмяны не паказваўся. Вось чаму сваю работу на новым месцы камсорг і пачаў з паездкі ў калгас імя Крупскай.



... Было каля адзінаццаці гадзін раніцы, калі Мечыслаў на спадарожных машынах дабраўся да Клевіцы. Дзень выдаўся пагодлівы. Таму ў калгаснай канцылярыі, акрамя бухгалтара і рахункаводаў, нікога не было. Усе ў полі. Не было дома і камсамольскага сакратара Станіслава Яжэвіча.

З поля, што пачыналася тут жа, ля вёскі, з-за ўзгорка даносіўся гул трактара. Туды і накіраваўся камсорг. Захацелася прайсціся па полі, паглядзець, як пад цёплымі праменнямі сонца дыміцца ўзараная зямля. Ды і цікава, што там робяць людзі.

Неспадзявана Мечыслаў сустрэў знаёмага трактарыста. Гэта быў Франц Жываткевіч, з якім Мечыславу даводзілася сустракацца і тут, у калгасе, і ў Ашмянах на сходзе актыву.

Франц таксама пазнаў Мечыслава, спыніў трактар. Прывіталіся.

— Пад што культывуеш? — спытаў Мечыслаў.

— Пад кукурузу, — адказаў Франц. — Буду сёлета сеяць і даглядаць аж восемдзесят гектараў!

Франц прагна прыпаў да біклажкі з вадой.

— Дык ты, можа, адпачні крыху, — прапанаваў Мечыслаў. — А я некалькі гонаў зраблю.

— Ой не, што вы...

Але Мечыслаў быў ужо за рулём. Франц прыладзіўся побач.

Прайшло, можа, з гадзіну, трактар рабіў гон за гонам, а Мечыслаў усё не выпускаў з рук руля. Перакідваўся словам-другім з трактарыстам і акуратна вёў агрэгат. Нарэшце Франц сказаў, што трэба заправіцца. У канцы поля, дзе ляжалі бочкі з гаручым, Мечыслаў спыніў машыну, заглушыў матор.

— А па якой справе да нас? — спытаў раптам трактарыст. — Вы ж, кажуць, ва ўпраўленне перайшлі.

— Так, перайшоў. Але ж я і цяпер з камсамолам справу маю.

— А-а, вось як, — прамовіў Франц. — Хочаце нас трохі разварушыць. Пара ўжо. Нешта наш камсорг ні аб чым не дбае. Тыдні тры таму назад нядзельнік наладзілі, каменне з поля збіралі. Усе камсамольцы прыйшлі, а сам сакратар дома адседзеўся... От вы б яшчэ ў свінарнік наш заглянулі...

Заводзячы матор, Франц спытаў:

— Пабачымся яшчэ?

— Абавязкова, — адказаў Мечыслаў.

Ён пастаяў крыху, паглядзеў, як Франц павёў трактар, і, выцерšы спацелы твар, падаўся назад у вёску...

Мечыславу шанцавала. Ён сустрэў і Станіслава Яжэвіча, і калгаснага заатэхніка, камсамолку Ніну Місюкевіч.

— Што, крытыкаваць будзеце? — чырванеючы, адразу ж загаварыў Станіслаў. — Крытыкуйце! Усё роўна нічога не выйдзе... Аб'явіш камсамольцам, каб на сход прыйшлі, дык нібыта ніхто і не чуў!

— Пачакай, пачакай, хлопец. Аб гэтым потым. Вось давайце лепей на свінаферму сходзім, — звяртаючыся да Станіслава і да Ніны, сказаў камсорг.

Тое, што ўбачыў Мечыслаў у свінарніках, уразіла яго больш за ўсё астатняе. Свінні па вушы ў гразі. Гной вывозіўся можа месяц таму назад.

Ніна Місюкевіч апраўдвалася, быццам не было ў яе часу заглянуць на свінаферму, у кароўніках трэба было парадак навесці. А свіней збіраліся гэтымі днямі ў лагер пераводзіць. Жанчыны і дзяўчаты, што працавалі тут, спачатку апускалі вочы перад дакорлівымі позіркамі Мечыслава, а потым загаварылі:

— Не толькі заатэхніка, а і загадчыка свінафермы амаль ніколі не бачым. Прасілі прыслаць падводы, каб гной вывезці, дык і тое не прыслалі... Добра, што яшчэ кармы падвозяць.

Калі ж разгаварыліся болей, то дзяўчаты яшчэ больш навалiліся на Станіслава Яжэвіча.

— А наш камсамольскі начальнік дык дагэтуль і дарогі на свінаферму не ведаў. Гэта ж падзея цэлая: Станіслаў да нас зайшоў! Глядзі, каб чаравікі свае не запэцкаў...

Увечары ў чырвоным кутку доўга гарэла святло. Мечыслаў гута-

рыў са свінаркамі. Запрасілі загадчыка фермы. Зайшоў і парторг калгаса Яўген Баляслававіч Філон. Размова была начыстату. Свінаркі расказвалі пра ўсё, што ім замінала ў рабоце. Выслухалі яны нямала папрокаў і ў свой адрас. А назаўтра са свінафермы цэлы дзень ішлі ў поле падводы з гноем. Вычысцілі свінарнікі, з венікамі па іх прайшліся.

Тым часам Мечыслаў наведаўся і на ферму буйнай рагатай жывёлы. Тут у яго была асабліва «далікатная» размова з Браніславай Клюковіч.

— А якую карысць мы бачым ад сваёй арганізацыі, — адрэзала Браніслава. — Гэта ў іншых калгасах, дык камсамольцы верхаводзяць, а ў нас і добрага слова ад нікога не пачуеш. Вунь Віктар Клімовіч і Соня Рачко, што ў нас тут працуюць, колькі ўжо збіраюцца ў камсамол уступіць, а не ведаюць нават, што для гэтага трэба...

Чым далей размаўляў з калгаснымі хлопцамі і дзяўчатамі Мечыслаў, тым больш выразна бачыў прычыну развалу камсамольскай работы ў Клевіцы. Калі выбіралі Станіслава Яжэвіча сакратаром, дык спадзяваліся, што, як загадчык клуба, ён мае больш вольнага часу і заўсёды будзе сярод моладзі. А выйшла наадварот. Станіслаў паспрабаваў камандаваць камсамольцамі — не выйшла, і ён усё больш і больш адрываўся ад моладзі, а потым і ўвогуле закінуў усе справы.

Мечыслаў вырашыў: трэба зрушыць з месца работу камсамольскай арганізацыі.

І вось — на трэці дзень увечары — камсамольскі сход. Камсамольцы прыйшлі ўсе, як адзін. Падрабязна апісваць, як ішоў сход, бадай, няма патрэбы. Мечыслаў расказаў аб рашэннях XIV з'езда ВЛКСМ, аб тых канкрэтных справах, за якія павінна ўзяцца камсамолія. Ён не дужа папракаў, што клевіцкія камсамольцы апусцілі рукі — няхай самі яны скажуць аб гэтым, няхай самі ж і вызначаць задачы на бліжэйшы час.

Разлік быў правільны. Выказваліся амаль што ўсе. І кожны гаварыў аб тым, што хоць і невялікая камсамольская арганізацыя, усяго шаснаццаць чалавек, але яна можа многа зрабіць і сваімі сіламі, і разам з усёй моладдзю. Трэба толькі, каб было каму задаваць тон. Дасталася на сходзе і Станіславу Яжэвічу.

Вось што Мечыслаў запісаў сабе ў блакнот:

«Франц Жыватkевіч. Спачатку наконт дысцыпліны. Не раскайваўся, а зусім сур'ёзна сказаў, што выпівак больш не будзе, бярэ «на буксір» Война Солдзеня. Прапанаваў зацвердзіць самых «моцных» камсамольцаў грамадскімі інспектарамі па кукурузе. Зацвердзілі: аграномa Таісу Казловіч, бухгалтара Война Нарбута і самога сакратара Станіслава Яжэвіча.

Раман Паўлоўскі (фельчар). Сярод камсамольцаў — некалькі чалавек мясцовай інтэлігенцыі. Пасіўнічае чамусьці настаўніца Марыя Марыняк. Часцей трэба бываць нам сярод моладзі, актыўна ўдзельнічаць ва ўсіх мерапрыемствах, якія праводзіць камсамольская арганізацыя. І яшчэ: кожны камсамолец можа, апроч сваёй асноўнай работы, вырасціць па дзесяць сотак цукровых буракоў, каб паказаць на справе, якія можна атрымаць ураджай. Прынята».

«Войцех Нарбут. Нам трэба больш клапаціцца пра жывёлагадоўлю. Давайце створым на фермах кантрольны камсамольскі пост». І зноў сход выказаўся «за...».

Запісаў многа. І пра тое, як прымалі ў камсамол маладых работнікаў фермы — Віктара Клімовіча і Соню Рачко, і пра ўсё, аб чым яшчэ дамовіліся на сходзе. Мечыслаў чуў, як Браніслава Клюковіч — тая самая даярка, на якую скардзіўся Станіслаў Яжэвіч — сказала дзяўчатам:

— Даўно б так!

І гэтыя словы доўга не выходзілі ў камсорга з галавы. Назаўтра раніцай ён ехаў у Ашмяны і ўсё думаў: сапраўды, даўно б так трэба было зрабіць.

Тое, што зроблена, добра. Але ці пойдзе ўсё на лад у клевіцкіх камсамольцаў? Ці не астынуць



яны пры першай няўдачы? І гэта можа здарыцца, пакуль Станіслаў Яжэвіч не зразумее як след свае памылкі. Тыдні праз два трэба накіраваць сюды інструктара з упраўлення — Віктара Клінцэвіча або папрасіць каго з райкомаўцаў пабываць у калгасе імя Крупскай. А там і самому зноў наведацца. Галоўнае, не супакойвацца.

## ЗНОЎ ДА ЛЮДЗЕЙ

Мала, зусім яшчэ мала працуе камсоргам абкома Мечыслаў Гіруць. Усё, што зрабіў, з кім сустракаўся, ён можа ўспомніць, не заглядваючы ў свой блакнот. У яго няма нават «рабочага» пакоя і стала.

— А можа гэта і добра, — жартуе Мечыслаў, — каб не заседжвацца ў кабінеце.

У гэтым жарце ёсць свая праўда. Для камсамольскага арганізатара ўся яго праца — у дарозе, на людзях. І сам Мечыслаў не можа пэўна сказаць — дзе ён будзе заўтра ці паслязаўтра.

У той жа дзень, калі Мечыслаў вярнуўся ў Ашмяны, яму пазваніў інструктар з Іўеўскага раёна — Пятро Багіна. Прасіў памагчы. Ёсць тут калгас «Авангард», дзе камсамольская арганізацыя цераз пень-калоду працуе.

«Якраз дарэчы, — падумаў Мечыслаў. — Трэба пазнаёміцца з Іўеўскім раёнам. Гэта ж цяпер зона Ашмянскага тэрытарыяльнага ўпраўлення».

Увечары Мечыслаў сустрэў парторга абкома — Якава Сяргеевіча Ціханенку, які на мінулым тыдні вярнуўся з Іўя. Расказаў яму аб сваёй паездцы ў Клевіцу і пачаў распытваць пра іўеўскія калгасы.

— Ты, відаць, у Іўя збіраешся? — спытаў парторг.

— Збіраюся. Думаю ў «Авангард» наведацца і пабыць некалькі дзён у раёне.

— Правільна. Трэба бліжэй пазнаёміцца з людзьмі, каб і яны цябе ведалі і ты іх. І вось яшчэ што: будзеш у Іўі, зазірні, калі ласка, і ў саўгас «Чарнелі». З сяўбой там не ладзіцца.

Назаўтра раніцою, захутваючыся ў плашч-дажджавік, Мечыслаў ехаў у кузаве спадарожнага грузавіка да іўеўскіх камсамольцаў...

Вярнуўся назад у Ашмяны толькі на шосты дзень апоўдні. Справы ў «Авангардзе» такія ж, як і ў калгасе імя Крупскай. Сакратар камітэта камсамола Ліда Груцаль засядзелася ў канцылярыі. Яна працуе бухгалтарам. Удалося разварушыць і сакратара, і камсамольцаў. А каб не даць цяпер загаснуць запаленаму агеньку, у «Авангардзе» яшчэ на некалькі дзён застаўся інструктар Пятро Багіна. Моладзь там цудоўная, і Пятро здружыўся з ёю. Значыць, справы пойдуць на лад. Адно толькі трывожыць Мечыслава: каб Ліда Груцаль зноў не апусціла рукі. Таму і стаіць у яго запісной кніжцы супраць «Авангарда» пытальнік. Гэта азначае, што камсорг неўзабаве пацікавіцца, як ідуць справы ў авангардаўскіх камсамольцаў, і, калі трэба будзе, прыйдзе ім на дапамогу.

У саўгасе «Чарнелі» Мечыслаў быў разам з сакратаром Іўеўскага райкома камсамола Віктарам Алейцановічам. Разабраліся, у чым была патрэба — памаглі.

У дарозе, заўсёды ў дарозе. І не толькі туды, адкуль ідуць трывожныя сігналы, ездзіць Мечыслаў. Вось, скажам, у саўгасе «Перамога» Ашмянскага раёна добра наладжаны адкорм свіней і моладзь на свінаферме працуе заўзята. Дык трэба пабываць там, каб потым можна было і іншым маладым жывёлаводам расказаць пра тое новае, што ёсць у гэтым саўгасе. А ў іншым месцы механізатары прыстасавалі машыны, якія ёсць у сельгасарцелі, для апрацоўкі пасеваў цукровых буракоў. Павінен жа і гэта ведаць камсорг, каб зноў-такі памагчы хутчэй пусціць навіну ў іншыя калгасы і саўгасы. Бо галоўная задача — каб сельская моладзь была на пярэднім краі ўдарнага фронта.

Вось чаму камсорга цікавіць усё: і як працуюць на кукурузных і бураковых плантацыях маладыя механізатары, і як даглядаюцца пасевы, і што робіцца на калгасных і саўгасных фермах. Вось чаму радуе яго, што Ашмянскае тэрытарыяльнае ўпраўленне ў рэс-

публіканскіх зводках па вытворчасці малака і мяса за апошні месяц узнялося на ступеньку вышэй. Ёсць тут заслуга і камсамольскіх арганізацый, за работу якіх ён адказвае перад самым строгім суддзёй — сумленнем камуніста...

Мы сядзім у пакоі, дзе нядаўна ішло пасяджэнне бюро райкома камсамола і пераемнік Мечыслава — Станіслаў Жамойда — уручаў вялікай групе юнакоў і дзяўчат камсамольскія білеты.

На дварэ дождж. Мечыслаў задуменна глядзіць праз акно, і на яго вуснах блукае ўсмешка. Пра што ён думае? Можа, зірнуўшы на сакратарскі стол, успомніў, як сам сядзеў на гэтым месцы... А можа яго думкі — пра сваё сённяшняе, яшчэ больш неспакойнае жыццё? Ці яшчэ вось пра што: от хоць і дождж на дварэ, непагадзь, а ўсё ж папрыязджалі на прыём у камсамол юнакі і дзяўчаты з самых далёкіх калгасаў. І Соня Рачко з Віктарам Клімовічам білеты сёння атрымалі...

А Мечыслаў раптам загаварыў зусім пра іншае, пачаў расказваць, як ездзіў нядаўна па раёне разам з парторгам абкома Якавам Сяргеевічам Ціханенкам.

— Цікавы чалавек, наш парторг. Вось у каго павучыцца трэба!

Яны з парторгам наведаліся ў калгас «Парыжская камуна». Адразу ў поле пайшлі — паглядзець, як сеюць. Доўга хадзілі па палях, да ўсяго прыглядаліся, а потым Якаў Сяргеевіч раіў калгаснаму аграному, маладой дзяўчыне Валі Пяшковай, як лепей даваць нарад брыгадзірам.

— Вы ім гаварыце не толькі тое, што брыгада павінна рабіць заўтра, а і колькі людзей на гэтую работу спатрэбіцца. А то ў вас на полі дзе лішак рабочых рук, а дзе не хапае.

І Валя ў той жа вечар зрабіла так, як раіў Якаў Сяргеевіч.

— Трэба ж умець вось так — заўважыць тое, чаго іншыя не заўважаюць, — гаворыць Мечыслаў.

Адчуваецца, ён шчыра зайздросціць парторгу, яго вопыту, уменню абыходзіцца з людзьмі, і цяпер будзе яшчэ больш патрабавальны да сябе, да кожнага свайго кроку. Здаецца, дробязная дэталь, але немалаважная: гэтак чалавек вучыцца падыходзіць да кожнай справы больш глыбока, бачыць у сваёй працы пэўную і выразную мэту.

Позна. На вуліцы даўно запаліліся электрычныя агні. І дождж перастае барабаніць па шыбах. Мы развіталіся. Мечыслаў заўтра раным-рана едзе зноў у калгасы, да людзей.

# ГОСЦІ СТАНОВЯЦЦА СЯБРАМІ

**Кубінскі народ пад кіраўніцтвам мужнага патрыёта Фідэля Кастра скінуў ярмо амерыканскага імперыялізму і здзейсніў рэвалюцыю, якая адкрыла кубінцам шлях для паляпшэння ўмоў жыцця, для шчасця і працвітання. А каб гэты шлях быў карацейшы, трэба вучыцца разумна весці народную гаспадарку, патрэбны спецыялісты. Братнюю руку дапамогі падаў рэвалюцыйнай Кубе Савецкі Саюз, запрасіўшы да сябе вялікую групу моладзі.**

**Ужо надыходзіла зіма, калі ў Мінск прыбылі юнакі і дзяўчаты з сонечнай Гаваны, каб навучыцца рускай мове, а потым прадаўжаць вучобу па той спецыяльнасці, якая кожнаму па душы і якая вельмі патрэбна іх радзіме. Кубінцы паступілі на падрыхтоўчы факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Студэнты прынялі іх, як самых блізкіх гасцей. Закончыўся першы навучальны год, і госці сталі самымі дарагімі сябрамі. Зрэшты, аб гэтым яны раскажуць на старонках нашага часопіса самі...**

## РАЗАМ З САВЕЦКІМІ СТУДЭНТАМІ



Больш за паўгода, як мы сярод савецкіх сяброў. І кожны дзень мы адчуваем праяўленне дружбы, якая, даўно завязалася паміж народамі Кубы і Савецкага Саюза. Нас скрозь сустракаюць вельмі цёпла і скандыруюць усім знаёмыя і родныя словы: «Віва, Куба!»

Мы часта сустракаемся з піянерамі і камсамольцамі ў школах, на заводах, у рабочых клубах і палацах культуры. Савецкая моладзь вельмі цікавіцца жыццём кубінскага народа. Мы ўпершыню ўбачылі такую казачную снежную зіму. Мы ездзілі за горад катацца на лыжах — гэта быў для нас зусім новы занятак. Нашы савецкія сябры навучылі нас хадзіць на лыжах, хоць было вельмі цяжка і мы шмат разоў падалі ў снег.

На падрыхтоўчым факультэце ў нас створаны каманды па валейболу і баскетболу, і мы сустракаемся ў спаборніцтвах з камандамі іншых факультэтаў універсітэта.

Мы арганізавалі свой факультэцкі хор, спяваем савецкія і кубінскія песні.

Не так даўно разам з усім універсітэтам мы выйшлі на суботнік, каб прывесці ў парадак універсітэцкі сквер. Гэта быў наш сціплы ўклад у добраўпарадкаванне горада, які так цёпла нас сустрэў.

У вучобе і сумеснай працы наша дружба ўсё мацнее і мацнее. Палымянае прывітанне савецкай моладзі і пажаданне найлепшых поспехаў у пабудове камунізма ад усіх нас — кубінцаў.

**Эстэбан Альфонса ОЛЬМА,**
**прэзідэнт зямляцтва кубінскіх студэнтаў у Мінску.**

## Я СТАНУ ІНЖЫНЕРАМ



Хачу стаць інжынерам, таму што на нашай радзіме будуецца сацыялізм. Я прыехаў у СССР дзеля таго, каб атрымаць веды. Я хачу хутчэй закончыць вучобу і вярнуцца на радзіму, каб унесці свой уклад у пабудову новага жыцця. Вярнуўшыся, буду зноў працаваць са старымі таварышамі, з якімі доўгі час цярпеў голад і эксплуатацыю ў часе панавання капіталізма. Уладзімір Ільіч Ленін гаварыў, што дзеля таго, каб пабудаваць сацыялізм, трэба ствараць новыя кадры з народа, з рабочага класа. Я думаю, што не пройдзе шмат часу, і я атрымаю тэхнічныя веды, якія так патрэбны Кубе.

**Эктар Кастэльянас**
**МУСТЭЛІЕР.**

## НАС ЦЁПЛА ПРЫМАЮЦЬ

Куба — гэта маладая сацыялістычная краіна, якая павінна пакласці шмат сіл для таго, каб развіць сваю цяжкую прамысловасць. Дзеля гэтага патрэбна шмат інжынераў, тэхнікаў, якія б не толькі добра ведалі сваю спецыяльнасць, але і былі добра падрыхтаваны палітычна, каб свядома выкарыстоўваць свае веды для пабудовы новага грамадства ў нашай краіне.

Куба цяпер з'яўляецца прыкладам для народаў Лацінскай Амерыкі. Позіркі народаў Амерыкі накіраваны на развіццё новага жыцця на Кубе. Кубінская моладзь, якая вучыцца ў СССР і ў краінах сацыялізма, — гэта выбраныя з авангарда рэвалюцыйнай моладзі. Але цяпер карыстацца такім выразам будзе няправільна, таму што ўся моладзь Кубы з'яўляецца авангардам нашай рэвалюцыі. Усе поўны рашучасці аддаць жыццё за сваю Радзіму.

Цяпер мы на падрыхтоўчым факультэце Беларускага ўніверсітэта імя У. І. Леніна вывучаем рускую мову, гісторыю СССР, вывучаем такія прадметы, як матэматыка, фізіка, хімія і інш. Усе ўрокі вядуцца на рускай мове, і мы ўжо ўсё добра разумеем. Многія будуць працягваць сваю вучобу ва ўніверсітэце, я і іншыя таварышы будзем





вучыцца ў політэхнічным інстытуце. Мы хочам добра вывучыць тэхніку, але жадаем атрымаць і веды марксізма-ленінізма. Нармальны тэрмін вучобы ў СССР — пяць гадоў, але мы ведаем, што наша краіна мае патрэбу ў спецыялістах, і мы прыкладзем усе намаганні для таго, каб скараціць гэты тэрмін. Маё імкненне — як мага лепш вучыцца на падрыхтоўчым факультэце, каб лягчэй было вучыцца ў інстытуце і хутчэй скончыць яго. На Кубе будзе развівацца цяжкая індустрыя, і мы павінны памагчы ў гэтым сваёй Радзіме.

Нам вельмі падабаецца горад Мінск, вельмі добры і народ. У кожным мінчаніну мы бачым свайго сябра. Усе студэнты, якія займаюцца ў Савецкім Саюзе, адчуваюць двайную радасць, таму што мы знаходзімся ў краіне, якая першая праклала шлях да сацыялізма, і, акрамя таго, мы — сярод гераічнага савецкага народа. Мы прыехалі зімой, было вельмі холадна, але мы ўсюды адчувалі цеплыню, з якой нас сустракаў народ. Цяпер можам сказаць, што мы таксама гераічна перанеслі першую марозную зіму ў нашым жыцці.

Мы заўважылі, што савецкія людзі вельмі любяць вучыцца. Нашы савецкія сябры-студэнты вельмі добра займаюцца. У часе нашых экскурсій на заводы і фабрыкі мы ўбачылі добрую арганізацыю, парадак і дысцыпліну ў цэхах. Нас заўсёды цікавіць арганізацыя працы на савецкіх прадпрыемствах, таму што гэтага мы павінны будзем дабівацца і на нашай Радзіме. Мы рады, што знаходзімся ў Савецкім Саюзе ў той час, калі ваш народ выконвае праграму XXII з'езда КПСС, будуе камунізм.

**Марыо Брысталь ТОМАС.**

## ТАКОЙ УВАГІ НЕ ЗАБУДУ



Пры вывучэнні любой замежнай мовы сустракаецца вельмі шмат цяжкасцей, таму што чалавек прывык да пэўнага вымаўлення і вельмі цяжка яму прыстасавацца да новага. Вывучаючы рускую мову, я сустрэў шмат цяжкасцей. Вось, напрыклад, з літарай «Л». Гэтая літара ў рускай мове бывае мяккая і цвёрдая, а ў іспанскай яна нібы сярэдняя. Вельмі цяжка адрозніць «И» ад «Й». Сустрэліся новыя невядомыя гукі — шыпячыя «Ц, Щ, Ш», якіх у іспанскай мове няма. Іх вельмі цяжка вымаўляць.

Мне гаварылі, што паэт Маякоўскі неяк сказаў, што рускую мову ён вывучыў бы толькі за тое, што на ёй размаўляў Ленін. Гэта цудоўна сказана. Я з энтузіязмам вучу рускую мову, як бы гэта ні было цяжка, таму што гэта — мова Леніна.

Калі мы ехалі з Гаваны ў СССР, мы ведалі, што нас добра сустрэнуць. Тут мы ўбачылі, што да нас адносяцца, як да братоў. І мы адчуваем сябе як на радзіме. Нашы выкладчыкі вельмі клапатліва імкнуцца, каб мы хутка авалодалі рускай мовай. Дзеля гэтага яны не шкадуюць сваіх сіл не толькі на ўроках, але і ў вольны час, на кансультацыях. Калі ў пачатку вучобы я захварэў і два тыдні быў у бальніцы, настаўніца наведвала мяне і займалася са мною. Пасля таго, як я выпісаўся з бальніцы, яна аддавала мне шмат вольнага часу для таго, каб я не адстаў ад таварышаў. Я такой увагі ніколі не забуду.

Усюды, дзе б мы ні былі, нас вельмі добра сустракаюць, размаўляюць цёпла, заўсёды з усмешкай.

У часе панавання тырана Батысты ў нас на радзіме маглі вучыцца толькі дзеці прывілеяваных саслоўяў. Пасля перамогі Кубінскай рэвалюцыі многа старых спецыялістаў прадалося амерыканскаму долару, паехала ў Злучаныя Штаты. Тады наш урад заклікаў моладзь вучыцца. У ліку тых, хто адгукнуўся на гэты заклік, быў і я.

Патрыя о муэртэ! Венсерэмас!

Радзіма або смерць! Мы пераможам!

**Хуан дэль Піно СУАРЭС.**

Я знаходжуся далёка ад маіх бацькоў, ад сяброваК і сяброў, далёка ад цябе, але тут у СССР я знайшла сяброваК, якія стараюцца, каб я адчувала сябе, як дома. Мы адчуваем сябе сябрамі не толькі таму, што жывём і займаемся разам, але і таму, што мы змагаемся пад адным сцягам марксізма-ленінізма, пад якім савецкі народ дамогся вялікіх поспехаў. Гэты цудоўны народ добра прыняў нас і памагае нашай Радзіме. Ты на Кубе, а я тут у СССР разам са сваімі савецкімі сёстрамі павінны працаваць для таго, каб памагчы нашай Радзіме і ўсім народам свету.

**Элена Ібарра МОРЛА.**

## ЯК Я ЖЫВУ Ў МІНСКУ

**Пісьмо ў Гавану**



Дарагая сяброўка! Карыстаючыся тым, што ў мяне ёсць крыху вольнага часу, я хачу напісаць табе і расказаць, як я жыву ў Савецкім Саюзе, расказаць пра маіх сяброваК па пакоі, з якімі я разам жыву, пра нашы характары, пра агульныя інтарэсы. Першае, што я магу сказаць табе. Калі я прыехала ў Мінск, мяне пасялілі ў інтэрнаце ў пакоі з дзвюма савецкімі студэнткамі. Я адчуваю сябе тут, як дома.

У сумныя і радасныя хвіліны я заўсёды маю падтрымку маіх сяброваК, яны адносяцца да мяне, як сёстры. Я пачала расказваць табе пра іх, але не назвала іх імёнаў. Іх завуць Ларыса і Света. Ларыса, высокая дзяўчына, з зеленаватымі вачамі, яна займаецца на гістарычным факультэце і праз год скончыць універсітэт. Яна вельмі любіць гуляць у валейбол. Света, дзяўчына крыху вышэйшая за мяне, сярэдняга росту. Яна займаецца на матэматычным факультэце, на III курсе. Яна ўдзельнічае ў мастацкай самадзейнасці — у танцавальным гуртку, які працуе пры ўніверсітэце.

Абедзве яны добрыя студэнткі, вельмі вясёлыя, любяць хадзіць у кіно. Ты ведаеш, што кіно мне таксама падабаецца, але я тут яшчэ не магла часта хадзіць, таму што не ведала добра рускую мову. За апошні час я ўжо была некалькі разоў у кіно. Цяпер я ўжо добра разумею рускую мову, але размаўляць яшчэ цяжка. Гаворачы пра сяброваК, я хачу сказаць табе, што яны вельмі памаглі мне ў авалоданні рускай мовай, а таксама матэматыкай і фізікай. Ёсць адна рэч, якая нам траім вельмі падабаецца, — музыка, асабліва Бетховен і Рахманінаў. І заўсёды ў вольны час мы слухаем пласцінкі класічнай музыкі.

## НЕ ТРАЦІЦЬ НІ ХВІЛІНЫ

Калі я ўспамінаю свой дом, бацькоў і сяброў, мне заўсёды становіцца сумна. Вельмі многа пяшчоты, клапатлівых таварышаў пакінуў я на Кубе, і хоць вучоба і забавы займаюць увесь мой час, ёсць моманты, калі ўсе мае думкі ляцяць да далёкай дарагой радзімы. Але не трэба аддаваць шмат часу гэтым думкам — яны могуць сапсаваць добры настрой. Гэтыя сумныя ўспаміны рассейваюцца адразу, калі я думаю пра тое, што мы не павінны марнаваць ні адной хвіліны, а выкарыстоўваць увесь свой час на вучобу. Страта нават адной хвіліны азначае, што мы трацім дарагі час, патрэбны маёй радзіме, каб ажыццявіць вялікую мару — пабудаваць сацыялізм. Гэтая мара і для Кубы хутка стане явай.

**Уго Марцінес ВАЛЬДЭС.**



Фота **А. Дзітлава.**

*Навука і культура*

# З ЧОРНАГА МОРА Ў БАЛТЫЙСКАЕ

**Адзіная глыбакаводная сістэма злучыць асноўныя ўнутраныя водныя шляхі Еўрапейскай часткі СССР.**

З Праграмы КПСС.

У наш праектны інстытут прыходзяць шматлікія пісьмы ад маладых патрыётаў. Экскаватаршчыкі з Ташкенцкай вобласці, з Галоднага стэпу выказваюць жаданне ўдзельнічаць у будаўніцтве канала, які злучыць Чорнае мора з Балтыйскім і стане новым магутным глыбакаводным шляхам.

У Магілёўскім архіве камсамольцы знайшлі праект паглыблення ракі Прыпяці, складзены яшчэ ў 1842 годзе, і перадалі яго нам, мяркуючы, што гэтыя матэрыялы можна выкарыстаць. Пытаюцца ў нас і пра тое, на якім участку канала пачаты ўжо работы.

Нас вельмі радуе тая шчырая зацікаўленасць новым з боку моладзі, якая спяшаецца на дапамогу Радзіме, і мы пастараемся расказаць пра той пакуль яшчэ праект, над якім працуюць геолагі, гідролагі, будаўнікі, энергетыкі.

Ужо цяпер, пасля ўводу ў дзеянне Крамянчугскай гідраэлектрастанцыі, на ніжнім Дняпры могуць хадзіць вялікія пасажырскія і грузавыя судны. У бліжэйшыя гады, калі ўвойдуць у строй Кіеўская, Канеўская і Днепрадзяржынская гідраэлектрастанцыі, суднаходным стане ўчастак у 1100 кіламетраў шляху ад Херсона да вусця ракі Прыпяці. Уся ж магістраль з Чорнага ў Балтыйскае мора складзе 2 400 кіламетраў. Каб увесці яе ў дзеянне, трэба яшчэ выпрастаць і паглыбіць рэкі Прыпяць і Ясельду, пабудаваць злучальны канал паміж Ясельдай і Шчарай, якая ўпадае ў Нёман. Адначасова распачнуцца работы па будаўніцтву на Нёмане Савецкай, Бірштоніскай, Друскеніцкай, Гродзенскай і, магчыма, Мастоўскай электрастанцый. Ужо адзін гэты пералік збудаванняў гаворыць аб тым, што Дняпроўска-Нёманскі водны шлях па аб'ёму работ значна перавысіць і Беламорска-Балтыйскі, і Волга-Данскі.

Бясспрэчна, што намечаная водная магістраль будзе пракладзена. Наша задача — распрацаваць праекты так, каб кошт будаўніцтва быў найменшы, а народнагаспадарчы эфект — найбольшы. Гэтым займаюцца цяпер некалькі праектных інстытутаў у Маскве, Мінску, Кіеве і Рызе.






**Прыкладная схема глыбакаводнага шляху з Чорнага мора ў Балтыйскае.**

## КОРАТКА ПРА ВОДНЫ ТРАНСПАРТ

Могуць спытаць, ці варта ствараць воднатранспартны шлях у раёне, дзе ёсць дастаткова разгалінаваная чыгуначная сетка. Перавозкі ж па вадзе — нерэгулярныя, зімовы перапынак навігацыі ў нашых умовах цягнецца чатыры-пяць месяцаў. Акрамя таго, хуткасць руху суднаў і барж у некалькі разоў меншая за хуткасць цягнікоў.

І тым не менш, водны транспарт мае вялікія перавагі, з якіх галоўная — падзешаўленне перавозак. Таму чыгунка зусім не перашкаджае развіццю водных шляхоў. Вось канкрэтны прыклад. Дняпро-Бугскі суднаходны канал паміж Пінскам і Брэстам быў збудаваны яшчэ ў XVIII стагоддзі. Уздоўж канала пабудавана чыгунка, але грузаперавозкі па каналу не толькі не скарачаюцца, а наадварот, узрастаюць з кожным годам. Між тым, памеры гэтага канала дазваляюць выкарыстоўваць баржы грузападымальнасцю ўсяго ў шэсцьсот тон.

Тое ж можна сказаць і пра Бельгію, дзе чыгуначная сетка такая густая, што адлегласць ад любога пасёлка да лініі чыгункі не перавышае 3—4 кіламетраў. Ад-

нак па ўнутраных водных шляхах у Бельгіі перавозіцца грузаў амаль столькі ж, колькі і па чыгунцы. Праўда, зімовы перапынак у навігацыі тут кароткі. Але можна назваць водны шлях па граніцы паміж ЗША і Канадай, які замярзае на 100—135 дзён. На асобных участках гэтай глыбакаводнай шлюзаванай магістралі, напрыклад у раёне Вялікіх Азёр, грузаабарот яшчэ ў 1952 годзе перавысіў 100 мільёнаў тон. Цяпер завяршаюцца работы, каб забяспечыць праход марскіх суднаў грузападымальнасцю ў 6—8 тысяч тон на ўсім яго працягу — 3 380 кіламетраў.

Значэнне ўнутраных водных шляхоў — велізарнае. Тым больш, што новыя тыпы і віды суднаў, як, напрыклад, судны на падводных крылах, дазваляюць значна павялічваць хуткасць перавозак, а судны на паветраных падушках могуць рухацца з хуткасцю да ста кіламетраў у гадзіну і нават над замёрзлым каналам. Разам з тым варта адзначыць, што кошт будаўніцтва суднаходнага канала звычайна значна вышэйшы, чым чыгункі. Таму неабходна, каб гэтая вада, якая запаўняе каналы, выкарыстоўвалася не толькі для транспарту, але і ў іншых галінах народнай гаспадаркі. Водныя рэсурсы суднаходных рэк і каналаў могуць быць выкарыстаны для водазабеспячэння, арашэння і абвадnення, выпрацоўкі электрычнай энергіі, а самі каналы, калі да іх прылягаюць забалочаныя мясціны — і для асушэння зямель. У гэтым напрамку і распрацоўваецца зараз праект новага Дняпроўска-Балтыйскага воднага шляху.

## КРЫХУ ГІСТОРЫІ

Гістарычны агляд развіцця ўнутраных водных шляхоў у СССР звычайна пачынаюць з упамінання аб шляху «з варагаў у грэкі», які існаваў у IX—X стагоддзях. Ён злучаў Балтыйскае і Чорнае моры праз Няву—Ладажскае возера—Волхаў—возера Ільмень—Ловаць—Лужаснянку—Заходнюю Дзвіну—Лучэсу—Аршыцу—Дняпро. Аднак гэта не зусім дакладна. Суцэльнага воднага шляху тады не было, і водападзелы пераадольваліся па сушы волакам. Толькі пасля збудавання Дняпро-Бугскага канала стаў магчымы рух суднаў па трасе Дняпро—Прыпяць—Піна—Дняпро-Бугскі канал—Мухавец—Заходні Буг—Нарэў—Вісла—Балтыйскае мора.

У пачатку мінулага стагоддзя было адкрыта суднаходства па Агінскаму каналу, які злучаў Прыпяць і Ясельду са Шчарай, а далей па Нёману—Аўгустоўскаму каналу—Бабру—Нарэву і Вісле з Балтыйскім морам. Потым быў створаны яшчэ адзін шлях: Дняпро—Беразіна—Сергуцкі і Бярэзінскі каналы—Ула—Заходняя Дзвіна—Балтыйскае мора. І па Агінскім і па Бярэзінскім водных шляхах маглі хадзіць статонныя баржы. Цяпер гэтыя шляхі не эксплуатуюцца, і аднаўляць іх нямэтазгодна.

З 1952 года, пасля ўступлення ў строй Волга-Данскога канала, стаў магчымы скразны рух суднаў з Чорнага мора па Волга-Балтыйскаму воднаму шляху, рэканструкцыя якога па Мар'інскаму злучэнню заканчваецца. Найкарацейшую адлегласць па суднаходных трасах ад Чорнага да Балтыйскага мора мае Дняпро-Нёманскае злучэнне: яно амаль у тры разы карацейшае, чым марскі шлях вакол Еўропы, і амаль у два разы — чым шлях цераз Дон — Волгу — Няву.

Грузаабарот па Дняпро-Нёманскім водным шляху будзе дасягаць, прыкладна, 10—15 мільёнаў тон у год, і эканомія на перавозках па ім, нават у параўнанні з Волга-Балтыйскім варыянтам, складзе даволі вялікую лічбу, прыкладна 20 мільярдаў тона-кіламетраў. Гэтая лічба адпавядае, прыкладна, чвэрці сёлетняй гадавой работы ўсяго рачнога флоту краіны.

## ДЗЕ ПРОЙДЗЕ ДНЯПРО-НЁМАНСКІ КАНАЛ?

Мы гаварылі ўжо, што на Дняпры глыбакаводны шлях будзе забяспечаны каскадам буйных вадасховішчаў пры гідраэлектрастанцыях. Ад Дняпра, а больш дакладна, ад вадасховішча Кіеўскай ГЭС, наш шлях пойдзе па Прыпяці. Гэтая завілістая рака, паўнаводная вясною, улетку так мялее, што нават невялікія цеплаходы і баржы ледзь пераадольваюць шматлікія перакаты. Кожную вясну ў нізінную даліну Прыпяці прыбывае велізарная маса вады, якая затапляе каля 1,5 мільёнаў гектараў зямельных угоддзяў на 2—3 месяцы, а то і больш.

На самой Прыпяці нельга ствараць вадасховішчы, як гэта робіцца на Дняпры, — дзеля гэтага трэба было б затапіць велізарныя тэрыторыі Палескай нізіны. Таму тут прынята рашэнне — рэгуляваць рэчышча.

Ад вусця Прыпяці да Пінска судны ходзяць па ўсіх завілінах ракі і таму павінны праходзіць адлегласць у 525 кіламетраў. Гэтая адлегласць скароціцца амаль на 150 кіламетраў: паміж вялікіх завілін будуць зроблены прорэзі напрасткі. Рэчышча будзе такое, што па ім пойдуць вялікагрузныя судны. Усё гэта дасць магчымасць з высокай эфектыўнасцю выкарыстаць балоты і малапрадукцыйныя цяпер сенажаці і пашы на плошчы, прыкладна, 1,5 мільёна гектараў.

Праектная траса Прыпяці з каналамі ў асноўным ужо ўзгоднена, але трэба яшчэ выбраць найбольш эканамічную і ўстойлівую форму рэчышча. Распрацоўваюцца варыянты пабудовы канала толькі ў выемцы. У дамбах ён будзе пракладзены так, каб вада ў ім была вышэй за паверхню поймы. У гэтым выпадку асушэнне балот, што прылягаюць да канала, будзе праводзіцца праз перапампоўванне вады ў канал.

Вось так уяўляецца пакуль што будучая глыбакаводная магістраль з Чорнага ў Балтыйскае мора.

## КІРАВАННЕ ПАВОДКАМІ

Кожную вясну Прыпяць выходзіць з берагоў, і даліна яе на 90—100 і больш дзён заліваецца вадою. А ці нельга затрымліваць веснавыя воды прытокаў Прыпяці, а потым выкарыстоўваць іх для патрэб народнай гаспадаркі. Ва ўмовах Палесся вадасховішчы атрымліваюцца мелкаводныя, а плошча пад імі занята вельмі вялікая. Вось чаму варта ствараць на вялікіх плошчах малапрадуктыўных угоддзяў у сажалках рыбаводныя гаспадаркі. Арыенціровачныя падлікі паказалі, што ў межах беларускай часткі Палескай нізіны ёсць умовы, каб стварыць такія рыбаводныя гаспадаркі на плошчы, прыкладна, 20 тысяч гектараў і выкарыстаць пры гэтым каля аднаго мільярда кубічных метраў веснавых вод. Задача ж заключаецца ў тым, каб затрымаць у вадасховішчах і сажалкавых гаспадарках хоць бы палавіну ўсяго веснавога сцёку. Гэта дасць магчымасць утаймаваць паводкі на Прыпяці.

Кіраванне паводкамі дазволіць значна паменшыць праектныя памеры каналізаванай Прыпяці, а таму і знізіць кошт будаўніцтва. Значна дзешавейшымі і прасцейшымі будуць работы па асушэнню зямель.

## БУДУЧЫНЯ ДНЯПРО-БУГСКАГА КАНАЛА

Цяпер па гэтым канале перавозяць грузы шасцісоттонныя баржы... Шлях гэты заканчваецца ў Брэсце, бо Заходні Буг пакуль недастаткова глыбокі для суднаходства. Але перспектыўны план развіцця народнай гаспадаркі Польскай Народнай Рэспублікі намеціў стварэнне пасля пабудовы суднаходнага канала Жэгр—Жарань 600-тоннага воднатранспартнага шляху па Бугу з выхадам у Варшаву і па Вісле — у Балтыйскае мора. Ужо сёлета закончыцца збудаванне вялікага гідратэхнічнага вузла на Бугу ля вёскі Дэнб. Таму мяркуецца, што ўжо ў бліжэйшыя гады не трэба будзе перавальваць грузы ў Брэсце з «вады на рэйкі».

Схема выкарыстання водных рэсурсаў Польскай Народнай Рэспублікі прадугледжвае стварэнне магістральнага воднага шляху

«Усход — Захад». Гэта будзе праця́г Дняпро-Бугскага шляху цераз Буг — Віслу — Быдгошчскі канал — Ноцець — Одэр — Пасярэдні канал у Расток — порт ГДР на Балтыйскім моры. Такі шлях можа быць створаны пры ўдзеле ў яго будаўніцтве трох дзяржаў — СССР, Польшчы і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Не трэба думаць, аднак, што пасля пабудовы Дняпроўска-Нёманскага канала скароціцца грузапаток па заходнім напрамку. Наадварот, глыбакаводная магістраль па Прыпяці выкліча рэканструкцыю Дняпро-Бугскага канала, над чым ужо працуе адзін з праектных інстытутаў Украіны.

Пройдзе некалькі год, геадэзісты перанясуць чырвоныя лініі з чарцяжоў праекта на мясцовасць, і запрацуюць магутныя машыны, ажыццяўляючы волю вялікага савецкага народа.

**Б. АСТАПОВІЧ,**
**намеснік галоўнага інжынера Беларускага дзяржаўнага інстытута праектавання воднай гаспадаркі.**

# АБ САМЫМ ДАРАГІМ

**Рэпартаж**



Гэты маляўнічы куток існуе ў горадзе — у старадаўнім Гродна. Тут шмат зеляніны. Яна скрозь — на вуліцах, на плошчах, у парках, і нават на дамах. Так. Увесь увіты плюшчом трохпавярховы будынак — гэта галоўны вучэбны корпус Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы. У дні, калі ўся наша грамадскасць рыхтавалася ўшанаваць васьмідзесятыя ўгодкі з дня нараджэння народнага песняра Беларусі, мне захацелася пабываць у інстытуце, дзе так зайздросна берагуць памяць аб ім.

Не хацелася адрываць свой позірк ад таго хараства, што зачароўвае душу яшчэ на падыходзе да памяшкання інстытута, атуленага стройнымі клёнамі і разгалістымі ліпамі. Але ж і хацелася хутчэй сустрэцца з тымі, для каго гэтае памяшканне стала на час родным домам.

Пяць кароткіх сустрэч, пяць шчырых гутарак аб самым дарагім, аб прызванні, аб жыццёвым шляху.



**Данута Загнетава.** Вось, стаіць яна ля расчыненага акна ў калідоры другога паверха. Зусім нядаўна ў гэтым самым калідоры празвінеў для яе апошні званок. І здаецца, зусім нядаўна, а на самай справе пяць гадоў таму назад, перад гэтым жа акном, на двары чарговаму атраду першакурснікаў былі ўручаны студэнцкія білеты. Данута ўспамінае, як першы раз студэнткай пераступіла яна інстытуцкі парог.

— Магчыма, таму я і прыехала вучыцца ў Гродзенскі педагагічны інстытут, што ён носіць імя Купалы. З дзяцінства вучылася я ў Купалы любіць свой народ, родную мову. Купала зачараваў мяне сваёй прастатой і шчырасцю. Мне захацелася таксама выказаць свае пачуцці ў такой жа форме, як гэта рабіў Купала — у вершах.

— А ваша прафесія педагога? Ці не таму вы яе і выбралі, што любіце літаратуру?

— Безумоўна! Звычайнае, няхай нават выдатнае веданне мовы і літаратуры ніколі не прынясе поўнай удачы педагогу. Трэба быць улюбёным у прадмет, якому вучыш іншых. Такую ўлюбёнасць у беларускую літаратуру прывіў мне Купала. Асабліва я люблю паэму «Курган». Я ведаю яе на памяць, часта чытаю ўголас, сама сабе. На чацвёртым курсе, на практыцы, урок па паэме «Курган» прайшоў у мяне вельмі ўдала. Гэта быў першы незабыўны дзень у маім педагагічным жыцці.

Хочацца ў жыцці і творчасці быць такой жа, як Купала. Я ганаруся тым, што заканчваю інстытут, які носіць гэтае высакароднае імя!

**Валянціна Петушкова.** Яшчэ адзін прыклад выключна цвёрдых пераконанняў. Дзяўчынкай, яшчэ дашкольніцай, яна з сяброўкамі гуляла іменна ў школу. І калі ёй не даставалася роля настаўніцы, яна перажывала гэта як вышэйшую крыўду і выходзіла з гульні.

Быць толькі настаўніцай, толькі настаўніцай!.. Год ад году гэтае рашэнне ўсё больш станавілася падобным на прысягу.

Здаўшы выпускныя экзамены ў школе, яна праз месяц ужо стаяла перад экзаменацыйнай камісіяй у інстытуце. Вядома, педагагічным. Але яе не прынялі па конкурсу.

Тады яна пайшла працаваць. Усё роўна ў школу — піянерважатай. І праз год зноў здавала экзамены ў той жа інстытут. І зноў не паступіла, таму што яе працоўны стаж быў яшчэ малаваты.

Яшчэ праз год Валя ўсё-такі дабілася свайго.

А цяпер вось засталіся лічаныя тыдні да той запаветнай хвіліны, калі настаўніца Валянціна Сцяпанаўна Петушкова, ужо не гуляючы, а зусім сур'ёзна, дасць свой першы ўрок. Яна ясна бачыць перад сабой дзяцей, якіх ёй трэба будзе вывесці ў людзі. Як многа трэба сказаць ім! Як многа трэба перадаць ім з таго цудоўнага багажу, якім узбагаціў яе інстытут! Якая вялікая яе адказнасць!.. І якая яна шчаслівая ад усведамлення гэтага адказнага абавязку!





Ёсць, больш правільна сказаць, быў у інстытуцкіх літаратараў вельмі сур'ёзны крытык, які шчыра выказваў свае думкі, — **Мікалай Кульгавеня.** Ён — аўтар некалькіх студэнцкіх даследаванняў: пра Самуйлёнка, Куляшова, Чарота. Яго аналіз паэмы Чарота «Ленін» атрымаў на рэспубліканскім конкурсе навуковых студэнцкіх работ другую катэгорыю.

Усе ў інстытуце прадказвалі Мікалаю літаратурную будучыню. Ён марыў пра тое ж.

І раптам нечаканы паварот.

— Пасля першых практычных урокаў я, сам таго не чакаючы, перайшоў у «лагер» гісторыкаў!.. Выкладаючы вучням гэты прадмет, я раптам адчуў сябе надзвычай лёгка. Мова мая стала на дзіва плаўная, думкі — спакойныя і паслядоўныя... Словам, я зразумеў, што мая справа — выкладанне гісторыі... Пазней я яшчэ не раз правяраў сябе, і кожны раз гэты мой вывад умацоўваўся.

— А як жа з літаратурай? Расстаяцеся з такім багаццем?

— Ні за што! Літаратура назаўсёды застанецца маім любімым заняткам для роздумаў, падобна таму, як гісторыя — прадметам для выкладання.

**Тарэза Вайляніс** прыехала з Літвы. У курортным гарадку Друскінінкай, дзе яна вучылася ў школе, Тарэза выявіла выключны спартыўны талент. Не, гутарка ідзе не пра лёгкую атлетыку або плаванне. Гутарка ідзе пра матэматыку.

Настаўніца Рыта Эдуардаўна Экіз, якую Тарэза ўспамінае цяпер з асаблівай павагай, любіла прыносіць у клас такія задачы, рашыць якія мог далёка не кожны. Вучань, які рашыў такую задачу, адчуваў сябе, як лёгкаатлет, што першы дасягнуў фінішу. Той, хто рашыў некалькі такіх задач, станавіўся чэмпіёнам. Тарэзе па душы прыйшоўся такі азарт. І не раз яна ўзнагароджвалася своеасаблівымі лаўрамі чэмпіёна — асаблівай пахвалой настаўніцы.

Пасля прыйшло жаданне быць падобнай на «трэнера», а потым і рашэнне стаць выкладчыцай матэматыкі. Літоўская дзяўчына прыехала ў Беларусь. Тут яна адразу набыла сяброў на доўгія гады.

Вядома, Тарэза вучылася не толькі слухаючы лекцыі. Студэнтка Вайляніс была і актывісткай навуковага матэматычнага гуртка. Яна пранікла ў таямніцы некалькіх «белых плям», — самастойна знайшла рашэнне шэрагу невядомых следстваў з тэарэм.

Цяпер яе дыпломам ганарыцца інстытут. Школа, дзе вучылася Тарэза, запрасіла яе на працу. І Тарэза вярнулася ў Друскінінкай.

— Але я буду вучыць не толькі матэматыцы! — гаварыла дзяўчына, развітваючыся са сваімі сябрамі. — Я буду вучыць здароваму захапленню ў кожнай справе, як гэта рабіла мая настаўніца. І буду вучыць душэўнасці, таварыскасці, чалавечнасці... Усяму, чаму мяне саму навучыў педагагічны інстытут імя Купалы!





**Леў Рыжоў** заканчвае фізіка-матэматычны факультэт. Днём і ноччу толькі і думае пра сваю матэматыку. Але і ён не абыякавы да слова. Вялікая павага да літаратуры, што стала традыцыяй інстытута, не проста кранула сэрца юнака. На працягу трох гадоў ён рэдагаваў інстытуцкую газету. Апошні нумар, падрыхтаваны ім, прысвячаўся 50-годдзю «Праўды». Клапоцячыся аб «кадрах газетчыкаў», як назваў Рыжоў аўтараў-студэнтаў, ён пісаў: «Працвітанне нашай газеты звязана з рашэннем многіх праблем. Праблемай нумар адзін з'яўляецца ўмелы падбор кадраў. Не кожны актывіст можа быць газетчыкам. Іх трэба старанна шукаць — людзей, здольных цікава расказаць аб простых фактах, здольных мысліць не фармальна, а з захапленнем і пераканаўча!»

Здавалася б, рэдактар, які пакідае сваю часовую пасаду, мог бы і не клапаціцца пра будучыя практычныя крокі газеты. У Льва Рыжова іншыя адносіны да справы. Ён уважлівы, клапатлівы ў адносінах да таварышаў, усёй душою адданы справе.



* * *

Выхаванцы Гродзенскага педагагічнага інстытута навучыліся не толькі кожны сваёй спецыяльнасці настаўніка, але і самаму галоўнаму — быць выхавацелямі маладога пакалення будаўнікоў камунізма, каб несці ў народ высокае слова праўды, як рабіў гэта той, чым іменем ушанавана гэта навучальная ўстанова.

Купала тут не толькі пачэснае імя. Яно ў сэрцы кожнага з тых, хто пакідае інстытут з дыпломам настаўніка, і ў тых, хто толькі пераступіў яго парог. На студэнцкіх вечарах гучаць вершы народнага песняра, песні на яго словы. Кнігі з творамі Купалы — самыя зачытаныя ў інстытуцкай бібліятэцы. У гэтым можна было пераканацца і на Купалаўскіх чытаннях, якія наладзіў інстытут у юбілейныя дні, дзе з дакладамі выступалі не толькі выкладчыкі, але і студэнты.

Шчырым Купалавым словам выпраўляў інстытут сваіх выхаванцаў і ў самастойную дарогу па жыццю.

Тэкст і фота **А. Дзітлава.**

# ТВАРЦЫ МАЛЕКУЛ

Калі ў Брусэлі на вялізнай плошчы ў дзвесце гектараў былі раскінуліся павільёны сусветнай выстаўкі «Чалавек і прагрэс», усеагульную ўвагу прываблівоў будынак незвычайнай формы з незвычайнай назвай — «Атоміум». Ён быў змантыраван з велізарных стальных труб дыяметрам больш за тры метры і нагадваў гіганцкі куб. На вяршынях куба, як зоркі, ззялі ў блакіце неба вялізныя сталёвыя шары. Па форме гэты будынак нагадвае малекулу жалеза, павялічаную ў 160 мільярдаў разоў.

Тут царства атамаў і малекул. Па экспанатах, якія знаходзіліся ў Атоміуме, можна было прасачыць, як нястомныя разведчыкі навукі зрывалі покрывы з таямніц яшчэ зусім нядаўна недасяж-

нага мікрасвету. У вітрынах і на стэндах — чорныя і каляровыя шарыкі-атамы, якія прыгожа пераплятаюцца ў гронкі розных памераў, кусцяцца, быццам каралы. Гэта макеты розных рэчываў.

У выглядзе самавітага ўзору пераплятаюцца паміж сабою кольцы і ланцужкі малекул гемаціну — рэчыва, якое афарбоўвае кроў і налічвае ў сваёй малекуле 78 атамаў. Яшчэ больш складаны малюнак мае малекула хларафілу. Велізарныя малекулярныя пабудовы палімераў — воўны, цэлюлозы, каўчуку складаюцца з тысяч, дзесяткаў тысяч атамных «цаглінак». Калі параўнаць макет малекулы хларафілу, якая налічвае 137 атамаў, з малекулай каўчуку, што мае 20—30 тысяч атамаў, дык яна будзе, як маленькі човен побач з акіянскім цеплаходам.

250 год таму назад сціплы галандскі чыноўнік Левенгук упершыню зазірнуў з дапамогаю адшліфаваных ім лінз у свет нябачнага. Ён убачыў у кроплі вады «зверанят» — мікробы і бактэрыі. Наша эпоха, якая ўзброіла вучоных больш дасканалымі прыборамі, дазволіла пранікнуць яшчэ глыбей у свет нябачанага. У нас і за мяжою створаны цяпер электронныя мікраскопы, з дапамогаю якіх можна атрымліваць павелічэнне ў сто тысяч разоў. Невялікі экран мікраскопа, які крыху нагадвае экран тэлевізара, раскрывае вучоным таямніцы ўнутранай будовы рэчыва. На гэтым экране можна ўбачыць і нябачныя да гэтага часу малекулы палімераў.

На экране электроннага мікраскопа малекула цэлюлозы, якая складаецца з трохсот тысяч атамаў, — гэта кавалак тонкай ніткі даўжынёю ў 10 сантыметраў і таўшчынёю ў сем сотых міліметра. Мільёны такіх малекул-нітак размяшчаюцца паралельнымі пучкамі і ўтвараюць тое, што мы называем валакном.

## ХІМІЧНЫЯ «КРАЎЦЫ»

Большасць палімераў мае доўгія ніцепадобныя малекулы. Аднак не ўсе малекулы-гіганты ўяўляюць сабой тонкія ніткі. Яны маюць часам і выгляд сеткі, дзе малыя малекулы злучаны паміж сабой у складаныя вузлы. Так пабудаваны малекулы некаторых пластмас.

Такія малекулярныя «пабудовы» не разбураюцца пры награванні, не раствараюцца ў спірце, ацэтоне, бензіне. Сеткі малекул пластмас могуць быць шчыльныя і рэдкія, груваскія і мініяцюрныя. У залежнасці ад формы сеткі мяняюцца і ўласцівасці рэчыва. Можна вырабіць пластмасы трывалыя, як сталь, і моцныя, як камень, можна атрымаць пластмасы, якія не праводзяць электрычны ток і якія не баяцца кіслот.

Каб стварыць розныя палімеры, спачатку трэба навучыцца «сшываць» маленькія малекулы ў доўгія ланцугі. Вучоныя-хімікі авалодалі ўжо майстэрствам хімічнага «кравецтва». Аднак далёка не ўсе арганічныя злучэнні — зручны матэрыял для хімічных «краўцоў».

У 1857 годзе нямецкі вучоны Кекуле зрабіў важнае адкрыццё. Ён вынайшаў, што атам вугляроду — аснова ўсяго арганічнага свету — здольны далучаць да сябе чатыры атамы вадароду або іншага аднавалентнага элемента. Калі ў малекулах усе свабодныя сувязі вугляроду заняты атамамі іншых элементаў, такія рэчывы называюцца насычанымі злучэннямі. Яны трацяць здольнасць далучаць да сябе іншыя атамы і малекулы, а таксама не здольны злучацца паміж сабой.

Напрыклад, з малекул газу этану «сшыць» ланцужок нельга. Зусім іншая справа са злучэннямі вугляроду, дзе паміж вугляроднымі атамамі маюцца дзве або тры сувязі. Напрыклад, у малекуле газу ацэтылену кожны атам вугляроду мае толькі па аднаму атаму вадароду. Таму застаюцца тры свабодныя сувязі, або валентнасці. Сувязі ў такіх малекулах нетрывалыя, яны могуць лёгка разбурацца. Таму такія злучэнні здольныя да розных пераўтварэнняў. Гэтыя цудоўныя ўласцівасці малекул адкрыў ленінградскі хімік акадэмік А. Фаворскі. Упершыню ў гісторыі арганічнай хіміі ён знайшоў, што ў ацэтыленавых вуглевадародах у адпаведных умовах адбываецца перагрупіроўка атамаў. Хімічны склад рэчыва не мяняецца, але само рэчыва як быццам перараджаецца. Утвараюцца іншыя злучэнні з зусім новымі ўласцівасцямі. Гэта тлумачыцца змяненнем сувязей паміж атамамі вугляроду.

Адкрыццё Фаворскага атрымала шырокую вядомасць і за мяжою. За гады савецкай улады ў нашай краіне вырасла буйная прамысловасць сінтэтычных матэрыялаў. Ацэтылен і яго злучэнні зрабіліся роданачальнікамі разнастайных палімераў.

## «СЛЁЗЫ ДРЭВА»

У гушчары трапічных лясоў Паўднёвай Амерыкі, на плантацыях Цэйлона і В'етнама, Бірмы і Інданезіі растуць тоўстыя высокія дрэвы — гевеі. Калі зрабіць надрэз на ствале гэтага магутнага ляснога прыгажуна, дык пацячэ белы, як малако, сок. Індзейцы назвалі сок гевеі каа-о-чу, што азначае — «плач дрэва», або «слёзы дрэва». Еўрапейцы пачалі называць гэтую цудоўную смалу — каўчук.

Па ініцыятыве У. І. Леніна ў верасні 1918 года ў Маскве была склікана нарада буйнейшых хімікаў краіны. Была пастаўлена задача — пазбавіцца ад замежнай залежнасці, стварыць сваю вытворчасць каўчуку з айчыннай сыравіны. Аднак спробы тых год не далі патрэбных вынікаў. У першыя гады савецкай улады каўчукавы голад стаў яшчэ больш востры. У 1926 годзе Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі аб'явіў міжнародны конкурс на лепшы прамысловы спосаб атрымання сінтэтычнага каўчуку. Была аб'яўлена прэмія ў 25 тысяч залатых рублёў. У конкурсе прынялі ўдзел многія славутыя айчынныя і замежныя хімікі.

З вялікай колькасці прапаноў, што паступілі на конкурс, толькі дзве былі прызнаны конкурснай камісіяй як вартыя ўвагі. Абедзве прапановы належалі савецкім вучоным: С. Лебедзеву і Б. Бызаву. Тады было вырашана спыніцца на спосабе Лебедзева — сінтэтычны каўчук атрымліваць са спірту. Прапанову Бызава аб выкарыстанні ў якасці сыравіны для вытворчасці сінтэтычнага каўчуку нафты ў той час немагчыма было рэалізаваць, бо была слаба развіта тэхніка нафтаперапрацоўкі.

Паведамленне пра выдатную перамогу савецкіх хімікаў, якія бліскуча вырашылі праблему атрымання сінтэтычнага каўчуку, выклікала за мяжою супярэчлівыя водгукі. Прыхільнікі Савецкай дзяржавы віталі поспех нашай навукі. Ворагі не верылі паведамленню, спрабавалі прынізіць нашу перамогу і выдаць яе за «бальшавіцкую прапаганду».

У 1930 годзе ў Ленінградзе на Гутуеўскім востраве быў пабудаваны першы ў свеце доследны завод штучнага каўчуку па спосабу Лебедзева. Велізарную дапамогу ў пабудове завода аказваў С. М. Кіраў. Ён цікавіўся падрабязна ходам будоўлі і часта прыязджаў туды сам. Так поўнасцю была вырашана задача прамысловага атрымання сінтэтычнага каўчуку з айчыннай сыравіны.

## ПРАЗ ТРЫЦЦАЦЬ ГОД

У 1932 годзе С. Лебедзеў, выступаючы на ўрачыстым пасяджэнні Акадэміі навук СССР, гаварыў: «Сінтэз каўчукаў — крыніца бясконцай разнастайнасці. Тэорыя не ўстанаўлівае межаў гэтай разнастайнасці... Вось чаму цяпер з поўнай пераканальнасцю можна сцвярджаць, што гумавая прамысловасць недалёкай будучыні будзе базіравацца на некалькіх каўчуках — натуральным і сінтэтычным».

У наш час прадбачанне выдатнага хіміка бліскуча спраўдзілася. Неўзабаве пасля пуску ў 1932 годзе першынца каўчукавай прамысловасці ў Яраслаўлі былі пабудаваны новыя буйныя заводы сінтэтычнага каўчуку. Тысячы тон прадукцыі давалі яны краіне, але гэта быў каўчук, атрыманы толькі са спірту. Цяпер жа ў нас выпускаецца звыш 20 розных відаў сінтэтычнага каўчуку, якія адрозніваюцца адзін ад другога сваімі ўласцівасцямі. Адны лепшыя за

натуральны каўчук па трываласці і эластычнасці, другія — па стойкасці да масел і бензіну, трэція — па газанепранікальнасці, чацвёртыя — па марозаўстойлівасці.

Сыравінай для іх стала нафта і нафтавыя газы. У 1958 годзе на нашых нафтавых месцанараджэннях было здабыта каля дзевяці мільярдаў кубічных метраў нафтавых карысных газаў. З гэтай колькасці можна зрабіць некалькі сот тысяч тон сінтэтычнага каўчуку. У 1965 годзе для вытворчасці сінтэтычнага каўчуку і другіх палімераў намечана выкарыстаць звыш 2,5 мільёна тон вадкіх вуглевадародаў са спадарожных газаў. Яны заменяць 300 мільёнаў пудоў зерня, або 750 мільёнаў тон бульбы.

Даўно ўжо зарубежныя і савецкія вучоныя шукаюць шляхі стварэння такога штучнага каўчуку, які б па якасці зусім не адрозніваўся ад натуральнага. Нядаўна гэтую праблему паспяхова вырашылі ленінградскія хімікі — навуковыя супрацоўнікі Інстытута сінтэтычнага каўчуку. Яны сінтэзавалі з вуглевадародаў, якія атрымліваюцца з нафтавых газаў, новы від каўчуку — ізапрэнавы, скарочана названы «СКІ».

У тым жа інстытуце можна ўбачыць дэталь памерам у дзве складзеныя разам цагліны. Яна надзвычай лёгкая. Гэта — падгалоўнік для крэслаў міжгародніх аўтобусаў, зроблены з асобнага гатунку мікрапорыстай гумы. З гэтага матэрыялу цяпер робяць аўтамабільныя сядзенні і падушкі, асобныя часткі мяккай мэблі, туалетныя губкі. Недалёкі той час, калі такі лёгкаважкі матэрыял заменіць усё, што цяпер робяць з пуху, стружкі, пер'я, металічных спружын.

Некаторыя гатункі сінтэтычнага каўчуку пры апрацоўцы робяцца цвёрдымі і адначасна лёгка крышацца. Каб пазбегнуць гэтага, спрабавалі паменшыць малекулярную вагу, г. зн. вагу вялікіх малекул, з якіх пабудаваны сінтэтычны каўчук. Гэта памяншала яго цвёрдасць, але адначасова пагаршала іншыя каштоўныя ўласцівасці — трываласць, марозаўстойлівасць да вялікіх тэмператур. Тады хімікі вырашылі пайсці іншым шляхам. Яны сталі дадаваць да каўчуку мінеральнае масла, якое з'яўляецца цудоўнай змазкай і ў многіх выпадках адыгрывае ролю памякчальніка. Значыць, яно і каўчук павінна зрабіць больш мягкім і пластычным.

Але ж каўчук не любіць масел, ён у іх набухае. Як жа можна карыстацца мінеральнымі масламі для «змякчэння» каўчуку? Выявілася, што можна, калі кропелькі масла будуць абцягваць кожную часцінку каўчуку. Вось такі «масляны» каўчук некалькі гадоў таму назад і быў створаны ленінградскімі хімікамі. Ён значна дзешавейшы за другія гатункі сінтэтычнага каўчуку. На адным толькі заводзе, дзе ўжо выпускаецца «масляны» каўчук за паўгода была атрымана значная эканомія — трыццаць мільёнаў рублёў.

## У ПОШУКАХ НОВАГА

Выдатны ленінградскі хімік, творца новых рэчываў і матэрыялаў член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР С. Ушакоў на працягу многіх год займаецца даследаваннем так званых вінілавых злучэнняў, якія з'яўляюцца асновай атрымання многіх пластмас. З полівінілавых пластыкаў ёсць адзін асаблівы. Яго не ўтвараюць, «сшываючы» маленькія малекулы ў доўгі ланцуг, а атрымліваюць з гатовай штучнай смалы, апрацоўваючы шчолаччу або кіслатой. Гэты палімер называюць полівінілавым спіртам, хоць ён зусім не падобны на свайго вядомага ўсім цёзку — вінны (эцілавы) спірт. Полівінілавы спірт — цвёрдае рэчыва, але яго можна зрабіць гнуткім і эластычным, калі апрацаваць гліцэрынай.

Пласцінкі, зробленыя з гэтага палімеру, не баяцца ні масла, ні бензіну, не раствараюцца нават у такіх моцных растваральніках, як сераву́глярод і хлараформ. З гэтых пластыкаў робяць прываднýя пасы, якія паспяхова замяняюць скураныя, вырабляюць ніткі для сшывання ран, абразіўныя (шліфавальныя) кругі.

Група супрацоўнікаў Інстытута высокамалекулярных злучэнняў пад кіраўніцтвам С. Ушакова распрацавала спосаб вырабу з полівінілавага спірту новага сінтэтычнага валакна — вінолу. Выдатныя ўласцівасці новага валакна дазваляюць яму заняць пачэснае месца між іншых відаў «хімічных» ніцяў, якія ўжо асвоены нашай прамысловасцю (капрону, нейлону, лаўсану).

Вінол у адрозненне ад многіх іншых сінтэтычных валокнаў гіграскапічны і добра «грэе». Тканіна, сплеценая з вінолавых нітак, вельмі моцная, мала зношваецца, не баіцца кіслот і шчолачаў, не псуецца пры знаходжанні ў марской вадзе, не прамасліваецца. Сарочка ці сукенка, пашытая з вінолавай тканіны, захоўвае форму і памеры пры мыцці, лёгка прасыхае. З гэтага новага хімічнага валакна можна рабіць трывалыя рыбацкія сеткі, тросы, пакрышкі для карабельных люкаў.

Нашых слаўных савецкіх лётчыкаў выратоўвала ў час вайны празрыстая браня — купалы на самалётах з арганічнага шкла, якое не б'ецца, плексігласу. У 1935 годзе С. Ушакоў быў камандзіраваны за мяжу для набыцця патэнтаў на вытворчасць плексігласу. Амерыканская фірма Дзюпон запрасіла 2,5 мільёна рублёў, нямецкая кампанія Рэм і Гас згадзілася крыху збавіць: згодна была аддаць патэнт за два мільёны рублёў. «Зробім самі», — сказаў тады вучоны. Неўзабаве пасля вяртання з камандзіроўкі С. Ушакоў у сваім Інстытуце пластмас вылучыў групу найбольш здольных і энергічных людзей і даручыў ім распрацаваць тэхналогію вытворчасці шкла, якое не б'ецца. Праз год у Ленінградзе быў пушчаны доследны завод.

## НА СЛУЖБУ МЕДЫЦЫНЕ

Гэта было ў 1953 годзе. С. Ушакоў цяжка захварэў. Прыкаваны на працягу многіх дзён да ложка, вучоны звярнуў увагу, што большасць лекавых рэчываў на аснове арганічных злучэнняў уздзейнічае толькі пры даволі працяглым знаходжанні ў арганізме. Між тым, як правіла, устойлівасць іх слабая. Таму іх трэба часта прымаць. Напрыклад, для стварэння патрэбнай канцэнтрацыі ў арганізме стрэптаміцыну ці пеніцыліну трэба даваць хвораму невялікія іх дозы праз кожныя чатыры гадзіны. За апошнія гады туберкулёз паспяхова вылечваюць прэпаратам «ПАСК». Хвораму трэба прымаць яго не менш 20 грамаў у суткі, а ўвесь курс лячэння — амаль два кілаграмы. Як жа палепшыць гэтыя лекавыя прэпараты? Нямала дзён і начэй думаў вучоны.

У пачатку другой сусветнай вайны ў Германіі быў прыгатаваны з некаторых палімераў кровезамяняльнік. Пасля вайны савецкія хімікі ў садружнасці з урачамі стварылі цудоўны айчынны прэпарат для замены донарскай крыві — «ПВП». Цяпер ужо ў кожнай аперацыйнай стаяць напагатове ампулы з сінтэтычным кровезамяняльнікам. Выявілася, што палімеры-кровазамяняльнікі не толькі бясшкодныя дадаткі, яны дапамагаюць і працэсу ўтварэння новых крывяных шарыкаў.

Калі гэтыя палімеры, кампенсуючы страту крыві, здольны доўгі час заставацца ў нашым арганізме, дык, магчыма, трэба паспрабаваць злучыць іх з іншымі лекамі, — разважаў Ушакоў, — і яны будуць «трымальнікамі» і «праваднікамі» лекавых прэпаратаў. Тады адразу павысіцца каштоўнасць лекаў, лячэнне зробіцца больш простым і больш эфектыўным.

Для таго, каб ажыццявіць гэтую выдатную ідэю, якая адкрывае, па сутнасці, новую эру ў галіне выкарыстання лекавых хімічных прэпаратаў, трэба было вырашыць дзве задачы. Па-першае, знайсці такія палімеры, якія трывала злучаліся б з лекамі, не памяншаючы іх лекавых якасцей, па-другое, праверыць, ці не знікне зусім уздзеянне лекавых прэпаратаў пасля ўступлення іх ва ўзаемадзеянне з палімерамі. Адказ можна было атрымаць толькі шляхам эксперыментаў. Таму пад кіраўніцтвам Ушакова і некаторых другіх ленінградскіх вучоных былі праведзены шырокія даследаванні, якія закончыліся поўным поспехам.

Ужо ўдалося атрымаць шэраг

лекавых палімераў, эфектыўных сродкаў супраць інфаркту, туберкулёзу і склерозу. Лячэнне інфаркту і тромбафлебіту заснавана на ўжыванні асобных прэпаратаў, якія затрымліваюць здольнасць крыві згушчацца, — так званых антыкаагулянтаў. Уздзеянне гэтых лекаў будзе паспяхова толькі ў тым выпадку, калі строга рэгулюецца доза прэпарату, які ўводзіцца ў арганізм хворага, і пастаянна кантралюецца састаў крыві.

Як толькі малекула антыкаагулянта далучыць да сябе гіганцкую малекулу таго ці іншага палімера, рэзка ўзрастае працягласць яго лекавага ўздзеяння. Цяпер ужо няма неабходнасці часта даваць хвораму лякарства. Дастаткова будзе ўвесці яго ў арганізм хворага раз у два-тры тыдні. Новыя палімерныя лекі прыгодныя і для папярэджання захворвання, і для лячэння пасля аперацый, калі неабходна ўсімі сродкамі пазбягаць магчымага згушчэння крыві.

З набліжэннем старасці ў людзей развіваецца склероз сасудаў: на сценках артэрый адкладаецца арганічнае рэчыва — халестэрын. Утварэнне такіх склерозных «бляшак» выклікае зацвярдзенне сценак крываносных сасудаў. Для лячэння артэрыясклерозу часцей за ўсё ўжываецца працяглая дыэта, пры гэтым звычайна хворым не рэкамендуецца ўжываць цвёрдыя тлушчы і асабліва маргарын.

Ушакоў стварыў новы прэпарат, які памяншае колькасць халестэрыну ў крыві і размывае яго адкладанні на сценках артэрый. На гэты раз да палімера далучылі малекулы ненасычаных кіслот, якія ўваходзяць у склад раслінных тлушчаў. Лекавае ўздзеянне новага прэпарата аказалася больш эфектыўнае за самы строгі дыэтычны рэжым.

### ЁН МЯНЯЕ АФАРБОЎКУ

Больш як паўтараста год чалавецтва карыстаецца растворамі ёду ў спірце для абеззаражвання ран. Ён уваходзіць у склад каштоўных лекаў — ёдаформу, ёдолу, ёдафарміну і другіх фармацэўтычных прэпаратаў. Лекі, якія маюць ёд, часта ўжываюцца пры лячэнні рэўматызму, склерозу, хвароб, звязаных з абменам рэчываў.

Чысты ёд — крышталікі цёмна-шэрага колеру са стальным адценнем. Дастаткова патрымаць крышталік ёду на далоні, як ён растае і ператвараецца ў фіялетавую пару. А ці бачылі вы калі-небудзь сіні ёд? Кропля крухмальнай настойкі, дададзеная да раствору ёду, афарбоўвае яго ў сіні колер.

Зусім нядаўна група ленінградскіх хімікаў — Е. Лаўрэнцьева, К. Падгорная, Л. Пятрова, Н. Глінкіна пад кіраўніцтвам С. Ушакова атрымалі цвёрды сіні ёд. Гэтае новае рэчыва атрымана без крухмалу на аснове палімераў полівінілавага спірту. Яно не толькі адрозніваецца ад другіх злучэнняў ёду і ад ёднай настойкі сваім ярка-сінім колерам. У яго і бактэрыцыдныя ўласцівасці значна большыя, чым звычайнага ёду. «Сіні» ёд забівае ўзбуджальнікаў брушнога тыфусу, палачкі туберкулёзу: знішчае гнояродныя бактэрыі, вылечвае дызентэрыю. З дапамогаю новага прэпарата можна паспяхова вылечваць розныя страўнікавыя хваробы, хваробы вуха, горла, носа. У адной з клінік Ваенна-медыцынскай акадэміі імя С. М. Кірава з дапамогаю новага прэпарата хутка выздаравелі хворыя з запаленнем сярэдняга вуха.

Нямала ўскладненняў выклікае ў хворых вірусны грып. Да гэтага часу няма надзейных лекаў для барацьбы з вірусамі. Даследы апошніх год паказалі, што сіні ёд можа паспяхова змагацца з гэтымі нябачнымі, няўлоўнымі ворагамі чалавецтва.

Калі змазаць растворам сіняга ёду скуру, на яе паверхні ўтвараецца тонкая ахоўная плёнка. Яна спрыяе больш хуткаму зажыўленню ран, асабліва пры апёках.

Для лячэння некаторых хвароб не заўсёды зручна карыстацца растворамі сіняга ёду ці яго парашкамі. Нядаўна Ушакоў з групай супрацоўнікаў распрацаваў методыку вырабу плёнак, ніцяў і жэлепадобных прэпаратаў сіняга ёду. Расплаўлены жэлепадобны сіні ёд шпрыцам уводзяць у лёгачныя каверны, і там ён застывае. Такім чынам, у арганізме стварающца своеасаблівыя бастыёны барацьбы супраць мікробаў. З поспехам ужываецца сіні ёд і ў зубной хірургіі для лячэння стаматытаў і гігвітаў.

Вылечванне розных хвароб з дапамогаю новага прэпарата паказвае, што ён мае перавагі перад шырока вядомымі нам антыбіётыкамі — пеніцылінам, стрэптаміцынам, граміцыдзінам. Усё гэта дае шырокія перспектывы для выкарыстання сіняга ёду ў медыцыне.

Добра авалодаўшы майстэрствам хімічнага «кравецтва», вучоныя могуць ствараць палімеры па заказу, з living рознымі загадзя зададзенымі ўласцівасцямі. Савецкія хімікі ўжо стварылі нямала новых рэчываў, якіх няма між мінералаў зямной кары, а таксама ў раслінным і жывёльным свеце. Працы савецкіх хімікаў — дастойны ўклад у ажыццяўленне праграмы пабудовы камунізма, — прынятай XXII з'ездам КПСС.

**Б. РОЗЕН,**
**кандыдат хімічных навук.**

# СВАЁЙ КРЫВЁЮ

**Рэпартаж**

Пісьмы... пісьмы... пісьмы.

Многа іх, усхваляваных і радасных, прыходзіць у Мінск, у інстытут пералівання крыві. І ў кожным — глыбокая чалавечая падзяка за выратаванае жыццё, цёплыя, шчырыя словы ў адрас тых, хто дзеліцца з чалавекам, што трапіў у бяду, самым дарагім — сваёй крывёю.

Лячэнне крывёю з кожным годам прымяняецца ўсё шырэй і шырэй. Бадай, немагчыма цяпер уявіць сабе бальніцу, паліклініку ў горадзе, нават у вёсцы, дзе б не карысталіся ў крытычны момант донарскай кроўю.

Донары... Цэлая армія гэтых чалавекалюбаў цесна звязана з інстытутам пералівання крыві.

Сонечная палата. Цішыня. Ля працэдурнага століка — медыцынская сястра. Сёння дзень прыёму донарскай крыві. Звычайная абстаноўка: людзі сур'ёзныя, дзелавітыя, і разам з тым у іх настроі адчуваецца нейкая прыўзнятасць, якая звычайна бывае ў людзей, што робяць вельмі важную справу. Для таго, хто здае кроў, гэта мае значэнне: выклікае прыхільнасць, падбадзёрвае, надае спакой, раўнавагу.



У гэтых аўтаклавах «здабываецца» стэрыльная чысціня, якая так патрэбна пры ўзяцці крыві ў донараў.

Уваходзіць Аляксандра Канашонак. Медыцынская сястра запрашае яе сесці. Пакуль ідуць прыгатаванні, заходзіць размова пра жыццё. Адчуваецца, што Аляксандра Канашонак — не навічок у гэтым кабінеце. Першы раз



**Ля апарата інжынер Зіна Навіцкая.**

яна пабывала тут яшчэ ў 1954 годзе. Тады яна толькі закончыла школу і паступіла працаваць вучаніцай у цэх настройкі Мінскага радыёзавода. Аднойчы на заводзе здарылася няшчасце. Тэрмінова спатрэбілася кроў. «Калі трэба, я магу даць сваю кроў,— сказала яна ўрачам, прыбегшы ў санчасць.— Толькі б выратаваць таварыша!»

Сёння Аляксандра Канашонак здае кроў трыццаць першы раз. Здадзена за ўвесь час амаль чатырнаццаць літраў.

Пакуль мы гутарылі з донарам, да століка падышла высокая жанчына ў беласнежным халаце. Гэта — лабарантка клінічнай лабараторыі Раіса Файвішэвіч. Праз некалькі хвілін яна сядзе за свой столік і пачне вызначаць групу крыві донара.

Лабарантка — майстар сваёй справы. І тым не менш, яе работа будзе правярацца яшчэ і яшчэ раз, бо справа датычыць жыцця чалавека, і лішняя асцярога тут не пашкодзіць. Каб пераканацца, што група вызначана правільна і не выкліча пры пераліванні непрыемных вынікаў, кроў накіроўваюць у сыварататачную лабараторыю. Тут яе правяраюць так званым перакрыжаваным спосабам. Пасля гэтай праверкі можна спадзявацца, што група вызначана правільна.

Але вернемся ў працэдурную. Ідзе прыём крыві. Аляксандра Канашонак, не адчуваючы стомленасці, пакінула прывычнае месца ля століка. Яе запрашаюць у сталовую. Кухары ведаюць, чым пачаставаць донара. Разам з урачамі яны стараюцца абкружыць незвычайных наведвальнікаў сваёй сталовай любоўю і ўвагай. Аляксандры падаюць апетытны абед...

Тым часам здае кроў Ліда Багдасар'ян — работніца УНР-25. Ліда здае кроў нядаўна і прыходзіць у гэтую лабараторыю з вялікай ахвотай.

На развітанне яна гаворыць урачу:



**Самалёт санітарнай авіяцыі хутка дастаўляе кроў чалавеку, які змагаецца са смерцю.**



**Аляксандра Прадко працуе ў дзіцячым садзе № 81 г. Мінска. Дзеці шчыра любяць сваю клапатлівую і спагадлівую выхавацельніцу.**

«Калі ласка, не налічвайце мне грошы... Сёння я здаю кроў бясплатна...»

— Добра, Ліда... Можна толькі вітаць такую заяву.

— Доктар Барташэвіч,— звяртаецца Аляксандра Прадко,— і мяне запішыце. Я... таксама бясплатна.

Аляксандра Прадко — актывіст санітарнай работы. Яна першая адгукнулася на заклік донараў Масквы, якія вырашылі здаваць кроў бясплатна. Яна запрасіла шмат жанчын — суседак па дому — стаць донарамі. Нядаўна Аляксандру Прадко ўзнагародзілі ганаровай граматай ЦК Таварыства Чырвонага Крыжа...

* * *

...Рабочы дзень заканчваўся. Апусцелі калідоры. Толькі ў лабараторыях інстытута людзі па-ранейшаму працавалі ля мікраскопаў. Не пакідала свайго рабочага месца і інжынер Зінаіда Навіцкая. Не здзіўляйцеся, у інстытуце пералівання крыві ёсць інжынер... Зінаіда Навіцкая кіруе самай складанай тэхнікай, пры дапамозе якой рыхтуюцца сухія прэпараты з крыві.

На шкельцы Зінаіда Навіцкая паказвае нам парушынкі толькі што высушанай крыві.

— Сухая плазма,— тлумачыць яна,— цудоўна захоўваецца, выдатны сродак пры апёках і іншых захворваннях, калі арганізму супрацьпаказана ўводзіць чырвоныя крывяныя цельцы.

...Нечакана рэзка зазвінеў тэлефон.

— З раёна...

І на самай справе. Звоняць з Мастоў Гродзенскай вобласці.

— Добра, зараз жа накіруем,— адказвае голас дзяжурнага.— Самалётам. Так, так, чакайце.

Слухаючы ўпэўненыя словы дзяжурнага, міжволі прыпомніліся тыя, хто толькі што здаваў кроў, і ўвесь дружны калектыў людзей, якія працуюць на высакароднай ніве дзейнасці — ратуюць жыццё чалавека.

**М. САВІЧ.**

Фота **С. Чырэшкіна.**





# БУДУЧЫНЯ АЗЁРНАГА КРАЮ

Нарач — возера-мора, з белакрылымі чайкамі, з пеністымі хвалямі, з лясістымі берагамі. Пра яго пішуць паэты і гісторыкі, яго вывучаюць біёлагі і гідролагі. Але надышоў час сказаць сваё слова пра Нарач і архітэктарам.

І яны гавораць. У праектных інстытутах сёння робяць накіды новай гісторыі нарачанскага краю. Тут вакол групы азёр Нарач, Баторына і Мястра запраектаваны і ўжо ствараюцца санаторыі, пансіянаты, піянерскія лагеры, водныя і лодачныя станцыі, пляжы і спартыўныя лагеры, турысцкія базы. Прывабныя, сучасныя па сваёй архітэктуры і плануроўцы гэтыя аздараўленчыя комплексы будуюцца з улікам самых сучасных патрабаванняў.

Чалавек павінен затрачваць як мага менш сіл, часу і матэрыяльных сродкаў на арганізацыю свайго адпачынку. Таму стварэнне зон масавага адпачынку мае шмат пераваг, і першая з іх — магчымасць наладзіць цэнтралізаванае абслугоўванне харчаваннем, гандлем, транспартам, сувяззю. Бясспрэчна, што такое канцэнтраванае будаўніцтва куды больш эканамічнае, чым параскіданае ў розных месцах.

Як жа будуць выглядаць берагі нарачанскіх азёр?

Яшчэ некалькі год назад асноўнымі месцамі адпачынку тут былі санаторыі, дамы адпачынку і прыватныя дачы. Даўно асталяваліся, напрыклад, на паўночна-заходнім беразе возера работнікі мінскай друкарні «Звязда». Яны першыя пабудавалі ў сасновым лесе лёгкія домікі і штогод праводзяць тут свой адпачынак. Крыху далей, за вёскаю Купа, пачаў будавацца новы санаторый. Яго белыя карпусы ўжо відаць з боку возера. Але не заўсёды спакусіш здаровую моладзь рэжымам санаторыя. Жыццё падказала новыя формы арганізацыі адпачынку. Прычым самага разнастайнага. Масавага, здаровага, дзейснага, звязанага з турызмам і спортам. Моладзь з задавальненнем праводзіць свой адпачынак у аздараўленчых лагерах, дзе ёсць не толькі палаткі, але і спартыўны інвентар.

Палатняныя лагеры і гарадкі адпачынку плануюцца ў лесе, на прыгожых палянах. Каля кожнага лагера будзе свой пляж, водная і лодачная станцыі. Не спадабаецца палатка, можна будзе ўзяць напракат трэйлер — лёгкую дачу на калёсах. З трэйлераў, лёгкіх домікаў і палатак будуць арганізаваны летнія гарадкі адпачынку. У іх можна будзе за невялікую цану зняць пакой ці месца на любы тэрмін.



А хіба дрэнна адпачываць на вадзе, у плывучых базах адпачынку? Вялікія плыты і лёгкія павільёны на іх плывуць па возеры. У любым месцы можна спыніцца і правесці прагулкі ці экскурсію.

Да паслуг сямейных — пансіянаты. Тут прадаставяць месца, пасцель або асобны пакой, харчаванне і неабходны інвентар на любы тэрмін за наяўны разлік.

На мысе «Наносы», што прыгожай пясчанай касою выступае ў возера, запраектаваны стадыён, водная і лодачная станцыі, яхтклуб і пансіянат для адпачынку спартсменаў. Тут будуць праводзіцца і трэніровачныя зборы.

На поўдзень ад мыса «Наносы» ў жывапісным сухім бары размесціцца беларускі «Артэк» — рэспубліканскі піянерскі лагер санаторнага тыпу. Магчыма, яго назавуць «Арлянята» ці «Ластаўка». Назва яшчэ не знойдзена. Але назва гэта абавязкова будзе змястоўнай і прыгожай.

Вялікая турысцкая база будзе знаходзіцца там жа, дзе і цяпер. Яна значна пашырыцца.

Кожная група, кожны комплекс будуць мець свой цэнтр з поштай, тэлеграфам, камбінатам бытавога абслугоўвання. Акрамя таго, у зоне адпачынку будуць танцавальныя веранды, кінатэатры, рэстаран, месцы прагулак і месцы ціхага адпачынку.

Хіба можна апісаць усё тое, што ўзнікне на берагах возера Нарач, якое займае 80 квадратных кіламетраў. Пясчаныя берагі яго акаймаваны хвойнымі і мяшанымі лясамі. Прыгожая прырода, памятныя мясціны, звязаныя з партызанскім рухам і барацьбой беларускага народа за сваю незалежнасць, будуць вабіць сюды людзей з усіх куткоў краіны.

Вялікую работу правядуць тут і па ахове прыроды, аздараўленню і добраўпарадкаванню прыбярэжных месц. Паўднёваўсходняя частка зоны, напрыклад, уздоўж ракі Нарачанкі ператворыцца ў запаведнік. Лясы, балоты і азёры гэтай часткі захаваюцца, каб разводзіліся звяры, птушкі, гадавалася рыба. Усе астатнія забалочаныя ўчасткі будуць асушаны. Новыя лесанасаджэнні перайтвораць паўночны бераг, і вакол возера замкнецца зялёнае кола лясоў.

Сто тысяч чалавек за год зможа адпачыць тут. Такі ён, сапраўдны клопат савецкай улады пра чалавека.

**А. СЫЧОВА,**
**архітэктар.**



Алег ЛОЙКА

# КРЫЛЫ ПАЭЗІІ

### Традыцыі рамантычнага і паэзія маладых

Паэзія... Якое гэта шматзначнае і невычэрпнае сэнсам слова, якая, як сусвет, неабдымная, як зямля, багатая, як жыццё, featfully рознабаковая з'ява! Можна ўспомніць сотні імёнаў, і ўсё розныя паэтычныя аблічча будуць узнікаць перад вамі, пацвярджаючы гэтую, старую, як свет, праўду. Але якіх бы схільнасцей ні быў паэт, чым бы ён ні вылучаўся, нельга нават уявіць сабе, каб яго так ці інакш не кранула рамантыка. Ды і наогул паэзія без рамантыкі немагчыма, бо рамантычнае — гэта яе крылы, без якіх яна ні ўзняцца, ні жыць не можа.

Рамантычнае не можа не ўваходзіць у паэзію ўжо проста па той прычыне, што нельга ўявіць сабе чалавека, які хоць крышку не быў бы рамантыкам: не захапляўся б прыгажосцю зямлі і зор, веліччу герояў і подзвігаў, незвычайнасцю вачэй каханай; сэрца якога не замірала б ва ўрачыстым хваляванні перад Крамлёўскай сцяной, перад святыняй Ленінскага Маўзалею або ў напружаным чаканні сустрэчы з роднымі мясцінамі і людзьмі, ці ў момант найвышэйшай чалавечай радасці, калі ўбачыш, нарэшце, здзяйсненне мары, плён тваіх рук — новы, у святочных агнях навасельляў будынак, усхваляваную лёгкім ветрыкам лаву залатога збожжа, спушчаны на марскую хвалю карабель, кнігу, што пахне яшчэ друкарскаю фарбай.

Тым больш рамантычнае не можа не ўваходзіць у сучасную паэзію, якая адлюстроўвае наш дзень, поўны рамантыкі працоўнага гераізму, нястрымных мар, смелых здзяйсненняў, бясконцых пошукаў!..

Асновай рамантычнага, рамантыкі трэба, мабыць, вылучаць чалавечую прагу прыгожага і добрага, імкненне чалавека да ідэальнага і смелую разведчыцу гэтага ідэальнага — мару.

У розныя часы людзі па-рознаму разумелі прыгожае і добрае, па-рознаму марылі аб ім. Адны шукалі яго на зямлі, другія — на небе. І сёння мы захапляемся красою антычных статуй, што апаэтызавалі гармонію чалавечага цела, урачыстасцю жывых фарбаў мастакоў Рэнесанса, што славілі радасць жыцця. І разам з тым холадам павявае на нас ад сярэдневяковых абразоў, з якіх пазіраюць змардаваныя чалавечыя твары, страшныя сваёй пакутніцкай адлучанасцю ад усіх зямных радасцей.



Доўгі шлях прайшло чалавецтва, перш чым стала шукаць прыгожае і добрае толькі на самой зямлі, толькі ў чалавеку, перш чым людзі самі сталі свядомымі тварцамі прыгожага і добрага. На гэта спатрэбіўся жыццёвы подзвіг Карла Маркса з яго адкрыццём заканамернасцей развіцця грамадства, на гэта спатрэбілася накіраваная ленінскай мудрасцю Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, якая ўпершыню ў гісторыі чалавецтва дала чалавеку рэальныя магчымасці для здзяйснення мар пра свабоду, роўнасць і братэрства, пра гарманічнае развіццё чалавека, пра камунізм.

У сваіх пошуках ідэалу мастакі мінулага былі вымушаны ісці ў разлад з жорсткай і суровай рэчаіснасцю, бунтуючы супраць яе, супрацьстаўляючы ёй свет сваіх мар, свае ідэалы.

Зусім іншыя ўзаемаадносіны ідэалу і жыцця ў нас. Паміж імі знікла бездань. Яшчэ няздзейсненыя, ідэалы нашы ўжо рэальныя, бо яны ў той жа самы час і мары і ўжо не мары, а рэальнасць, якая здзяйсняецца нашымі рукамі. Новыя ўзаемаадносіны жыцця і мары наклалі свой адбітак на прыроду рамантычнага ў літаратуры.

Раней рамантычнае ўзнікала як паэтызацыя непрыняцця рэчаіснасці, як песня летуценняў мастака аб сваім ідэале. Рамантызм пачатку XIX стагоддзя, напрыклад, — гэта ўрачыстасць суб'ектыўных эмоцый, укладзеных пісьменнікамі ў вусны герояў, што ўвасаблялі «голыя», абстрагаваныя страсці — бунту, нянавісці, любві. Але ў творчасці рамантыкаў таго часу спакваля нараджалася і новая форма адлюстравання жыцця — рэалізм, які, паводле М. Чарнышэўскага, паказвае жыццё ў формах жыцця, адной з прадумоў якога, калі гаварыць словамі Ф. Энгельса, з'яўляецца дакладнасць дэталей выяўлення.

Рэалізм перадавых пісьменнікаў XIX стагоддзя, як і рамантызм, арыентаваўся на ідэалы, якія былі па-за сферай таго, што адлюстроўвалася. Не прымаючы свету эксплуатацыі і маны, яны гнеўна выкрывалі яго, аддаючы свае сімпатыі будучыні, абрысы якой не заўсёды выразна ўяўлялі.

Канкрэтныя абрысы будучыні перад літаратурай раскрыў навуковы камунізм. Перамога Вялікага Кастрычніка звяла мару пра лепшую будучыню з туманных рамантычных вышынь на зямлю. Ідэальнае стала зямным, сучасным, нашым. Еднасць з ім напоўніла нашу літаратуру рамантычным пафасам. Не ад супрацьстаўлення сябе жыццю з'явілася рамантычна жывапісная, эмацыянальна ўзнёслая паэзія 20-х гадоў — яна вырасла ад зліцця з велічнасцю эпохі, з яе поступам. Рамантычнае ў паэзіі гэтага часу было ў самой сутнасці лірычнага героя з яго касмічна-маштабнай радасцю і захапленнем, у самой неканкрэтнасці аблічча гэтага героя, у сімволіцы малюнкаў і дэталей, у маляўнічай паэтычнай фігуральнасці, у вуглаватай няскладнасці, лірычнай раскаванасці рытміка-інтанацыйнага складу верша.

Сёння, асэнсоўваючы паэзію 20-х гадоў, выразна бачыш у ёй такую даволі нечаканую з'яву: рэвалюцыя напоўніла рамантыкай само жыццё, апусціла рамантычнае з завоблачных абсягаў на зямлю, а паэзія ў сваім імкненні раскрыць зямное рамантычнае рынулася ў завоблачныя абсягі. Паэты ўсім сэрцам адчулі веліч і незвычайнасць новай эпохі, але паэтызаваць яе праз зямное, канкрэтнае, рэальнае, — гэта, на іх думку, не адпавядала духу эпохі. Так у паэзіі 20-х гадоў узніклі маштабныя, планетарна-касмічныя вобразы, паэты імкнуліся праз іх адлюстраваць размах і веліч падзей. Рэвалюцыя ўяўлялася ім «векам... агню, дыму, попелу», успамін аб грамадзянскай вайне — успамінам аб тым, як «чорных дзён стрымалі конніцу», песня пра абноўленую рэвалюцыяй зямлю — песняй пра «голыя... пад чырванню... прасторы» (М. Чарот).

Вершы многіх паэтаў 20-х гадоў, поўныя «грому дзён агністых», «гоману сталі звонкае... напеваў агнятонных фабрычнага гудка» (А. Дудар), «гарачых крылляў навальніц», гоману-спеву «вольных струн-хваль» (П. Трус), раскрывалі новую яву, яе рэальную рамантыку ўмоўна, абстрактна.

Рамантыка новых дзён найбольш адчувалася ў самым гучанні слоў

і радкоў. Іх узнёсласць і незвычайнасць гаварыла тагачаснаму чытачу аб новым, небывалым і гэтым хвалявала яго.

Але бывала і так, што жывую плынь эмоцый адольвала часам халодная рыторыка ўмоўна-рамантычнага складу, як у А. Александровіча:

Уздрогнула зямля!
З зямлі прарваўся вар!
І ўжо ў астатняй, але страшнай
завірусе, —
Як жылы,
сціснуліся межы карт, —
Ўзышла зямля Савецкай Беларусі.

Альбо ў А. Звонака:

Былі часы
Хмялёвага паўстання,
Былі часы
І бур, і навальніц...
Да мэты йшлі
Адвагай і змаганнем.
Ішлі да волі
Поступам стальным.

Неўзабаве, аднак, паэзія 20-х гадоў пачынае разумець свае слабасці і кідаецца ў настойлівыя пошукі канкрэтна-рэалістычнага ўвасаблення новага жыцця. Лепшыя вершы 30-х гадоў ужо спалучаюць у сабе рамантычны дух з рэалістычнай пластычнасцю малюнка, з паэтызацыяй канкрэтнага, зямнога чалавечага пачуцця.

У гэтым сэнсе вельмі характэрныя вершы А. Куляшова з цыкла «Юнацкі свет». Яны з усёй яркасцю куляшоўскага таленту адкрывалі рамантыку «сотай вярсты», прывязваючы яе, такім чынам, да зямлі, да канкрэтнага. І калі параўнаць рамантыку «сотай вярсты» і чаротаўскую рамантыку, то яны гэтак жа далёкія, як зямля і неба. «Сотая вярста», як і чаротаўскі «век агню, дыму і попелу», таксама ідзе ад рамантычнага ўспрымання рэчаіснасці, але менавіта ў яе канкрэтна-штодзённым, зямным, а не абстрагавана-касмічным абліччы. Яна, «Сотая вярста», — ад незвычайнага багацця духоўнага свету зусім канкрэтнага, адметнага сваім індывідуальным характарам лірычнага героя, раскрытага ў яго сувязях са сваім часам, у яго адносінах да сяброў і сябровак, да шматфарбных праяў роднай прыроды з яе рэкамі і азёрамі, лясамі і дарогамі, небам і воблакамі.

На развіццё паэзіі 30-х — 40-х і першых пасляваенных гадоў, як вядома, свой адмоўны ўплыў зрабіў культ асобы Сталіна. Гэта ён найбольш паспрыяў і буйнаму прарастанню ў ёй рытарычнай сімволікі, псеўдарамантычнай пампезнасці — гэтых спрадвечных антыподаў сапраўднай рамантыкі. З культам асобы былі звязаны таксама значная абясkроўленасць лірыкі, выкарчоўванне з яе роздуму, актыўнага стаўлення да развіцця нашага грамадства, абыякавасць да інтымнай лірыкі — гэтага магутнага сродку ўздзеяння на выхаванне разумнага і добрага ў чалавеку. Але, мабыць, найгоршую службу ў паэзіі саслужыла народжаная ў атмасферы культу асобы практыка выдаваць пад шыльдай паказу жыцця ў яго рэвалюцыйным развіцці творы, адарваныя ад жыцця, ад рэальных шляхоў нашага поступу наперад.

Так. У нас не было і няма бездані паміж рэчаіснасцю і марай. Нашы ідэалы кожны дзень прарастаюць у рэальнасць, набліжаючы нас да запаветнай мэты. Паэтызацыя адвольных выдумак — дыскрымінацыя ідэалу, прафанацыя мары. Адарваная ад жыцця, ад яго канфліктаў і поступу, мара ўжо не мара, а хімера, паэтызацыя ж яе — пустая ігра фантазіі, нікому не патрэбная і, урэшце, грамадскі шкодная.

Сёння псеўдарамантычны адрыў ад жыцця пераадолены. Тым не менш важным застаецца высвятленне яго прыроды і асновы як прыжывальшчыка, якому не можа быць месца ў сферы рамантычнага.

У атмасферы культу асобы вульгарна-сацыялагізатарская крытыка



аб'явіла сімволіку, рамантычную алегорыю і іншыя прыкметы рамантычнага стылю прыналежнасцю буржуазна-нацыяналістычнага мастацтва. Пурытанскія запатрабаванні пісаць толькі рэалістычна-канкрэтна адыгралі сваю адмоўную ролю ў тым сэнсе, што ў паасобных выпадках паэзія рэалістычна-дакладнага жывапісу пачала падмяняцца прыземленым бытавізмам, пазбаўленым рамантычнага пафасу, шырыні погляду, ігры фантазіі.

На жаль, праявы гэтай тэндэнцыі гіпнатызуюць таго-сяго яшчэ і сёння.

Паэзію можна назваць акном у шырокія далягляды свету, у гераічнае мінулае, урачыстае сёння і не менш гераічнае, велічнае заўтра. А тут глянеш іншы раз у гэтае акно і бачыш: гародчык паблеклых кветак, імшастае шула ці веснічкі, што рыпам сваім не даюць заснуць лірычна-пустому паэту!..

Паэзію можна назваць люстрам подзвігаў, мар, думак, пачуццяў. А тут зірнеш у гэтае люстра, і там як у праходной папулярнай песеньцы: радзімка на шчочцы каханай! Што ўжо гаварыць пасля гэтага аб адлюстраванні духоўнага багацця чалавека, рамантыкі нашай сучаснасці!..

І ўсё гэта не проста драбнатэм'е ў паэзіі, духоўная беднасць, блекласць фарбаў. Гэта такое драбнатэм'е і беднасць, у аснове якіх — страта адчування рэальнай жыццёвай рамантыкі, адсутнасць рамантычнага стаўлення да рэчаіснасці.

Паэзіі вялікага дыхання заўсёды памагала ўзнімацца на горныя вяршыні рамантычнасць светаўспрымання, светаадчування пісьменніка. У гэтым можна пераканацца на прыкладзе Янкі Купалы — аднаго з найярчэйшых рамантыкаў у беларускай літаратуры. Арліны палёт фантазіі паэта, яго еднасць з народам і зямлёй, здаецца, найлепш выявіліся ў дарэвалюцыйным вершы «Песняй толькі». Лірычны герой гэтага верша па-данкаўску дзёрзка і самаахвярна марыць-сцвярджае:

Млечны шлях, што нябесны дзядзінец
Засцілае, я б зняў на зямлю
І масціў бы ім новы гасцінец
Цераз родную ніву сваю.
Сонца ўзяўшы агністае ў рукі,
Што гарыць над бязмерам палёў,
Я па млечным тым шляху без мукі
Чалавека да шчасця бы вёў.

Захаплялынай і яркай ад той жа рамантычнай узнёсласці заставалася песенна-звонкая лірыка Янкі Купалы — песняра Савецкай Беларусі:

З усмешкай мы жыццю глядзім у вочы,
Судзіла доля шчасце на вяку, —
Збіраем кветкі папараці ўночы,
Днём з ясным сонцам ходзім пад руку.

Рамантычны пафас Янкі Купалы быў звязаны не толькі з асаблівасцямі купалаўскага светаўспрымання, але і з яркай іншасказальнасцю яго паэзіі, якая смела супастаўляла і супрацьпастаўляла з'явы, на першы погляд несумяшчальныя, непараўнальныя, як, напрыклад, у вершы «Шляхам гадоў»:

Як пацерку да пацеркі, за годам год
На шнур жыцця ўсё ніжа, ніжа;
Адна з тых пацерак сцюдзёная, як лёд,
Другая цёплая, як сонца летні ўсход,
А трэцяя — як той чарвяк з-пад крыжа.
Адна далей, другая сэрцу бліжай,
Адна, як кветка, а другая, як асот,
А ўсе вісяць на шыі...

Рамантычна ўзнёслага не цураўся і Якуб Колас. Многа рамантычнай веліччы пачуццяў і яркасці вобразна-выяўленчых фарбаў, напрыклад, у яго лірыцы ваенных гадоў і пасляваеннага часу.

Успомнім верш «Голас зямлі»:

Я чую голас несціханы —
Зямля мая мяне заве
І кроіць сэрца мне на раны,
Звініць, як звон касы ў траве.
І шум дубровы, і стогн пушчы,
І рэк усхліп, і плач крыніц,
І немы зрок балотнай тлушчы
Нясуць мне весць пра чужаніц.

І вось ужо сэрца паэта не можа трываць. Разбуджанае клічам роднай зямлі, абдымаючы ўсю яе думкамі-пачуццямі, яно раптам нібы зжахаецца, што вось гэтак жа абняць зямлю рукамі немагчыма, і тады магутны ўздых вырываецца з грудзей паэта:

О, каб я меў такія рукі,
Зямля, абняў бы я цябе,
Каб сцішыць гора тваё, мукі,
І сілу даць у барацьбе!

Сэрца волата прагне адчуванняў волата, і ў гэтай рамантычнай празе сапраўды ярка і векапомна выявілася ўся сіла патрыятызму паэта.

Многія вершы Якуба Коласа ваеннага і пасляваеннага часу афарбаваны іншым рамантычным каларытам. Так, асноўнае ў вершах «Бывае музыка і ў стуку...», «Чымган», «Салар», «На пералётах», «На ростанях» — гэта ўлоўліванне незвычайнасці імгнення, услаўленне прыгажосці чалавечых перажыванняў у вышэйшы момант іх праяўлення. Радасць, смутак, боль, спачуванне, замілаванне — усё аднолькава натхнёна асэнсоўваецца як прыгожа-непаўторнае.

Такія вершы, як «Чымган», разам з тым, тыпова рамантычныя сваёй паэтызацыяй надзвычайнага, супастаўленнем велічы прыроды і чалавека, яркай маляўнічасцю паэтычнай фантазіі:

У мантыі лёгкай з празрыстай сінечы
Узносіцца ў неба магутны Чымган.
На ім спачывае халодны туман,
І хмары кладуцца на крэпкія плечы.

Як нейкі ўладар, незлічона багаты,
У розных адзеннях красуецца ён:
Дае яму сонца і колер, і тон,
Ткуць зоры і месяц яму свае шаты.

Я ў мыслях узношуся вышай Чымгана,
Туды, дзе звісае бяздонны блакіт,
Дзе свет ва ўсе бокі шырока адкрыт....

Чытаючы «Чымган», міжвольна ўспамінаеш «Крымскія санеты» Адама Міцкевіча, пушкінскае «Бывай, свабодная стыхія!..» На адным і тым жа ўзроўні і тут і там адбывалася ўзаемаяднанне чалавека і велічных стыхій. Я. Колас, як бачым, развіваў традыцыі вялікіх папярэднікаў, як бы завяшчаючы гэтым іх і нам.

Наша сённяшняя паэзія, абапіраючыся на творчы вопыт Янкі Купалы і Якуба Коласа, шырокім фронтам развівае традыцыі рамантычнага стылю — шэраг паэтаў вылучаецца яркім рамантычным светаўспрыйманнем, а шэраг імкнецца да рамантызаванага паэтычнага слова. Але ўплыў прыземленага фактаграфізму, бяскрылай адлюстравальнасці ў ёй яшчэ адчувальны, а самі пошукі рамантычнага не заўсёды яшчэ мастацкі завершаныя, удалыя.

Найбольш цэласным ў сваёй рамантычнай узнёсласці быў і застаецца Максім Танк. Маляўнічая канкрэтнасць выяўлення — асноўнае ў сённяшняга Танка. Калі ён малюе словам дарогі, то яны, «як пявучыя стрэлы, што пушчаны з лукаў тугіх», лятуць «насустрач прыгодам, вятрам, міражам, небасхілам» («Аўтастрады»). У тым, што дарога ляціць насустрач



«небасхілам», якраз і ёсць нястрымнасць рамантычнага пранікнення ў з'явы, якая ні ў якія гарызонты ілбом не ўпіраецца!.. Тымі ж самымі маштабамі мысліць паэт, калі перад ім ажывае бронза помніка і «цень вандроўніка знаёмага» — Шапэна — «кранаецца клавішаў зямлі» («Вяртанне Шапэна»). Яшчэ адзін узлёт фантазіі — і ўся зямля ўвасабляецца паэтам у вобразе сонечнага гадзінніка, «вечназялёнага цыферблата», цень чалавека на якім «адзначае і час нараджэння і час развітання з зямлёй». Як гэта ўсё проста ў сваёй прыгажосці і як незвычайна ў сваёй прастаце!

Рамантычна-пафаснаю заўсёды была паэзія А. Куляшова. Такою ж яе прадставілі і вершы з новай кнігі («Полымя» № 10, 1961 год). Гэта глыбакадумныя, яркія па форме вершы. У іх навізне, глыбіні, незвычайнасці — новы ўзлёт Куляшова-рамантыка.

Пясняр камсамольскага пакалення канца 20-х — 30-х гадоў, А. Куляшоў усёй сваёй ранейшай паэзіяй клікаў «уперад ісці, толькі ўперад ісці!». Ісці ўперад заклікаюць і новыя вершы паэта. Але раней, клічучы ўперад, у парыве рамантычнага ўзлёту паэт мала звяртаў увагі на складанасць рэальных шляхоў гэтага руху. Алеся, любая яго сэрцу Алеся, гінула, а ці спыняла гэта лірычнага героя яго паэмы ў нястрымным парыванні ў будучыню?.. Недзе, праўда, глыбока ў душы ўтойваў ён боль па страце, але асноўнае было ў сцверджанні адзінага: наперад, не азіраючыся, не разважаючы, не кіснучы ў пачуццёвасці! І ў гэтым была вялікая праўда аб лёсе цэлага пакалення, глыбока адчутая праўда жыцця, якую мы пачынаем разумець толькі сёння і якая для паэта не была ўжо таямніцай тады, калі ён пісаў пра Алесю. Выступаючы ад імя ўсё таго ж пакалення і сёння, А. Куляшоў раскрывае яго лёс, да гонару свайго таленту, яшчэ глыбей і паўней. Бо менавіта цяпер прыйшоў да паэта сканцэнтраваны роздум-самааналіз, як сведчанне росту духоўнай сілы пакалення, якое дасюль яшчэ, кажучы словамі А. Твардоўскага, «службу галоўную нясе». Але цяпер ужо не толькі на крылах эмацыянальнага захаплення, рамантычнага паўзабыцця рвецца наперад лірычны герой А. Куляшова. Цяпер яму ў дарозе заўсёдным спадарожнікам — вялікі жыццёвы вопыт, урокі мінулага, і яго не саб'е са шляху прывід «казачнай пальмы», не звабяць «маладыя парыванні» дарэмных пошукаў «трывалай вечнасці нявечназялёных бяроз» («Запаветны знак»), не стане ён шукаць «вернасці ў няверных, святой любві ў несвятых», «гадоў на марнасць» не аддасць («Перад падарожжам»). У горане яго пачуццяў сапраўды куецца сёння «дарожны дух для горных круч, для хваль высозных, для самых грозных завірух» («Перад падарожжам»). Лірычны герой А. Куляшова сёння сапраўды далёка ад сотай вярсты сваёй маладосці — «на паўмільярдным кіламетры паміж наступным і былым»!..

Вершы новай нізкі А. Куляшова цікавыя і ў іншых адносінах. У вершы «Мой прэзідыум», як і ў ранейшых («Выйшлі мы ўсе з народа», «Камуністы»), ёсць, напрыклад, подых таго рамантычна-эпахальнага адчування нашай сучаснасці, якім вызначаліся вершы У. Лугаўскога з «Сіняй вясны» і «Сярэдзіны стагоддзя». Песня А. Куляшова ўзнімаецца тут песняй пра «век наш грозавы»; як сіні вецер рэвалюцыі ў вершы Лугаўскога, у гэтую песню ўрываюцца «матросы, чырвонаармейцы», уваходзіць Ленін, «нязменна ўзначальваючы прэзідыум сэрца» паэта. Подых гэткага рамантычнага няхай жа не пакідае нашу паэзію!

Свае ўзоры стаўлення да рамантычнага, у той або іншай ступені блізкія Я. Купалу ці Я. Коласу, М. Танку ці А. Куляшову, даюць нам творы такіх разнастайных па таленту паэтаў, як П. Броўка, П. Глебка, У. Дубоўка, П. Панчанка, М. Лужанін, А. Вялюгін, К. Кірэенка, А. Бялевіч, М. Аўрамчык, С. Дзяргай, А. Русецкі і іншыя. Услед за імі ідуць сённяшнія маладыя паэты, творчасць якіх у плане рамантызацыі нашай сучаснасці, у выяўленні іх рамантычнага светаўспрымання, прыхільнасці да рамантычнага стылю чамусьці не надта карыстаецца ўвагай крытыкі.

Паэзія Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка, А. Куляшова дае яркія прыклады вялікіх перажыванняў лірычнага героя, калі ён як бы зліваецца сваімі пачуццямі з бясконцасцю праяў жывога на зямлі, калі чарадзейнай сілай паэтычнага слова ён адухаўляе ўсю зямлю, увесь свет.

Зерні такога адчування свету, зямлі ёсць і ў маладых, напрыклад, у вершы Р. Барадуліна «Калыска»:

Неба сінім навісла полагам.
Шчыра дзякуй табе, калыска!
Не ўзрасціла ты семя кволага,
Не прыземліла мары нізка.

Полаг вышыт шляхамі млечнымі.
Сонца — забаўка ў аблачынках.
Незямныя нам раны залечвала
Ты — сусвету ўсяго пясчынка.

Абгароджаная Карпатамі
І спавітая ў Гімалаі,
Як далонь чалавека, шурпатая,
Чалавеку ты ўжо малая.

Але як ні шукай, больш ніводнага верша, дзе б так па-рамантычнаму ўзнёсла выказвалася сапраўды сучаснае адчуваннем зямлі, у маладых не знойдзеш. Трапляюцца толькі асобныя рамантычна-ўзнёслыя дэталі, напрыклад, у вершы С. Гаўрусёва «Холадна ў гарах»:

Высока Шлях Млечны прасцёрся над намі.—
Як пыл у паходзе узняты байцамі.

Або, напрыклад, у вершы У. Караткевіча «Над шахтамі», дзе каменны вугаль параўноўваецца са скамянелымі світаннямі, якія будуць «палаць там, дзе захоча чалавек». Але чаму толькі дэталі? Чаму няма цэласнага, такога, як у многіх вершах М. Танка ці А. Куляшова, смела рамантычнага адчування свету?!.

Нельга сказаць, што нашы маладыя паэты не шукаюць рамантычных фарбаў. Але яны часам страчваюць пачуццё меры, як гэта здарылася, напрыклад, у вершы І. Калесніка «Роднае». Азёры ў ім аказаліся «глыбокімі вачамі зямлі», «лясы і дубровы — зямлі гэтай бровы — дугой абагнулі палі». Тут не толькі перабольшана з бровамі, няма тут паэтычнага вобраза, бо знешняе не падмацавана ўнутраным — думкай.

Дарэчы будзе прыгадаць тут невялікую «Песню» венецуэльскага паэта Карласа Аўгуста Леана:

И Земля, должно быть, не беспола.
Если ж пола лишена она, то жалости
она достойна.
Не любила она и не знает, что значит
рожать детей.

Всё живое на ней любит,
Жизнь даёт всё новым существам.
А она, Великая кормилица,
Так и не станет матерью мирка-
малютки,
не выкормит его сосцами гор.

З гэтага верша якраз і відаць, як арыгінальнасць думкі робіць самае смелае рамантычнае ўпадабненне (горы-сасцы!) паэтычным і бясконца выразным.

Адсутнасць рамантычнага светаадчування асабліва збядняе пейзажную лірыку. І гэта тым больш крыўдна, калі бачыш, як у той самы час нашы таварышы па пяру — рускія паэты — даюць узоры ўзнёсла-рамантычнага, сапраўды сучаснага адчування прыроды. Напрыклад, Б. Кежун у вершы пра раніцу піша:

В этот час, среди рассветной рани,
Медленно дышало предо мной
Озеро в клубящемся тумане,
Будто вновь рождался шар земной.



Будто сквозь туманы голубые
В первый раз блеснул озёрный плёс,
Возникали будто бы впервые
Рощи белоствольные берёз.

Рамантычнае стаўленне да рэчаіснасці заўсёды вызначалася вольным палётам фантазіі ў прасторы і часе. Гэтым нашы маладыя паэты зноў жа не вельмі могуць пахваліцца, хоць і жывуць у наш касмічны век. Ну, хоць бы так, у прыватнасці, як у прыгожым лірычным вершы М. Танка «Дарогай з сенажаці», дзе створан цалкам зямны малюнак:

Пахнуць пераспелыя суніцы.
Чую подых кожнага лістка.
Чую, як духмяная ігліца
Ападае з голляў сасняка.

Але вось заключная страфа:

Чую, як міжзорныя ракеты
Пралятаюць недзе нада мной...
Можа, мы — апошнія паэты,
Што вось так цікавяцца зямлёй!

У запытанні, якім завастрае паэт сваё лірычнае перажыванне, — прадчуванне новых прастораў, якімі будуць неўзабаве захапляцца паэты. І ў гэтым зусім нечакана праявілася новае адчуванне зямлі ў М. Танка.

Вузкія ў многіх маладых паэтаў і рамкі часу, што змяшчаюць падзеі, якія імі апяваюцца. За межы падзей Кастрычніка, а яшчэ часцей — Вялікай Айчыннай вайны, большасць іх не зазірае. Наймаштабней сярод маладых успрымае час У. Караткевіч. Ён аднолькава лёгка паглыбляецца ў легендарную і нелегендарную даўніну («Машэка», «Балада пра паўстанца Ваўкалаку», «Паўлюк Багрым», «Трызненне мужыцкага Брэйгеля»), з той жа дзёрзкасцю фантазіруе пра будучыню («Балада аб арганаўтах», «Трагедыі не знікнуць пры Камуне»...). Калі б яшчэ У. Караткевіч шырока паказаў сябе і ў раскрыцці сучаснага жыццёвага матэрыялу, то можна б смела гаварыць пра яго, як пра самага таленавітага сярод маладых паэта-рамантыка. Тым не менш рамантычная далягляднасць У. Караткевіча застаецца і так вартай ухвалы. Бо яна — красамоўнае сведчанне духоўнага росту нашага сучасніка і адна з ускосных праяў рамантыкі сённяшняга дня. Бо сапраўды, хіба ў паэтызацыі сырцовых цаглін — першых цаглін на Русі — не адчуваецца паэтызацыя нашага будаўніцтва? А ў баладзе пра подзвіг арганаўтаў хіба не ўслаўляюцца сённяшнія касманаўты?

Рамантычная вольнасць палёту фантазіі, зразумела, не азначае адвольнасці ў спалучэнні і адборы дэталей для твора. Хоць рэдка, але маладыя грашаць і тут.

Вельмі таленавіта пачаў свой паэтычны шлях В. Макарэвіч. У яго ёсць спробы шырокага погляду на свет: паэта хвалююць і завіруха ў полі, і экзотыка дальніх мацерыкоў, нябесных сузор'яў, і заваяванне космасу, і старажытныя піраміды. Характэрна тое, што спробы шырока глянуць на жыццё ў В. Макарэвіча зусім па-арыгінальнаму выяўляюцца праз пераважна бытавыя дэталі і падрабязнасці. Гэта робіць вершы паэта па-свойму сімпатычнымі, але і ставіць перад ім асабліва жорсткае патрабаванне: быць дакладным у дэталях, не прымушаць, напрыклад, афрыканскіх экватарыяльных неграў бразгаць кастаньетамі ў той час, калі кастаньеты — гэта хутчэй прыналежнасць іспанцаў і партугальцаў.

Паграшыў супраць заканамернасцей палёту рамантычнай думкі і Р. Барадулін, ніяк не звёўшы ў вершы «Саганы» ў адно цэлае пяці асобных замалёвак. Чумацкі саган і саган з гудронам на сённяшнім праспекце — ці не тое самае гэта, што «ў агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька»!

А ўвогуле мала, вельмі мала рамантычнай адвагі праяўляюць нашы маладыя паэты, у той час калі знакам сучаснай паэзіі стала прага бачыць

жыццё шырока распасцёртым у часе і прасторы. Нельга пакінуць без увагі спробы, зробленыя ў гэтым напрамку У. Салаухіным. Па-рамантычнаму смела ён «анатаміруе», напрыклад, чалавечы мозг:

Загляните туда —
И разверзнутся синие бездны,
Вся вселенная там, Андромеды
туманность видна.
Сколько зорь и цветов
И стихов и морей — я не бедный,
А какие мечты,
А какие горят имена!

Запомнілася і спадабалася і па-адметнаму «аземленае» і ачалавечанае У. Салаухіным сонца:

Солнце разлито поровну,
Вернее, по справедливости.
Вернее, по стольку разлито,
Кто сколько способен взять:
В травинку и прутик — поменьше,
В большое дерево — больше,
В огромное дерево — много.
Спит, затаившись до времени:
смотришь, а не видать.

Голыми руками можно его потрогать,
Не боясь слепоты и ожога.
Солнце умеет работать. Солнце
умеет спать.

Або паглядзіце, як непасрэдна проста ўваходзіць у далёкую будучыню, раскрываючы ёй рамантычнасць свайго светаадчування, звязваючы ў адзін вузел час сённяшні і час будучы, лірычны герой верша балгарскага паэта Ніколы Інджава «І я ў кашулі белай праходжу па зямлі» (пераклад Н. Гілевіча):

Ганчарныя майстэрні
дымяць. І зоры з неба
ляцяць. І белым цветам
дол вішні замялі.
Вяночкамі з герані
прыбраліся дзяўчаты, —
і я ў кашулі белай
праходжу па зямлі.
. . . . . . . . .
І кветачніцы кветку
на вуліцы дару я,
а зорку — астраному,
а зернятка — раллі.
Пяшчоты і любові
маёй пара настала, —
і я ў кашулі белай
праходжу па зямлі.
Так і пайду калісьці
ад вечароў гарачых,
ад родных стрэх вішнёвых,
ад грушы пры гумне.
О сыне мой далёкі,
сярод паэтаў мёртвых
ты па кашулі белай
пазнаеш скрозь мяне.

Што б, аднак, каму больш ні падабалася — У. Салаухін ці Н. Інджаў, хочацца аднаго — каб у сённяшняй паэзіі ўсё больш выяўлялася сама распасцёртасць нашага жыцця ў часе і прасторы, якія сёння адчуваюцца і ўспрымаюцца па-новаму. Часцей бы хацелася бачыць у вершах маладых паэтаў таксама і паэтызацыю ўзнёслых імгненняў з жыцця іх сучаснікаў, равеснікаў.



Адразу, напрыклад, запамінаецца верш Н. Гілевіча «Лесам песня ішла» — пра дзяўчынку, якая, зняўшы басаножкі, ішла лесам, спяваючы, і ў песні, якая «не спяшалася ў сяло», выказвала тое, яшчэ нясмелае, пачуццё, якое толькі-толькі нараджалася ў ёй, «маладой-маладзенькай» і якое, сарамяжліва-сарамяжнае, толькі і магло адкрыцца песняй недзе там, на бязлюднай лясной просецы!

Незвычайнасцю апаэтызаванага імгнення запамінаецца і верш Р. Барадуліна «Дарога такая...». Лірычны герой едзе ў аўтобусе,

Ды ўперадзе —
раптам! —
на ўсю дарогу
Месяц заняўся
вялізным стогам.
Стог загарэўся,
палае на ўзгорку.
Вунь пакацілася
іскрай зорка.
Змоўклі кпіны,
змоўклі жарты.
Вачэй не зводзіць
ніхто з пажара....
...Глядзяць на поўню,
як на агледзінах
На маладую
радня жаніха,
І больш ні гуку,
і больш ні слова...

Як хораша ў гэтых вершах Н. Гілевіча і Р. Барадуліна праз душэўнае захапленне лірычнага героя, праз перададзеную паэтамі ўзнёслую прыгажосць імгнення раскрыта вялікае-вялікае — праўда аб светласці душы, аб багацці пачуццяў нашага маладога сучасніка! Такая паэзія і адлюстроўвае душу сучасніка, і ўзбагачае таго, каму не хапае добрых і светлых пачуццяў. Таму і хочацца, каб паэты часцей і часцей прыкмячалі ў жыцці ўзнёслыя імгненні, каб яны былі рамантыкамі!.. Няхай гэтыя імгненні будуць выхаплены відушчым вокам з жыцця рабочага і канструктара, трактарыста і ўрача, будаўніка і вучонага, агранома і касманаўта!.. І няхай сваім характарам лірычны герой нашай паэзіі застаецца ўсё такім жа рамантыкам, якім намаляваў яго калісь М. Ціханаў:

Праздничным, веселым, бесноватым,
С марсианской жаждою творить...

Рамантычнае ў паэзіі ідзе не толькі ад асаблівасцей светаўспрыймання паэта, не толькі ад героя з яго велічнымі пачуццямі, ад паказу жыцця ў вышэйшыя моманты яго праяўлення. Яно таксама выяўляецца ў адносінах паэта да слова.

У 30-я ды і ў 40-я гады рамантыка ў нас раскрывалася пераважна рэалістычна-канкрэтнай вобразна-выяўленчай палітрай. Разам з тым, асобныя паэты праявілі прыкметнае імкненне да рамантызаванага, асацыятыўнага паэтычнага вобраза. У 30-я гады гэтым не без поспеху захапляўся У. Хадыка, у пасляваенны час развіццё асацыятыўнага вобраза перш за ўсё звязана з пошукамі такіх майстроў слова, як М. Лужанін, А. Вялюгін. Для М. Лужаніна характэрны, напрыклад, такія фарбы паэзіі: «вусны ў рассыпістым смеху, як дзве журавіны з першага снегу» («Нечаканая акалічнасць»), «а ў мяне шумяць надзеі тым жа самым свежым лісцем» («Еду, еду трактам бойным»...), «месяц жоўтай грыўняю зазвінеў за кармою» («Ноч на цеплаходзе»).

Паэтычны вобраз тут узнікае з такіх сувязей прадмета з дзеяннем ці з прыкметай, якія яму прыпісваюцца, будучы рэальна прадмету неўласцівыя. Ён больш адлюстроўвае настрой аўтара, ён, як правіла, з падтэк-

стам... Ці месяц звініць? Не! Аднак, падуладныя слову паэта, вы ўбачылі: вось ён, месяц, нырае ў хвалях ад цеплахода, які рэжа люстраную гладзь вады; за кармой хваля пеніцца, пеніцца і вы чуеце ўжо — гудзе, бо гудуць маторы. Адбіўшыся ад берагоў, шум іх поштчакам данёсся да вас, паветра зазвінела і вада зазвінела, — і, сапраўды, ці ж не зазвінеў за кармой жоўтай грыўняй месяц?! Такі паэтычны вобраз трэба чытачу заўсёды дадумаць, дамаляваць.

Паэты па-рознаму рамантызуюць паэтычны вобраз. У С. Грахоўскага, напрыклад, паэтычнае ўвасабленне разгортваецца як бы ў двух сферах — і рэальнага праўдападабенства, і рамантычнай умоўнасці. Так, сваю каханую лірычны герой С. Грахоўскага прыгадвае і дзяўчынкай «басаногаю, шустраю, тонкай», і «залатой сасонкай... маладою, іскрыстаю, крышачку колкай...» («Я цябе прыгадаў»).

Трэба сказаць, што маладой сённяшняй паэзіі да спадобы асацыятыўнасць паэтычнага мыслення. Яна прыняла яго, як адзнаку навейшага стылю, і ў яе багата ўжо яркіх знаходак, як, напрыклад, у Р. Барадуліна:

У верасня — свой асаблівы пах:
Курыць сівец — плыве дымок гаркавы.
Зямлёю пахне бульба у капцах,
**Антонаўкамі — зоры па начах**
**І туманы — ляжалаю атавай.**

Ці ў С. Гаўрусёва:

... дарога
Губляла ў цясніне стромкай след,
Хавалася ў туман. І вартавога
Цямнеў на фоне неба сілуэт.
**Зліваўся непрыкметна ён са змрокам,**
**Са скаламі, з туманам, з цішынёй...**

Або ў П. Макаля:

Калі **мудрыя рукі** ў цябе —
Пад рукамі
Згубіць цвёрдасць сваю,
Памякчэе і камень.

Ці ў таго ж У. Караткевіча:

**Табун выпівае зоркі**
З паверхні лясных межыток.

Асацыятыўнасць паэтычнага мыслення, несумненна, служыць добрую службу ў раскрыцці духоўнага свету сучасніка. Але і тут нельга перабіраць меры, як гэта некалі назіралася ў такога майстра асацыятыўнай лірыкі, як У. Хадыка. Паспрабуйце ўцяміць, напрыклад, што ён хацеў сказаць гэткай вобразнасцю: «як верасень, прыдзі і ляпні у спакой перакананы шыб», «на месяц злосць сваю адбрэша варожай прывязі язык». Вельмі суб'ектыўныя асацыяцыі, якія не ўлічваюць абавязковасці рэальных сувязей, ствараюць чарговы рэбус, а не паэтычны вобраз.

На шчасце, рэбуснасцю наша маладая паэзія не хварэе. Але і ў ёй сустракаецца часам такое, калі, ускладаючы надзеі на асацыятыўнасць, паэты пачынаюць спалучаць неспалучальнае, і ў выніку атрымліваецца, як у П. Макаля:

Крыкінованароджаных,
Барацьбітоў адвага,
Далеч дарог няходжаных, —
У полымі нашага сцяга.

Асацыятыўны вобраз — не адзіная прыкмета рамантычнага стаўлення да паэтычнага слова. Яно праяўляецца таксама ў незвычайнасці, яркасці тропаў, у напружанасці, энергічнай рухомасці рытмаў (прыгадайце верш



Э. Багрыцкага «Кантрабандысты»), у нечаканасці, незвычайнасці рыфмаў і ў іншым.

Спынім яшчэ ўвагу на кантраснасці як ярка-рамантычным штрыху паэтычнага жывапісу. У паказе рамантыкі подзвігу кантрасныя фарбы, напрыклад, вельмі ўдала ўжыў у вершы «Мост на плячах» П. Макаль:

Хоць косці вада зледзянелая зводзіць,
Хоць рояцца **чорныя іскры** ў вачах,
Хоць гразнем мы...
З тупатам гулкім праходзяць
Таварышы нашы
Па нашых плячах...
... Мы, палі ажыўшыя,
Станем у строй...
Глынуўшы паветра гаючага, рушым...
Але не забудзецца бераг круты.
**Блакітнае мора — зялёная суша,**
**Бушлаты счарнелыя — светлыя душы,**
На ўпартых плячах чалавечых —
Масты.

Паэзія нашых маладых — жыццесцвярджальная, светлая думкамі і пачуццямі. У лепшых сваіх узорах яна падымаецца да спроб шматграннага і яркага раскрыцця рамантыкі сучаснасці. Але гэта ёсць толькі ў лепшых узорах. Хочацца, каб у ёй, наогул, не было бяздумнага і кволага, пустога і шэрага, усяго таго, што не ў дружбе з рамантычным — з шырока адкрытым у свет акном, з арлiным палётам думкі, са смелым развbabротам фантазіі, з веліччу пачуццяў. І верыцца, што рамантыкі ў паэзіі не выведуцца, як не можа вывесціся, не можа пакінуць чалавека мара. І яшчэ сама сабою сюды просіцца думка аб яве: народжаная з рамантычнай мары, здзейсненая воляй чалавека, яна сама нараджае новую мару. Якім дзёрзка рамантычным здавалася яшчэ ўчора жаданне чалавека вырвацца ў космас! А сёння? Сёння яно ўжо здзейснілася і, хаця арэолам незвычайнасці мы не перастаем вянчаць герояў космаса, мы ведаем: яшчэ адзін-другі рэйс да зорак, і пра іх мы станем гаварыць з той жа гордай спакойнасцю, з якой гаворым пра спадарожнікі. Ды ці згортвала калі-небудзь крылы мара? Мы зірнулі на Зямлю з космаса, але ці спатолілі мы прагу ступіць на серабрысты Месяц, праплыць над зледзянелымі каналамі Марса, зазірнуць за зялёную смугу туманаў Венеры?..

Белы адзінокі ветразь увасобіў калісьці рамантычную лермантаўскую прагу абнаўлення зямлі ў бурах барацьбы за шчасце, а сасна на горнай вяршыні, якая летуцела адзінока аб паўдзённай пальме — мару паэта аб прыходзе на зямлю сардэчнай цеплыні, што з'яднае ў дружбе ўсіх людзей.

Рэвалюцыя 1917 года, барацьба народа за светлую будучыню нарадзілі рамантычны вобраз цягніка:

Наш паровоз, вперед лети,
В Коммуне остановка!

Які ж вобраз стане ўвасабленнем мар-парыванняў нашага веку — веку рамантыкі, веку расшчэпленага атама і касмічных караблёў, эры пераможнага поступу да камунізма? Ці яго ўжо знайшла наша паэзія? Ці яшчэ знойдзе? Згадаць цяжка, але быць упэўненым, што ён знойдзецца, можна. І тым лягчэй яго будзе знайсці, чым шырэй і глыбей будзе наш погляд на свет, чым ямчэй будуць нам служыць магутныя крылы рамантыкі.



Ніна Мацвеева (злева) на п'едэстале гонару. 1959 год.
Фота Д. Церахава.

# КУДЫ ПРЫВЯЛА НІТКА

**Нарыс**

Бяжыць рэчка Кастрама між сініх узгоркаў, бяжыць, нібы ў цёмны аксаміт апранутая. У маі на які тыдзень убярэцца ў белыя карункі чаромхавай квецені — і зноў пасуровее. Ля самага рэчышча глядзяцца ў яе ваду асінавыя і бярозавыя гаі.

Здавалася, ніколі не бачыла Ніна родныя мясціны такімі прывабнымі і маляўнічымі. За чатыры гады трэніровак ад снегу да снегу аб'ездзіла яна ўсе наваколь-ныя мясціны. Памятае кожны кіламетровы слуп, схіл, паварот, кожны прыдарожны камень. А вось хараства гэтых мясцін раней неяк не заўважала.

Падлеткам не адзін раз бывала тут дзяўчынка. Жаданне зазірнуць за сінія далёкія ўзгоркі было такое вялікае, што яна, выпрасіўшы ў суседа веласіпед, на золаку паімчалася за горад.

Паслухмяны на роўных гарадскіх вуліцах, веласіпед зусім не слухаўся на бруку. Ён шалёна падскокваў па няроўным камені, узнімаючы клубы пылу. Забыўшыся пра цудоўную і невядомую далячынь, Ніна бачыла толькі тую дарогу, што перад сабой.

Так і не даехала тады Ніна да тых далёкіх узгоркаў. На пад'ёме веласіпед «сеў» на задняе кола. Дзяўчыне здалося, што здарылася самае горшае. Яна прымасцілася на прыдарожны валун і горка заплакала.

Цяпер Ніна з усмешкай прыгадвае той памятны дзень, які паклаў пачатак яе дружбы з веласіпедам. Веласіпед вывеў дзяўчыну на трасу ўсесаюзных спаборніцтваў, на першакласныя дарогі Падмаскоўя, Прыбалтыкі, Чарнаморскага ўзбярэжжа Каўказа.

За чатыры гады Ніна стала чэмпіёнам вобласці па плаванню, па каньках, не забывала і веласіпед. Яе запрашаюць у сталіцу Беларусі, ёй прарочаць поспехі, у яе першы разрад па веласіпеду...

Усе гэтыя радасныя навіны вельмі хацелася расказаць той дзяўчынцы, што плакала калісьці над паламаным веласіпедам.

* * *

У Мінску Ніна Мацвеева стала трэнерам. У першыя ж гады юнакі і дзяўчаты, якіх трэніравала Ніна, паспяхова выступалі на ўсіх спаборніцтвах. І трэнера не міналі лаўры спартыўных перамог. Яна неўзабаве стала чэмпіёнкай Беларусі па веласіпеднаму спорту і адной з мацнейшых канькабежцаў рэспублікі.

Пагаварвалі аб тым, што яшчэ год-два, і Ніна ўвойдзе ў дзесятку мацнейшых веласіпедыстак краіны. Студэнты політэхнічнага інстытута, дзе Ніна працавала трэнерам, наперабой расхвальвалі прафесіі будаўніка і металурга, энергетыка і торфаздабытчыка. Ніна нават пачала рыхтавацца да паступлення ў інстытут. Толькі ніяк не магла выбраць, на які факультэт: не вабіў ніводзін з іх. Больш таго. Яна з трывогай у душы пачала заўважаць, што ні трэніроўкі, ні асабістыя перамогі ў спаборніцтвах, ні поспехі вучняў



Ніна Мацвеева (справа) сярод сваіх сябровак.
Фота А. Дзітлава.

не прыносяць ранейшага задавальнення.

Ніна засумавала. Па чым? Па доме?.. Не. Па сапраўднай працы. І вось яна паступае на Мінскі камвольны камбінат.

Калі Ніна афарміла пропуск і пайшла ў цэх, знаёмыя тут былі толькі машыны. Заляпаная цэментам падлога, пралёт з незакончанымі сценамі нічым не нагадвалі светлых цэхаў кастрамской тэкстыльнай фабрыкі «Сцяг працы».

І ўсё ж да канца змены Ніна не пакідала гэтага неабсталяванага, няўтульнага цэха. А праз два дні яе залічылі роўнічніцай з месячным выпрабавальным тэрмінам.

Не, гэта не было здрадай спорту. Проста, вярнуўшыся да працы, Ніна зразумела тое, што ўсе гэтыя два гады трывожыла яе. Спорт быў для яе нібы нейкім доўгім святам, у час якога заўсёды сумуеш па турботлівых буднях.

Дзень яе цяпер дзяліўся на дзве часткі: сем гадзін Ніна ўслухоўвалася ў роўны грукат «сваёй» машыны, беспамылкова, пазнаючы яе «голас» у агульным гуле і шуме. Успыхвала лямпачка над секцыяй, дзе абарвалася нітка, і Ніна, зірнуўшы ўздоўж раду, вызначала месца абрыву.

Запраўка, змена бабін, перазапраўка, чыстка машыны... За гэтымі штодзённымі клопатамі не заставалася часу на роздум. І пра спорт не думалася, нават калі заўтра ці паслязаўтра трэба было ісці на трасу велакросу або выходзіць на ледзяную дарожку...

У цэху спартсменка Ніна Мацвеева раўнавала работніцу Ніну Мацвееву да спорту, на трэніроўках ці спаборніцтвах — да працы. Толькі поўная раўнавага давала пачуццё сабранасці, спакою і сілы. Нарэшце Ніне ўдалося спалучыць дзве свае самыя любімыя справы: працу і спорт.

Перад Нінай адкрылася блізкая перспектыва — увайсці ў зборную краіны па веласіпеду. Зноў узнікла пытанне: чаму аддаць перавагу? Падрыхтоўка да выступлення ў зборнай краіны патрабавала сур'ёзных трэніровак і шмат часу. І якраз у гэты час на камбінаце пачалі набіраць групу для вучобы на памочнікаў майстра.

Асабісты графік узмоцненых Ніных трэніровак так і застаўся нясконченым. Заняткі не пакідалі часу па некалькі разоў на тыдзень займацца спортам.

Але гэта не было развітаннем з лыжамі, канькамі, веласіпедам. Неўзабаве надышлі спартыўныя спаборніцтвы, і Ніна едзе на поўдзень трэніравацца.

Не пераапрануўшыся, нават не змыўшы пыл пасля трэніровачнай гонкі, бегла Ніна запытаць пра пісьмы.

Пісьмы ішлі з камбіната. Падрабязныя і блытаныя, радасныя і сумныя, пісьмы — справаздачы аб працы брыгады, яе брыгады.

Што такое «свая брыгада», Ніна зразумела толькі тады, калі сама стала памочнікам майстра, прасцей кажучы — брыгадзірам. І раней гаварыла не аднойчы «мая брыгада», «наша». Але тады ў «маім» і «нашым» яна адказвала толькі за сябе, за сваю машыну.

Цяпер жа «свая» брыгада — гэта 13—18 выкананых або не выкананых планаў, столькі ж характараў, настрояў, сямейных радасцей і няўдач. Ад таго, як яна забяспечыць брыгаду сыравінай, як хутка здолее знайсці і ліквідаваць паломку ў машыне, пераналадзіць участак на новую сыравіну, ад таго, як часам усмешкай, цёплым словам падбадзёрыць сяброўку, у якой што-небудзь не ладзіцца, — ад усяго гэтага залежаў план, настрой і добрая слава яе брыгады. Усё гэта трэба было паспець успомніць.

Радавацца б цяпер: цэлы месяц — спартыўныя зборы! Новы, незнаёмы горад, новыя людзі і — ніякіх клопатаў, акрамя трэніровак! Ні той перасушанай або дрэнна афарбаванай сыравіны, ні тых вечна надакучлівых стамляючых горш за іншы крос, пераналадак, ні клопатаў аб яслях, месцах у інтэрнаце, пуцёўках для рабочых сваёй брыгады. Снег і мароз. Серабрыста-сінія хваёвыя ўзгоркі ды заледзянелая, гладкая, як вялікі сподак, сажалка ўнізе. Пэўна гэтак жа красуецца ў зімовым убранні і Кастрама, і Мінск. Гэтак жа, як тут, пад Чалябінскам, кліча, вабіць далячынь. Самы час праімчацца з узгорка на ўзгорак на лыжах.

А Ніна спяшаецца ў лагер, бяжыць да стала з пісьмамі, і, не дайшоўшы да свайго пакоя, прыладжваецца ў кутку ля акна, перабірае пісьмо за пісьмом, хмурыцца, смяецца.

«Цудоўныя мае, клапатлівыя», — думае Ніна пра сваіх дзяўчат.

Сапраўды ж цудоўныя яны, самаадданыя... Пра ўсё расказваюць, усім дзеляцца. Калі яна паехала на трэніроўку, далі ім памочніка майстра — па сумяшчэнню. Дык ён «клапаціўся» пра іх, як пра пасынкаў. Для сваёй брыгады — і сыравіна ў час, і машыну адрамантуе ў момант. А ім усё, як ад мачыхі.

Тады дзяўчаты рашылі, пакуль Ніна вернецца, падзяліць абавязкі брыгадзіра паміж сабой. Цяпер вось рапартуюць: Валя Мяшота адказвае за выкананне плана, Ядзя Гатоўка — за эканомію воўны, Клава Шапунова шэфствуе над першымі, самымі капрызнымі машынамі, Соня Мятліцкая — над выхаднымі, самымі адказнымі апаратамі. Пішуць, што з планам усё ў парадку, з эканоміяй добра і з якасцю таксама...

І Ніна зноў перачытвае пісьмо за пісьмом... Чаму гэта дзяўчаты не пішуць, ці прысвоілі брыгадзе званне камуністычнай? Колькі зроблена, колькі разоў, здаецца, былі ўжо ля фінішу, а нешта ўсё не ладзіцца. Ніна адчула, што як ні супакойваюць яе ў пісьмах дзяўчаты, напэўна ім цяжка. І тут вось, у шумлівым калідоры, Ніна рашыла — сезон гэты на ледзяной дарожцы, пэўна, для яе апошні. Будзе трэніраваць дзяўчат і хлопцаў з камбіната. Яна патрэбна моладзі, яна патрэбна брыгадзе.

**Тамара ГОРДЫШАВА.**

# ШЧАСЛІВА, СЯБРЫ!

Мікалай Туманаў тады быў яшчэ школьнікам. Аднойчы ў школу зайшла трэнер Ірына Васільеўна Кныш і спытала, хто жадае займацца ў гуртку акрабатыкі пры Доме піянераў. Яе акружылі шумным натоўпам дзеці. Жадаючых было многа. Праціснуліся да стала і трое сябрукоў — Коля, Юра і Валодзя. Яны таксама запісаліся ў гурток.

Ішоў час. Хлопчыкі вучыліся, ганялі па двары футбольны мяч, бегалі навыперадкі, хадзілі на рэчку... І, вядома, наведвалі гурток акрабатыкі. Трэба было здзіўляцца, як толькі ім часу хапала. Не дзіўна, што Міколава маці нават скардзілася класнаму кіраўніку, што яе сын марна траціць час ды яшчэ і малодшага брата зводзіць. Але Мікалай настояў на сваім. І тым часам вучыцца стаў лепш.



Мікалай і Аляўціна Туманавы.

Фота аўтара.



Туманавы на спаборніцтвах.

Закончана сярэдняя школа. Раз'ехаліся хлопцы, хто куды. Юра Смірноў паступіў у геолагаразведачны інстытут, Валодзя Чудзінаў — у лётнае вучылішча, а Мікалай Туманаў пайшоў служыць у рады Савецкай Арміі. Як вядома, нялёгкая служба ў пагранічніка, але Мікалай нёс яе спраўна, з гонарам. У вольны час трэніраваўся, удзельнічаў у канцэртах мастацкай самадзейнасці. З зайздрасцю сябры пазіралі, як Мікалай упэўнена круціў на пеpaкладзіне «сонца» ці рабіў яшчэ якое-небудзь складанае практыкаванне.

Скончыўшы службу ў 1955 годзе, Мікалай Туманаў вярнуўся ў родную Кастраму. Пачаў працаваць на заводзе.

Неяк зноў сустрэўся з былым сваім трэнерам.

— Прыходзь на трэніроўку, Коля, — запрасіла хлопца Ірына Васільеўна.

І вось Мікалай у знаёмай зале. Цяжка было пазнаць колішніх сяброў — многія ўжо сталі першаразраднікамі, асвоілі нарматывы майстра. Мікалай таксама гарэў жаданнем стаць добрым спартсменам.

На трэніроўках Мікола сустрэўся з Аляўцінай Румянцавай, якая ў той час займалася мастацкай гімнастыкай. Трэнер параіла ім выступаць у пары — заняцца змешанымі практыкаваннямі. Яны згадзіліся. Першыя выступленні акрабатычнай пары былі няўпэўненыя, скаваныя. Але ішлі месяцы. І ўпартыя, настойлівыя трэніроўкі пачалі прыносіць першыя поспехі. Праз год маладыя акрабаты выканалі нарматыў першага разраду.

Займаючыся спортам, Аляўціна і Мікалай старанна рыхтаваліся да паступлення ў інстытут. У 1958 годзе іх мара здзейснілася. Аляўціна і Мікалай паступілі ў Беларускі інстытут фізкультуры. Пачалі займацца ў заслужанага трэнера СССР Міхаіла Ільіча Цэйціна.

Памятаецца, у Мікалая спачатку не ўсё ішло гладка з нямецкай мовай, але на дапамогу прыйшоў яго аднакашнік Валодзя Суматохін. Памагала і Аляўціна, якая стала Мікалаевай жонкай. А ў хуткім часе Мікалая выбралі камсоргам групы. І не памыліліся. Хлопец справіўся з адказным даручэннем.

Неўзабаве ў маладую сям'ю прыйшоў вялікі поспех. Выступаючы на першынстве рэспублікі ў Мінску, Аляўціна і Мікалай Туманавы сталі чэмпіёнамі і ўпершыню выканалі нарматывы майстроў спорту.

Нягледзячы на занятасць вучобай, Аляўціна і Мікалай актыўна ўдзельнічаюць у грамадскай рабоце, з'яўляюцца членамі агітбрыгады, якая выступае ў калгасах, саўгасах, на навабудоўлях нашай рэспублікі. Здольныя акрабаты пабылі ўжо на Бярозаўскай ДРЭС, на Салігорскім калійным камбінаце. Яны былі на міжнародных сустрэчах са спартсменамі Венгрыі, Польшчы і атрымалі там бліскучую перамогу.

Леташні год для Туманавых быў самы «ўраджайны». Яны ўдала выступілі ў Таліне на XV асабіста-камандным першынстве СССР і заваявалі сярэбраныя медалі. Выступалі яны і ў Маскве, на першынстве спартыўнага таварыства «Буравеснік». І зноў ім дасталася перамога: залатыя медалі чэмпіёнаў.

Заканчваюцца дзяржаўныя экзамены. Аляўціна і Мікалай Туманавы атрымаюць дыпломы выкладчыкаў фізічнага выхавання і свае веды, любоў да спорту будуць перадаваць юнай змене. Яны поўны рашучасці адстойваць гонар мацнейшых акрабатаў краіны. Першае на іх сёлетнім спартыўным шляху выпрабаванне — паездка ў Польшчу.

Поспехаў вам, дарагія сябры!

**Міхаіл ЖАЛАБКОВІЧ,**
**студэнт Беларускага інстытута фізічнай культуры.**



# *Шахматы*

**пад рэдакцыяй міжнароднага майстра**
**А. СУЭЦІНА**

## НОВЫЯ КАНДЫДАТЫ Ў МАЙСТРЫ

Шахматнае жыццё Беларусі значна ажывілася ў пасляваенныя гады, калі ў рэспубліку пераехалі на пастаяннае жыхарства такія вядомыя майстры шахмат, як І. Балеслаўскі, К. Зварыкіна і другія. Упершыню ў гэтыя гады Беларусь выйшла на міжнародную шахматную арэну. Аб гэтым сведчаць пераканаўчая перамога (тройчы!) з вялікім лікам над зборнай камандай шахматыстаў Польшчы, перамога над шахматыстамі Венгрыі (праўда, з мінімальным лікам).

Поспехі несумненныя. Але яны ж патрабуюць і далейшых яшчэ большых дасягненняў. Грамадскасць нашай рэспублікі пачала чакаць гэтых новых перамог. Але раптам узніклі расчараванні. У камандных першынствах краіны калектыў шахматыстаў Беларусі цярпеў адну няўдачу за другой. Асабліва ганебны вынік беларускія шахматысты мелі на II Спартакіядзе народаў СССР, калі заваявалі ўсяго толькі восьмае месца!

Асноўная прычына няўдач — у слабай падрыхтоўцы маладых кадраў. З 1953 года зборная Беларусі выступае амаль у нязменным саставе, прычым амаль палова ўдзельнікаў — гэта шахматысты старэйшага ўзросту. Такога становішча няма, здаецца, ні ў адной саюзнай рэспубліцы. Напрыклад, сярэдні ўзрост



Чэмпіён Беларусі па шахматах Альберт Капенгут.

Фота С. Чырэшкіна.

шахматыстаў у зборных камандах Украіны і Латвіі 25—26 год. У беларускай жа камандзе... сярэдні ўзрост больш за 40 год!

І як радасна, што становішча пачынае пакрысе мяняцца. Хутка расце ў нашай рэспубліцы маладая шахматная змена. За апошні год з'явілася звыш дзесяці новых кандыдатаў у майстры! І ўсё гэта — вельмі перспектыўныя шахматысты.

Вельмі радуе поспех васемнаццацігадовага Альберта Капенгута (Мінск), які атрымаў у гэтым годзе званне чэмпіёна Беларусі. Праўда, у чэмпіянаце 1962 года ўдзельнічаў толькі адзін майстар—А. Ройзман. Але пры любым складзе ўдзельнікаў стаць чэмпіёнам — нялёгкая справа. Гэты поспех А. Капенгута зусім не выпадковы. У канцы 1961 года ён выйграў першынство Мінска па швейцарскай сістэме, калі прымалі ўдзел у спаборніцтве семдзесят мацнейшых кандыдатаў у майстры і першаразраднікаў нашай сталіцы. На ўсесаюзнай арэне сярод сваіх аднагодкаў А. Капенгуту пакуль што яшчэ не ўдалося сябе зарэкамендаваць. У першынстве Савецкага Саюза сярод рабочай моладзі А. Капенгуту прыйшлося задаволіцца толькі тым, што ён падзяліў 4—5 месцы.

У дружнай сям'і беларускіх шахматыстаў здараецца часам і сумнае. Вось, напрыклад, юны віцяблянін Цімафей Глушнёў. І беларуская і ўсесаюзная шахматныя арганізацыі рабілі ўсё для росту гэтага несумненна здольнага юнака. А сам Глушнёў? Як рэагаваў ён на гэту дапамогу? Ці працаваў ён як належыць над павышэннем свайго майстэрства? На жаль, у Глушнёва пачалося такое захапленне сваімі поспехамі, што ён зусім занядбаў працу, перастаў займацца ўдасканальваннем шахматнага майстэрства, а што самае горшае — стаў нават амаральным чалавекам,ператварыўся ў частага госця выцвярэзніка і героя фельетонаў. Унутраная спустошанасць, адрыў ад калектыву і грамадска-карыснай працы прывялі да сумных вынікаў.

Добра, што такія прыклады адзінкавыя. У асноўным мы атрымалі за гэты час добрую, здольную і працавітую шахматную змену. Усе шахматысты ўмеюць спалучаць шахматы з вучобай і працай.

Шахматная творчасць маладых кандыдатаў у майстры вельмі цікавая і плённая. Прывядзем для прыкладу характэрную партыю, сыграную на ўсесаюзным масавым турніры ў г. Уладзіміры:

Рубан (Беларусь) — Барстайціс (Літва).

Скандынаўская абарона: 1. e4 d5, 2. ed Кf6, 3. Сb5+Сd7, 4. Сс4 b5, 5. Сb3 Сg4, 6. Кf3 К:d5, 7. Кс3 с6, 8. 0—0 е6, 9. d4 К:с3, 10. bс Сd6, 11. h3 Сh5, 12. Лe1 0—0, 13. g4 Сg6, 14. h4 h5, 15. Кg5 hg, 16. Ф:g4 Сf5, 17. Фh5 Фс7.



Пасля бліскучай камбінацыі: 18. Л:е6!! Се7, 19. К:f7 Л:f7, 20. Лh6, і чорныя здаліся.

# НА ВОСТРАВЕ КЮРАСАО

«Геаграфія» шахматных спаборніцтваў усё пашыраецца. Паглыбімся крыху ў гісторыю. Шмат стагоддзяў таму назад шахматы нарадзіліся ў Індыі, а потым у ранняе сярэдневяковое праніклі ў Еўропу і Азію. У мінулым стагоддзі яны сталі папулярныя на ўсіх мацерыках зямнога шара. Славіцца сваімі шахматнымі традыцыямі і гераічная Куба. У канцы мінулага стагоддзя за сусветную шахматную карону двойчы змагаўся чэмпіён свету В. Стэйніц і вядомы рускі шахматыст М. Чыгорын, які правёў на далёкай Кубе шмат часу і быў там адным з першых пасланцоў рускай зямлі.





**Прэтэндэнты на сусветнае першынство па шахматах перад адлётам з Масквы на в. Кюрасао: Тыгран Петрасян, Міхаіл Таль, Яфім Гелер, Пауль Керас, Віктар Карчной.**

Фота **Б. Турава.**

Яшчэ больш папулярнымі на Кубе шахматы сталі ў пачатку XX стагоддзя ў перыяд росквіту шахматнага таленту прадстаўніка гэтага невялікага, але таленавітага народа — Х. Р. Капабланкі. Якраз там у Гаване ў 1921 годзе Х. Капабланка атрымаў перамогу над чэмпіёнам свету Э. Ласкерам. Капабланка быў вялікім сябрам савецкіх шахматыстаў, удзельнікам усіх трох міжнародных турніраў, якія адбыліся ў 1925, 1935 і 1936 гадах у Маскве.

І вось сёлета на свабоднай Кубе праходзіў грандыёзны і па саставу і па колькасці гросмайстраў і майстроў міжнародны турнір памяці Капабланкі. Гэты турнір прыцягнуў велізарную ўвагу сусветнай шахматнай грамадскасці. Але, здаецца, яшчэ большую ўвагу выклікаў другі турнір — турнір прэтэндэнтаў, які таксама праходзіў недалёка ад Кубы — на маленькім востраве Кюрасао (з групы Малых Антыльскіх астравоў).

Востраў Кюрасао не мае ніякіх шахматных традыцый. Вядомы ён перапрацоўкай венесуэльскай нафты, цудоўнымі кліматычнымі ўмовамі для курортнага адпачынку (там горача, але даволі суха), марачным лікёрам і багатымі турыстамі. Ды і жыхароў там зусім мала — крыху больш 50 000 чалавек. Ніхто з шахматыстаў не думаў, што турнір будзе праводзіцца ў Кюрасао. Хутчэй за ўсё, арганізатары турніра мелі на ўвазе рэкламу прыгажосці вострава Кюрасао і... яго славутых лікёраў.

Здаецца, ніколі яшчэ на турніры прэтэндэнтаў не было так мала гледачоў. Зала, дзе праходзіў турнір, можа змясціць толькі 50 чалавек. Калі ўлічыць, што сюды ўваходзяць і суддзі, і секунданты, і карэспандэнты, стане зразумела, што становішча простых аматараў шахмат было невясёлае. Можа таму так вельмі апаратыўна працавалі тэлеграф і радыё. Наша радыё ў першых ранішніх выпусках інфармавала аматараў шахмат пра вячэрнія вынікі спаборніцтва (час на востраве Кюрасао значна адрозніваецца ад маскоўскага).

Барацьба на турніры была вельмі цікавая і напружаная. Сенсацыі пачаліся ўжо на старце. Трэба адзначыць, што большасць спецыялістаў перад пачаткам турніра вельмі высока ацэньвала шансы гросмайстраў М. Таля і юнага амерыканца Р. Фішара. Але першыя туры прынеслі расчараванне балельшчыкам. Абодва фаварыты пачалі турнір з двухразовых паражэнняў. Таль іграў значна ніжэй сваіх магчымасцей. Выдатны тактык, ён на гэты раз рабіў вельмі грубыя промахі і ўжо ў першым крузе страціў рэальныя шансы на перамогу ў турніры.

Барацьба за лідэрства адбывалася галоўным чынам паміж савецкімі

гросмайстрамі В. Карчным, Т. Петрасянам, П. Керасам і Я. Гелерам.

Вельмі павучальная партыя сыграна на гэтым турніры паміж Я. Гелерам і Р. Фішарам. Вось яна.

Сіцыліянская абарона. 1. e4 c5, 2. Кf3 d6, 3. d4 cd, 4. К:d4 Кf6, 5. Кc3 a6, 6. Сe2 e5, 7. Кb3 Сe7, 8. 0—0 0—0, 9. Сe3 Фc7, 10. a4.

Цікава, што да гэтага ходу партыя паўтарала сыграную на міжзанальным турніры ў Стакгольме. Там Фішар працягваў 10. ...b6, але гэта зрабіла для яго гульню цяжкай. Тут Фішар вырашыў паспрабаваць новы працяг: 10. ...Сe6, 11. a5! Кbd7, 12. Кd5 К:d5, 13. ed Сf5, 14. c4 Сg6, 15. Лc1.

Гелер іграў па распрацаванаму ім жа самім плану. Задача белых простая: яны паслядоўна ўзмацняюць націск на ферзевым фланзе. У чорных не бачна дастатковага контрнаступлення.

15. ... Кc5, 16. К:c5 dc, 17. b4 Лac8, 18. Фb3 Сd6, 19. Лfd1 Фe7, 20. bc С:c5, 21. С:c5 Л:c5, 22. Лca1!

Тонкі манеўр! Белыя не толькі абараняюць важную пешку «a5», але і намячаюць перавод ладдзі праз поле «a4» на лінію «b», ствараючы націск на пункт «b7». З кожным ходам пагроза з боку белых нарастае, а магчымасці абароны чорных памяншаюцца.

22. ...Лfd8, 23. Лa4 Сf5, 24. Лb4 Сc8, 25. Лb6 Лd6, 26. Фb4 Фc7, 27. Л:d6 Ф:d6, 28. Лb1 Фc7, 29. Фa4 Сd7, 30. Фa3 Л:a5, 31. Л:b7!

Правільныя манеўры белых прывялі да фарсіраванага вырашэння пазіцыі. Белыя дамагаюцца рашаючай перавагі.

31. ... Ф:b7, 32. Ф:a5 g6, 33. h3 Фb1+, 34. Крh2 Сf5, 35. Фc3 Фe4, 36. Сf3 Фd4, 37. Ф:d4 ed, 38. g4 Сc8, 39. c5 a5, 40. c6 Крf8, 41. d6!, і чорныя здаліся. Пешкі белых няўмольна ідуць у фярзі.

Напружаная двухмесячная барацьба закончана. Новым прэтэндэнтам на сусветную шахматную карону стаў Тыгран Петрасян.

# ТАКІ РОБЕРТ ФІШАР

### Замест партрэта

**Нядаўна англійскі часопіс «Чэс» апублікаваў інтэрв'ю дзевятнаццацігадовага амерыканскага гросмайстра Роберта Фішара, якое той даў журналісту Ральфу Гінзбургу. Фрагменты з гэтага інтэрв'ю, надрукаваныя ў № 9 часопіса «Шахс» (Рыга), мы падаем тут.**

«Бобі з'явіўся ў маім бюро ў Манхэтэне 25 жніўня мінулага года. Мы дамовіліся сустрэцца ў тры гадзіны, але ён пазваніў у чатыры і сказаў, што ісці няма настрою. Калі ж ён усё-такі прыйшоў, дык зноў спазніўся на цэлую гадзіну. Не пастукаўшы, ён моцна расчыніў дзверы, перасек пакой вялікімі крокамі і звярнуўся да мяне з наступнымі словамі: «Эй, у вас ёсць тут што-небудзь паесці?» Я адказаў, што зараз закажу...

— Ліза Лейн (чэмпіёнка ЗША па шахматах) сцвярджае, — і да яе думкі далучаюцца многія іншыя, — што вы цяпер — самы моцны шахматыст свету.

— Гэта так, але Ліза Лейн не кампетэнтна ў гэтым пытанні. Няма такой шахматысткі ў свеце, якой бы я не мог даць каня ўперад і ўсё ж выйграць.

— Што вы думаеце пра такіх чэмпіёнаў, як Батвіннік, Таль, Керас, Смыслоў? Ці зможаце вы іх перамагчы?

— Яны — нішто ў параўнанні са мною, гэтыя хлопцы. Некаторыя,



праўда, лічаць іх больш моцнымі, чым я. Гэта мяне абражае.

— Вы лічыце сябе самым моцным шахматыстам усіх часоў, мацнейшым за Капабланку, Стэйніца, Морфі?

— Мне не падабаецца, калі такія рэчы з'яўляюцца ў друку. Але на ваша пытанне я магу адказаць толькі сцвярджальна.

— Вы зарабляеце на жыццё шахматамі?

— Я і Рашэўскі — адзіныя ў Амерыцы, хто гэта робіць. Мы зарабляем нямнога. У другіх майстроў ёсць іншыя прафесіі: Рассаліма — шафёр, Эванс працуе ў кіно. А мы залежым ад турнірных прызоў, якія амаль заўсёды мізэрныя. Некалькі сот долараў. Мільянеры, праўда, падтрымліваюць шахматыстаў. Але недастаткова. Для турніраў па гольфу яны не шкадуюць і 30 000 долараў, а на шахматы кідаюць тысячонку ці дзве — і яшчэ пахваляюцца гэтым. Турнірам жа прысвойваюцца іхнія імёны, кожны павінен ім нізка кланяцца, гуляць тады, калі хочуць яны, — і ўсё гэта за пару тысяч долараў, якія для іх нічога не значаць і якія яны адлічваюць ад свайго падаходнага падатку.

— Чаму мільянеры так неахвотна падтрымліваюць шахматы?

— Гэта віна саміх шахматыстаў. Я не ведаю, якія яны былі раней, але цяпер зусім не падобны на джэнтльменаў. Тады, калі ў шахматы гулялі ў асноўным толькі арыстакраты, шахматы карысталіся большай павагай. Калі ў шахматы гулялі ў клубах, туды быў забаронены ўваход жанчынам, кожны павінен быў быць апрануты ў добры касцюм і пры гальштуку, як сапраўдны джэнтльмен. Цяпер у клубах хлапчукі амаль што ў тапачках, туды пускаюць жанчын, людзі крычаць, як у вар'яцкім доме.

Голас Бобі зрабіўся жаласліва-віскатлівы. Я заўважыў, што пазногці ў яго на руках абгрызены.

— Бобі, гавораць, што з іншымі шахматыстамі вы паводзіце сябе, як прымадона. Што вы можаце пра гэта сказаць?

— Я не ведаю, што вы ўкладаеце ў паняцце прымадона, але калі мяне што-небудзь не цікавіць або надакучыла, або мне здаецца, што гэта бязглуздзіца, я паказваю, што мне да гэтага няма ніякай справы, і гэта ўсё.

— Школа вам таксама надакучыла?

— У школе няма чаму вучыцца. Гэта толькі марная трата часу. Вас прымушаюць поркацца ў кнігах і рабіць дома ўрокі. Рабіць урокі наогул непатрэбна. Ні для кога гэта не цікава. Настаўнікі дурныя. Нельга, каб настаўнікамі працавалі жанчыны. Яны не маюць ніякага ўяўлення, як трэба выкладаць. Нельга прымушаць да наведвання школы. Калі вы не жадаеце хадзіць у школу, вы не ідзіце, і ўсё! Гэта смешна, але я не магу ўспомніць, чаму я навучыўся ў школе. Я дарэмна патраціў 2,5 гады ў Эвансаўскай вышэйшай школе. Мне не падабаецца ўсё гэта. Вы павінны сустракацца з усімі дурнымі хлапчукамі. Настаўнікі яшчэ больш дурні, чым хлапчукі, хоць і глядзяць на іх звысоку. Калі б мне дазволілі, я б кінуў школу раней чым у шаснаццаць год.

Калі я спытаў у Бобі пра яго асабістае жыццё, ён адказаў, што нарадзіўся ў Чыкага, 9 сакавіка 1943 года. Яго бацька быў студэнтам-фізікам, маці — сястрой міласэрдзя і настаўніцай. Ён мае сястру, старэйшую за яго. Бацькі ўзялі развод, калі ён яшчэ быў маленькі. Маці з дзецьмі жыла ў Каліфорніі, у Арызоне, пазней у Нью-Йорку, у Брукліне. Бацька Бобі неўзабаве пасля нараджэння сына паехаў за мяжу, і ён яго не памятае. Маці Бобі адна ўтрымлівала сям'ю (сястра Бобі пазней характарызавала мне сваю маці, як вельмі здольную і энергічную жанчыну). Яна ведае не меней як шэсць моў, мае незакончаную медыцынскую адукацыю.

У 1957 годзе, калі Бобі было чатырнаццаць год, ён стаў чэмпіёнам ЗША, а на наступны год атрымаў самае высокае званне — міжнароднага гросмайстра.

— Пасля гэтага я кінуў школу,— сказаў Бобі.

— Як гэта сустрэла ваша маці?

— У нас розныя погляды. Маці залішне ўпартая. Яна бесперапынна паўтарала, што я занадта захапляюся шахматамі, што мне трэба шукаць сяброў па-за шахматамі, што нельга жыць ад шахмат, што я павінен канчыць школу і рабіць яшчэ розныя глупствы. Маці не давала мне спакою, і таму мне прыйшлося ад яе вызваліцца.

— Яна пакінула вашу кватэру ў Брукліне?

— Так, яна пераехала ў Бронкс, а я застаўся ў кватэры. Цяпер яна раз'язджае з пацыфістамі (прыхільнікамі міру—**Рэд.**). У мяне няма з ёю нічога агульнага.

— Мне здаецца, што яе заслуга ў вашых поспехах вельмі вялікая. Яна ж летась аб'явіла галадоўку і пікеціравала Белы дом, каб дамагчыся сродкаў для паездкі каманды ЗША на шахматную алімпіяду ў Лейпцыг.

— Так, але яна не ведала, што робіць. Ёй не варта было ўмешвацца ў шахматы.

Я папрасіў Бобі апісаць тыпічны для яго дзень.

— Шмат часу праводжу ў раз'ездах. Еўропа, Паўднёвая Амерыка, Ісландыя. Калі я бываю дома, дык нічога асаблівага не раблю. Устаю каля адзінаццаці, апранаюся, перагортваю старонкі якой-небудзь шахматнай кнігі, іду есці. Ніколі не гатую сабе ежу, не бываю ў буфетах і аўтаматах. Мне падабаецца, калі мяне абслугоўвае афіцыянт у дарагім рэстаране. Потым, звычайна, наведваю каго-небудзь са сваіх сяброўшахматыстаў, аналізую якую-небудзь партыю або займаюся яшчэ чым-небудзь. Заходжу ў шахматны клуб або гляджу фільм. Нічым асаблівым не займаюся. Часам вывучаю якую-небудзь шахматную кнігу.

— У горадзе вы часцей за ўсё ездзіце ў метро?

— На жаль, — так. Але там так брудна. Хлапчукі бачаць, што ў мяне прыгожыя чаравікі, і стараюцца наступіць мне на ногі. Людзі едуць у рабочай вопратцы, ціснуцца ў вагоны, як статак жывёлы. Гэта пачварна!

— Не, я не маю блізкага сябра. Я не маю ніякіх таямніц. Мне не патрэбны сябар. Я заўсёды кожнаму гавару тое, што думаю. Вось і ўсё.

Размова закранула пытанне аб вопратцы.

— Мне здаецца, што вопратка для вас мае вялікае значэнне. Вы ніколі не апраналіся неахайна?

— Праўда, да шаснаццаці год я апранаўся дрэнна. Вы ўжо ведаеце, што людзі да мяне адносіліся не з вельмі вялікай павагай. Мне гэта не падабалася, і я вырашыў паказаць, што яны зусім не лепшыя за мяне. Яны як быццам пахваляліся: так, ён здольны перамагчы нас у шахматах, але сам — дрэнна выхаванае хлапчанё. Таму я вырашыў добра апранацца.

Я заўважыў, што Бобі носіць зялёны гальштук, белую кашулю і карычневы касцюм у палоску. Апрануты ён быў выключна старанна.

— Дзе вы купляли свае касцюмы?

— Яны ўсе пашыты на заказ.

— Вопратка — ваша слабасць, ці не так?

— Не, хутчэй, — сіла, — ён засмяяўся.

Я спытаў у Бобі, ці мае ён якіянебудзь іншыя інтарэсы, апрача шахмат і вопраткі. Відавочна, не. Нядаўна ён вырашыў пачаць займацца дзю-до, але, агледзеўшы нью-йоркскую школу дзю-до, прыйшоў да наступнага вываду: «занадта нізкі клас, занадта многа шуму і няма месца, куды пакласці адзенне». І Бобі кінуў гэты намер. Нейкі час ён цікавіўся варажбою на руцэ, і сказаў: «Гэта сапраўдная навука, а не бязглуздзіца, як астралогія».

Бобі часта слухае радыё, асабліва калі Масква перадае шахматныя паведамленні. Яго самы любімы акцёр Майлан Бранда.

Мы прагаварылі амаль пяць гадзін, і настаў час адвезці Бобі дахаты.

— Перш, чым мы закончым, — сказаў я, — хачу задаць вам яшчэ адно пытанне. Вы з пагардаю ставіцеся да многіх людзей. Мне хацелася б ведаць, ці ёсць такая катэгорыя людзей, якой вы бязмежна захапляецеся?

Надышла вельмі працяглая паўза. Бобі здзіўлена глядзеў на мяне.

— Я не ведаю. Ах, ёсць, арыстакраты! Так, я ў захапленні ад арыстакратаў!

Інтэрв'ю закончылася. Многае высветлілася.

Кватэра Бобі знаходзіцца ў тым раёне Брукліна, дзе найбольшы працэнт злачыннасці ва ўсім Нью-Йорку. Гэта чатырохпавярховы дом з цырульняй і кандытарскім магазінам на першым паверсе. Бобі расказаў, што ў яго чатырохпакаёвай кватэры каля 200 шахматных кніг, стусы шахматных часопісаў і інкруставаны шахматны столік, які быў спецыяльна заказаны ў Швейцарыі. У кватэры тры ложкі, у якіх Бобі спіць па чарзе. Ля кожнага ложка — шахматны столік.

Быў гарачы жнівеньскі надвячорак, і людзі ў адных кашулях сядзелі на прыступках. Дзеці гулялі ў хованкі. Чуліся гукі рок-н-рола. Бобі вылез з машыны, абышоў яе і прасунуў галаву ў акенца, каб развітацца. Я спытаў у Фішара, што ён будзе рабіць, калі яму ўдасца перамагчы Батвінніка і зрабіцца чэмпіёнам свету.

— Перш за ўсё, — сказаў ён, — аб'еду ўвесь свет з выступленнямі. Запрашу нечуваныя да гэтага часу ганарары. Замацую новыя нормы. Прымушу плаціць тысячы. Потым прыеду дамоў на акіянскім лайнеры ў каюце першага класа. Дома напішу некалькі шахматных кніг. У мяне будзе свой шахматны клуб. Клуб Бобі Фішара, не... Роберта І. Фішара. Вось гэта будзе класна! Суддзі ў вячэрніх касцюмах. Клуб будзе размешчаны ў арыстакратычным раёне горада. Уваход строга абмежаваны. Арганізую буйныя міжнародныя турніры ў сваім клубе з каштоўнымі прызамі. Выдалю з шахмат усіх мільянераў, у выпадку, калі яны не дадуць дастаткова грошай. Потым куплю аўтамабіль, каб больш ніколі не ездзіць у метро. Магчыма, куплю яхту. Пашыю сабе новыя касцюмы. Хачу быць адным з дзесяці самых элегантных мужчын у свеце. Я чытаў, што герцаг Спайдар склаў такі спіс. Пабудую сабе дом. Не ведаю, дзе, магчыма, у Ганконгу. Кожны, хто там быў, гаворыць, што там можна купіць цудоўныя касцюмы за 20 долараў...

* * *

**На гэтым фрагменты інтэрв'ю ў часопісе «Шахс», дзе яны надрукаваны пад загалоўкам «Горка чытаць такое...», заканчваюцца. Але, мусіць, хопіць і гэтага, каб атрымаць поўнае ўяўленне аб духоўнай спустошанасці выскачкі-амерыканца.**

**Мы не збіраемся адмаўляць спецыфічна шахматнага таленту Фішара. Чалавек гэты вельмі таленавіты ў галіне шахмат. Але, разам з тым, вынікі славутага амерыканскага «практычнага» выхавання бачны ва ўсім. Побач з шахматным талентам спакойна суіснуюць цынізм, бессардэчнасць у адносінах нават да блізкіх, да маці, здзіўляюча грубыя адносіны да школы, зняважлівыя адносіны да руху прыхільнікаў міру.**

**Слушна гаворыць амерыканскі прапаведнік Біл Грэхем: «Амерыку раз'ядае маральны і духоўны рак, які немінуча прывядзе да пагібелі краіны, калі тэрмінова не пачаць лячыць хваробу».**

# Гумар і сатыра



Мал. Г. Скамарохава.

З кепскай гаспадыняй
Кепска жыць, вядома, —
Ані з ёю ў людзі,
Ані з ёю дома.

...Як зірнуць, здаецца,
Не брыдкая з твару,
І той стан, як трэба,
І ў грудзях шмат жару.

Але як там далей
Так і гэтак глянеш, —
Нікне ўся павабнасць,
Любіць перастанеш.

...Па кутках і столі
Павуціння густа,
Гразі на падлозе —
У поўаршына луста.

...Ну, а пойдзе ў грады, —
Поліць, як з пахмелля:
Вырве бурак, моркву,
А пакіне зелле.

...Гэтак яна ў працы,
Гэтак яна ў хаце,
З языком затое
Не раўня нам, браце.

Ой, на гэту справу
Не гультай, не зломак,
І прыйсці да слова
Век не дасць нікому.

(Я. Купала. «Гутарка аб кепскай гаспадыні»).



Кепска, калі кепскі
Ўдасца гаспадар, —
Сам у сваім доме
Ніякі ўладар.

У яго парадак —
Адпусці ты грэх:
І сабе на гора,
І людзям на смех.

...Праца ў яго, праца —
Мабыць з гультаёў:
Рана спаць кладзецца,
Позна устае.

...Паарэ наўзрэхі,
Куст расце — расці!
Церабіць не варта,
Можна абыйсці.

(Я. Купала «Гутарка аб кепскім гаспадару»).





Марная трывога.

Мал. У. Конаша.

Спачатку радасці, а потым нягоды.

Мал. У. Лося.







Анатоль ГАЛЧАНАЎ

# ЧУЛАСЦЬ



Асуджаны да немінучай смерці,
Касы сказаў Ваўку: «Паверце,
Я так удзячны вам...
Я вельмі рад,
Што вы мяне не з'елі год назад.
Другі б... не вы... напрыклад, Леў».
І Воўк расчуліўся
Пасля,
Як Зайца з-еў.



Мал. А. Арцімовіча.

## ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**





Вечарынка ў калгасе. Фотаэцюд А. Дзітлава.



**І. Рамаtoўскі. Янка Купала і моладзь.**

Літаратурны музей Янкі Купалы.



**Савецкі народ ганарыцца тым, што яго ўрад, Цэнтральны Камітэт КПСС на чале з вялікім змагаром за мір таварышам Хрушчовым вядуць нястомную барацьбу за раззбраенне, за ліквідацыю пагрозы вайны.**

**Гэты здымак зроблен у верасні 1960 года на турбаэлектраходзе «Балтыка», калі Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў плыў за акіян, каб з трыбуны ААН абвясціць на ўвесь свет ідэю ўсеагульнага і поўнага раззбраення.**

Фота **У. Лебедзева.**



**Вось дык машына!** Фота **Г. Усламава.**
Трэцяя Рэспубліканская фотавыстаўка «Сямігодка ў дзеянні».

**На спаборніцтвах.** Фота **Д. Церахава.**
Трэцяя Рэспубліканская фотавыстаўка «Сямігодка ў дзеянні».